Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 33 (4628) 19 жніўня 2011 г.





# Сезон Адама Мурзіча

**Мастацкім кіраўніком Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра заслужаны работнік культуры Беларусі Адам Мурзіч працуе з ліпеня мінулага года. Ён прыйшоў на гэтую пасаду ў складаны для калектыву час: тут на працягу многіх сезонаў рэй вялі канфліктныя высвятленні адносін, страчвалася пераемнасць акцёрскіх пакаленняў, спакваля разбураліся лепшыя традыцыі, размываліся творчыя крытэрыі, вызначальныя для статусу тэатра як беларускага, музычнага, акадэмічнага, дзяржаўнага... Імя новага мастацкага кіраўніка заставалася сакрэтам для тэатральнай грамады. А калі адбыліся "афіцыйныя ўваходзіны" і ён быў прадстаўлены творчаму калектыву, Мурзіча сустрэлі шчырымі апладысментамі.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Кастуся Дробава**

І вось — мінуў яго першы сезон. Мінуў год, адметны для тэатра канструктыўнай прафесійнай працай, пошукам і здзяйсненнем свежых мастацкіх ідэй, новых праектаў, паспяховымі прэм'ерамі. Мурзічу зноў можна паапладзіраваць! Тым болей, што акурат сёння Адам Асманавіч прымае віншаванні з днём нараджэння: яму споўнілася 70.

У асяроддзі музыкантаў яго асоба знакамітая і паважаная: адзін з лепшых айчынных педагогаў па вакале, А. Мурзіч мае вялікія заслугі ў развіцці беларускай школы акадэмічных спеваў, у падрыхтоўцы спецыялістаў-выканаўцаў. Вядома нямала гісторый пра тое, як Адам Асманавіч літаральна "выратоўваў галасы", а ўрэшце — лёс маладых спевакоў, выпраўляючы чужыя прафесійныя памылкі. Ён доўгі час (чатыры дзясяткі гадоў!) працаваў у Мінскім дзяржаўным музычным вучылішчы імя М.І. Глінкі, узначальваў там вакальнае аддзяленне. Па запрашэнні маэстра М. Фінберга пабыў кансультантам групы салістаў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі. Паралельна выкладаў сольныя спевы ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, аднак ад прэстыжных прапаноў перайсці туды ў штат адмовіўся. Пры ім 80 працэнтаў выпускнікоў ММВ працягвалі навучанне спевам у лепшых кансерваторыях былога СССР. Вучняў, якія скончылі клас А. Мурзіча, і выхаванцаў, на чыё прафесійнае ўдасканаленне паўплывалі кансультацыі майстра, — не злічыць: пераможцы прэстыжных міжнародных конкурсаў і фестываляў, яны працуюць у лепшых творчых калектывах краіны, спяваюць на музычных сцэнах Аўстрыі, Германіі, Расіі, Украіны, Францыі... Школу Мурзіча прайшлі вядучыя салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Алег Мельнікаў, Ілья Сільчукоў, Станіслаў Трыфанаў, Дзмітрый Капілаў, Аляксандр Жукаў...

І раптам Яго Вялікасць Настаўнік пагадзіўся на круты паварот у сваёй дзейнасці. Ён прыйшоў у тэатр, вызначыўшы для сябе канкрэтныя задачы: павялічыць у рэпертуары колькасць класічных твораў, актывізаваць працу над беларускім нацыянальным музычным матэрыялам, паспрыяць павышэнню выканальніцкага майстэрства творчага калектыву. Прыроджаны лідар, інтэлігент і мудрэц, чалавек шчыры і ўраўнаважаны, А. Мурзіч адразу падкрэсліў, што ні "палачнай дысцыпліны", ні дыктату з боку мастацкага кіраўніцтва не будзе: "Я цалкам давяраю прафесіяналізму і досведу калег — дырыжора, рэжысёра, балетмайстра. Я павінен стварыць умовы для раскрыцця і развіцця высокамастацкіх ідэй, добрага густу, адпаведным чынам фарміруючы рэпертуар, дбаючы пра паўнавартасны склад і належны прафесійны ўзровень трупы. І "любімчыкаў" у мяне не будзе: яны будуць у публікі".

Пытаюся ў Адама Асманавіча, ці не расчаравала яго новая праца. "Чым больш уваходжу ў жыццё тэатра, тым цікавей рабілася! Раней займаўся выключна вакалам, рыхтуючы артыстаў да ўваходжання ў свет вялікага мастацтва. Цяпер — зусім іншае кола абавязкаў, бо я непасрэдна спрычынены да гэтага мастацтва, якое нараджаецца ў складаным спалучэнні жывой музыкі, харэаграфіі, сцэнічнага дзеяння, дэкарацый, касцюмаў і, вядома ж, спеваў. Я мушу спрыяць суладнасці індывідуальных мастацкіх намераў, творчаму камфорту ўсіх, хто працуе поруч".

*"Наўрад ці варта дзівіцца з таго, што прозвішча Мурзіч сустракаецца і ў тэкстах пра гісторыю татараў Вялікага Княства Літоўскага, і ў хроніцы з жыцця сучаснага беларускага касцёла. Як заўважыў Адам Асманавіч, пад заходнім літвінска-польскім уплывам трансфармавалася і само спрадвечнае прозвішча "Мурза" (слоўнік нагадвае, што ў цюркскіх народаў так называлі прадстаўнікоў феадальнай знаці, тытулаваных асоб). Дарэчы, нарадзіўся ён у Ляхавічах. Пасля дзесяцігодкі працаваў на будоўлях, служыў у войску... Сям'я захоўвала і шанавала мусульманскія традыцыі роду. "Паўтара года таму не стала маёй маці. Яе апошнім духоўным наказам мне было — аб'ехаць усе мясціны, дзе пахаваныя нашы продкі, — расказвае А. Мурзіч. — Я выканаў наказ: пабываў у Капылі, Гарадзішчы, Навагрудку..."*

Сам Адам Асманавіч ніколі не быў артыстам, хоць прырода падаравала яму багаты голас, а лёс — добрую вакальную школу (Брэсцкае музычнае вучылішча, Беларуская дзяржаўная кансерваторыя). У студэнцкія гады, задумаўшыся пра сольную кар'еру, бескампрамісны і самакрытычны А. Мурзіч пачаў сумнявацца: маўляў, для ўвасаблення галоўных оперных партый спеваку патрэбна іншая сцэнічная фактура. Невядома, чым скончыліся б тыя сумненні, але якраз паступіла прапанова працягнуць педагагічную практыку на прафесійнай аснове. І Мурзіч пачаў выкладаць у Мінскім музычным вучылішчы...

Нават змяніўшы прафесію, Адам Асманавіч застаецца, як ён кажа, педагогам на ўсё жыццё. Адной з першых ініцыятыў новага мастацкага кіраўніка сталася запрашэнне на працу ў БДАМТ у якасці педагогаў-кансультантаў па вакале знакавых асоб: Наталлі Гайды і Пятра Рыдзігера. Вядома, сёння і сярод салістаў, і ў тэатральным хоры нямала вучняў Мурзіча. Будуць і новыя, бо ён знаходзіць час для правядзення майстар-класаў, кансультацый. Працуючы ў тэатры, падрыхтаваў траіх артыстаў да І міжнароднага конкурсу вакалістаў "Гран-при Санкт-Петербурга", у якім удзельнічала больш як 200 выканаўцаў з розных еўрапейскіх краін. Беларусы выступілі паспяхова: Яўген Ермакоў стаў лаўрэатам ІІІ прэміі, Сяргей Суцько — дыпламантам.

Ён марыць і пра сваё прафесійнае спаборніцтва для спевакоў: у новым сезоне плануе заручыцца падтрымкай Міністэрства культуры ды Мінскага аблвыканкама і запачаткаваць у сценах тэатра ўсебеларускі конкурс маладых вакалістаў імя С. Манюшкі, па сутнасці адрадзіўшы на новым узроўні "Убельскую ластаўку". Ёсць і намер паставіць адну з Манюшкавых камічных опер. І правесці ўнутрытэатральны конкурс на лепшы твор сучаснага айчыннага кампазітара, напісаны на беларускую нацыянальную тэму.

Аўтар праекта "Барытоны Беларусі спяваюць пра каханне", кіраўнік летніх канцэртаў "Чарадзейная ноч класікі ў музеі пад адкрытым небам" ды "Вечар старадаўняга раманса ў Мірскім замку" Адам Мурзіч сабраў у гэтых праграмах не толькі лепшыя галасы двух сталічных тэатраў, але і некаторых нашых землякоў, якія паспяхова працуюць за мяжой. У канцэрце, прысвечаным памяці Лучана Паваротці і замоўленым на 9 кастрычніка, майстар плануе зноў сабраць сузор'е беларускіх галасоў з усяго свету: з Гамбурга, Венскай оперы, "Марыінкі", Вялікага тэатра Расіі... І прызнаецца, што марыць вярнуць таленавітых землякоў на радзіму. Каб яны не толькі прыязджалі ў якасці гасцей — удзельнікаў праектаў, але і працавалі тут, што не перашкодзіла б ім заключаць прэстыжныя замежныя кантракты і рэалізоўваць сябе на міжнародным узроўні.

## Пунктірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Мікалая Губенка з 70-гадовым юбілеем.

На рэалізацыю творчых праектаў у сферы нацыянальнай культуры і мастацтва з сродкаў фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры і мастацтва ў 2011 годзе выдзелена амаль 550 мільёнаў рублёў. Міністэрства культуры атрымае 185 мільёнаў на набыццё 55 твораў сучасных беларускіх мастакоў для вядучых мастацкіх, гістарычных і літаратурных музеяў краіны, Гомельскі палацава-паркавы ансамбль — 10 мільёнаў рублёў на закупку работ ураджэнца Гомеля мастака Ігара Сямекі.

Алея пісьменства адкрыецца 4 верасня ў горадзе Ганцавічы падчас 18-га Дня беларускага пісьменства. Напярэдадні ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі пройдзе "круглы стол" "Беларускі акцэнт: вопыт і перспектывы міжнароднага культурнага супрацоўніцтва" з удзелам замежных творцаў. У самой жа сталіцы пісьменства адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя "Ганцавіцкія чытанні".

Музей вясковага побыту і рамёстваў з аб'ектамі прыдарожнага сэрвісу, дзе можна будзе бліжэй пазнаёміцца з народнымі традыцыямі, плануецца стварыць у Гомельскім раёне. Размесціцца гэты комплекс каля аўтатрасы Гомель—Магілёў. Тут жа арганізатар праекта ААТ "Агракамбінат "Паўднёвы" задумаў адкрыць кавярню, карчму, тракцір, гасцініцу, гасцявы сямейны домік, дзіцячы гарадок і, магчыма, аказваць такія паслугі, як конныя прагулкі і рыбная лоўля.

У 2011 годзе рэстаўратары плануюць завяршыць работы па аздабленні фасадаў, праекціроўцы ўнутранай інжынернай сеткі і інтэр'ерным афармленні Свята-Васкрасенскага сабору ў Барысаве.

На нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" вядуцца падрыхтоўчыя работы да капітальнага рамонту з частковай рэканструкцыяй галоўнага будынка. Рэканструкцыю кінастудыі і мадэрнізацыю яе матэрыяльна-тэхнічнай базы плануюць завяршыць да 2015 года.

З 19 па 25 жніўня ў Анапе пройдзе Фестываль Саюзнай дзяржавы "Творчасць юных". У ім прымуць удзел каля 200 дзяцей з Беларусі і Расіі, якія прайшлі адборачныя туры ў сваіх краінах. Фестываль збярэ юных музыкантаў, акцёраў, спевакоў, акрабатаў і танцораў.

У праграме XIX Міжнароднага фестывалю акцёраў кіно "Сузор'е", што з 13 па 18 жніўня пройдзе ў Кастраме (Расія), пакажуць беларускае кіно: дзве серыі прыгодніцкай казкі Алены Туравай "Рыжык у Залюстэрччы" і кінапраект Саюзнай дзяржавы "Брэсцкая крэпасць".

У Полацку археолагі знайшлі рэшткі корпуса манастыра бернардзінцаў, у якім Францыск Скарына атрымаў пачатковую адукацыю. Паводле меркавання вучоных, менавіта тут знакаміты палачанін спасцігаў азы лацінскай мовы. Да нашых дзён дакладнае месца знаходжання манастыра не было вядома: час не захаваў нават руін.

**Падрыхтавалі Бажэна Строк і Алена Галай**

## Памяць

# Непараўнальны Колас

**15 жніўня на Вайсковых могілках у Мінску прайшоў памінальны мітынг і адбылося ўскладанне кветак да помніка Якубу Коласу.**

**Дар'я ШОЦІК, фота Кастуся Дробава**




Якуб Колас — творца, які змагаўся за шчаслівае жыццё чалавека. У гэты дзень да магілы Песняра прыйшлі людзі, якія любілі паэта, сябравалі з ім, натхняліся яго творамі.

Узнёслыя словы пра Песняра прагучалі ў прамовах дырэктара Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіды Камароўскай, галоўнага рэдактара часопіса "Полымя" Міколы Мятліцкага, дырэктара Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Аляксандра Лукашанца, галоўнага дырэктара радыёстанцыі "Беларусь" Навума Гальпяровіча, малодшага сына Коласа Міхася Міцкевіча ды іншых.

— Коласа нельга ні з кім параўнаць, — упэўнена Зінаіда Камароўская. — У наш час яшчэ не знайшлося такіх паэтаў, якія б маглі дарасці да ўзроўню Коласа.

Усе прысутныя адчулі цяпло і глыбіню шчырых слоў, якімі з любоўю ўспаміналі Песняра.

— За гэтым імем, прозвішчам, псеўданімам — сапраўдная веліч. Ён быў адзін з тых, хто ствараў сучасную беларускую мову, літаратуру, выхоўваў нацыянальную свядомасць, незалежнасць. Якуб Колас быў тым незвычайным майстрам, хто хваляваўся за душу, менталітэт народа, — зазначыў Аляксандр Лукашанец.

## УСаюзепісьменнікаўБеларусі

# Прынятыя ў СПБ



**Сяргей Рыгоравіч МУСІЕНКА**
*Публіцыст*

Нарадзіўся 5 лютага 1964 г. у г. Умань (Украіна). Скончыў Беларускі палітэхнічны інстытут, працуе дырэктарам ТАА "Медыафакт-Эка".

Пяру Сяргея Мусіенкі належаць сотні публікацый у шматлікіх грамадска-палітычных выданнях, у тым ліку ў часопісах "Беларуская думка", "Беларускі гістарычны часопіс". Ён неаднаразова выступаў па тэлебачанні і радыё, друкаваўся ў замежных СМІ. У 1996 г. выйшла кніга "Следователи и частные детективы", дзе С. Мусіенка выступіў у якасці аўтара-складальніка. У 2009 г. падрыхтаваў у сааўтарстве з вядомым палітолагам, публіцыстам і пісьменнікам Сяргеем Кара-Мурзой кнігу "Куда идем? Беларусь, Россия, Украина". У 2011 г. публіцыст выдаў зборнік "Постсоветское пространство в миропорядке XXI века".



**Таццяна Аляксандраўна АТРОШАНКА**
*Паэт і празаік*

Нарадзілася 17 ліпеня 1976 г. у пасёлку Вялікі Мох Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт ГДУ імя Ф.Скарыны. Працуе ў Палацы культуры г. Маладзечна кіраўніком літаратурнага аб'яднання "Агмень".

Друкавалася ў "Маладзечанскай газеце", часопісе "Маладосць", калектыўных зборніках, вучэбна-метадычным дапаможніку "Музыка ў першым класе", дзіцячым часопісе "Рюкзачок". Піша для дзяцей, супрацоўнічае з дзіцячымі вакальнымі студыямі "Спяваем разам", "Наталі", "Нон-стоп", "Мікс". Песні, напісаныя на вершы Таццяны Атрошанкі, неаднаразова перамагалі на розных рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, адна з іх – "Заручыны" – гучала на міжнародным фестывалі "Славянскі базар". У 2010 г. аўтар выдала зборнік вершаў "Не я...".



**Віктар Іванавіч КУПРЫЯНЧУК**
*Паэт, празаік*

Нарадзіўся 19 жніўня 1954 года ў вёсцы Вялікая Чарнігаўка Жытомірскай вобласці Украіны.

Завочна скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці "гісторыя". Працаваў настаўнікам фізкультуры і гісторыі, настаўнікам-дэфектолагам. Цяпер на пенсіі.

Літаратурная творчасць Віктара Купрыянчука прадстаўлена ў калектыўных літаратурных зборніках, у рэспубліканскай і рэгіянальнай перыёдыцы.

Свет пабачылі два зборнікі вершаў — "Я не в церкви крещенный" (2000 год) і "Філасофія болю" (2004). У 2008 годзе аўтар выдаў кнігу прозы "Ищите женщину.by".

## Фестывалі

# Фэст у замку

**Алена ЦІШЭЎСКАЯ**

Астрашыцкі гарадок ужо трэці раз сустракае аматараў гісторыі на XII міжнародным фестывалі сярэднявечнай культуры "Белы Замак", які праходзіць у гісторыка-культурным цэнтры "Рыцарскі замак" з 19 да 21 жніўня.

Фестываль адлічвае сваю гісторыю з 1998 года. На першы фэст прыехала 100 чалавек. Але на сёлетнія ўрачыстасці заяўлена больш як 400 удзельнікаў не толькі з Беларусі, але і з Расіі, Украіны, Літвы. Арганізатары адзначаюць, што цікавасць да фестывалю толькі расце. Так, у наступны раз "Белы Замак" прыме гасцей з Польшчы.

Яшчэ адна адметнасць фэсту — гісторыка-культурны цэнтр "Рыцарскі замак" з гасцініцай, рысталішчам і возерам. Ды гэта толькі пачатак. Арганізатары вырашылі зрабіць сюрпрыз для ўсіх гасцей фестывалю. Ім стане сапраўдная карчма, стылізаваная пад тую, дзе ўпершыню прыпыніўся хобіт Фрода з вядомай трылогіі Толкіна. Плануецца і трохдзённы турнір лучнікаў, конкурс агнёвых шоу і вялікая музычная праграма.

## Мова і рэклама

# Смачна размаўляць!

**На вуліцах Мінска з'явіліся постары са "смачнымі ды сакавітымі" беларускімі словамі: сацыяльная рэклама скіравана на тое, каб прапагандаваць родную мову сярод жыхароў сталіцы.**




**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ**

Адзін лайтпостар ужо ўсталяваны, ды яшчэ сем неўзабаве з'явяцца ў цэнтры Мінска. На кожным — выява ягад і іх сакавітая назва па-беларуску: суніцы, ажыны, агрэст, кавун, журавіны ды шыпшына.

— Магчыма, з'явяцца яшчэ якія-небудзь варыянты. Мы не можам вызначыцца з дурніцамі, — жартуе член крэатыўнай групы, якая стварыла праект, Ірына Урбан.

Ініцыятыва прымусіць гараджан напоўніцу адчуць смак роднай мовы з'явілася ў ТАА "Белзнешрэклама", што ўваходзіць у медыяхолдынг Агенцтва Уладзіміра Граўцова. Над праектам працавала крэатыўная група ў складзе Ірыны Урбан, Вольгі Ціхановіч, Вольгі Усцюшынай ды Вольгі Сянько.

Дарэчы, праект з задавальненнем падтрымаў Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. Дырэктар Інстытута Аляксандр Лукашанец назваў некалькі аргументаў "за": "Па-першае, рэклама зроблена з добрым мастацкім густам, і гэтыя плакаты радуюць вока. Па-другое, гэта прыгожая прапаганда беларускай мовы. Рэклама такога тыпу, з густам, пашырае беларускамоўнае асяроддзе, і калі беларускамоўная частка рэкламы будзе пашырацца менавіта такім чынам, то гэта вельмі добра паўплывае на свядомасць беларусаў, на выхаванне сваёй нацыянальнай адметнасці".

Майстру плаката, беларускаму мастаку і дызайнеру Уладзіміру Цэслеру ідэя лайтпостараў таксама падаецца добрай, але недапрацаванай. На яго думку, бракуе вастрыні: "Навошта пісаць яшчэ і па-руску, што гэта "арбуз"? Ёсць жа выява. І яе, напрыклад, можна было б зрабіць падобнай да дзіцячага малюнка — падкалоць гледача, маўляў, нават дзеці ведаюць, а вы не".

Даведацца новыя словы пакуль што змогуць толькі жыхары сталіцы. Але прадстаўнікі "Белзнешрэкламы" не адмаўляюць таго, што праз некаторы час у іх з'явіцца магчымасць размяшчаць крэатыўную сацыяльную рэкламу і ў абласных цэнтрах Беларусі.

Літабсягі




# Закладкі з кнігі жыцця

**“Шчасце на парозе тваім” — такую прывабную назву носіць зборнік прозы Ірыны Тулупавай, што ўбачыў свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Ірына Зігмундаўна працавала на Беларускім радыё, у Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку, у часопісе “Гаспадыня”. На працягу многіх гадоў пісала “для сябе”, пакуль не вырашыла прадстаць перад чытачом у новай якасці — празаіка. Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў “Залатое пяро”. Яе плённая праца ў штотыднёвіку “ЛіМ” рэдактарам аддзела публіцыстыкі з 2006 года добра вядома чытачам.**

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Пад вокладкай невялічкай кнігі сабраныя дзесяць апавяданняў і міні-аповесць “Антось — пан Даманкевіч”, многія з іх былі надрукаваны на старонках рэспубліканскай прэсы. Трапныя назіранні за жыццём, створаныя лаканічнымі сродкамі вобразы людзей, з якімі лёс зводзіць у офісе, бальнічнай палаце, падчас вандровак, робяцца рознакаляровым вітражом сённяшняга дня, галоўнай гераіняй якога застаецца жанчына. Яе здольнасць захапляцца і крыўдаваць, дараваць і жартаваць, выхопліваць са звычайнай будзённай сітуацыі сімвалічныя прыкметы часу і, нягледзячы на абставіны, спадзявацца на шчасце — вось галоўная сіла, якая рухае дзеянне.

Ці лёгка быць жанчынай у сённяшнім свеце? І так, і не. Гераіні яе твораў, нібыта лакмусавая паперка, праяўляюць сутнасць мужчын, якіх сустракаюць у жыцці. Над прозай Ірыны Тулупавай у прадмове да кнігі разважае Генрых Далідовіч: цяжэй “знайсці, спазнацца з сапраўдным абраннікам, які як след зразумеў бы жанчыну і праявіў бы лепшыя свае мужчынскія якасці”.

На вокладцы гэтай кніжкі, якую аздобіла мастачка Марыся Лось, някідкія колеры беларускага краявіду служаць фонам для фантастычнага шляху з дрэвамі абапал. З аднаго боку яны нагадваюць чароўныя пёркі жар-птушкі, з другога — пакінутыя між старонак кнігі засушаныя лісты-закладкі, з якімі звязана глыбока асабістае ў жыцці аўтара.

На пытанне, каму ў першую чаргу адрасавана кніга, аўтар адказвае: “Думаю, што гэта жанчыны, гадоў 30—40”. Менавіта такога ўзросту большасць яе гераінь. Спадзяёмся, у жаданні лепей зразумець душу сучаснай жанчыны да іх далучыцца і мужчынская частка чытацкай аўдыторыі.

Артлінія

# Царства Аіды

**Парадокс, але твор на экзатычную для еўрапейцаў тэму, замоўлены геніяльнаму Джузепе Вердзі для афіцыйных урачыстасцей з нагоды адкрыцця Суэцкага канала і ўпершыню выкананы пры канцы 1871 г. у Каіры, стаўся сапраўдным шэдэўрам італьянскай нацыянальнай музычнай класікі. Вось ужо 140 гадоў “Аіда” з’яўляецца не толькі візітоўкай італьянскай оперы, а і сусветным эталонам высокага музычна-тэатральнага мастацтва. Зразумела, што і ў летапісе беларускай культуры ёсць нямала яскравых старонак, звязаных з “Аідай”...**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Пішацца ўжо чарговая старонка гісторыі неўміручай оперы Дж. Вердзі на нашай сцэне: у маі адбылася прэм’ера яе новай пастаноўкі. А нядаўна ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі з’явілася... “Царства Аіды”! Такую назву атрымаў супольны выставачны праект музея і НАВТ оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя (працуе да 20 верасня) адлюстроўвае гісторыю “Аіды” на айчыннай сцэне.

Усё пачыналася ў 1953 годзе, калі легендарная оперная прымадонна Ларыса Александроўская выступіла ў якасці рэжысёра і разам з дырыжорам Львом Любімавым, сцэнографам Сяргеем Нікалаевым, хормайстрам Мікалаем Прысёлкавым ды балетмайстрам Канстанцінам Мулерам ажыццявіла першую ў Беларусі пастаноўку “Аіды”. Больш як паўстагоддзя не сыходзіў з афішы гэты спектакль, пераўшы сваіх стваральнікаў! Змяняліся акцёрскія і глядацкія пакаленні, а цараванне Аіды працягвалася, узбагачаючы сваю гісторыю і творчымі падзеямі, і легендамі.



Зрэшты, кожнае натхнёнае выступленне салістаў, музыкантаў аркестра, хору станавілася незабыўнай падзеяй, якая з часам ператваралася ў легенду. І дзякуючы выстаўцы мы прыгадваем легендарныя імёны, што забяспечвалі спектаклю неверагоднае даўгалецце і поспех. Сярод першых выканаўцаў — Соф’я Друкер, Іван Сайкоў, Клаўдзія Кудрашова, Лідзія Галушкіна, Мікалай Ворвулеў, Мікалай Сярдобаў, Міхаіл Зюванаў, Леанід Бражнік; іх пераемнікі — Нінэль Ткачэнка, Ганна Лебедзева, Паліна Дружына, Святлана Данілюк, Людміла Шамчук, Надзея Губская, Зіновій Бабій, Аскольд Сухін, Анатоль Генералаў... Экспануюцца здымкі артыстаў, сцэн са спектакля, эскізы касцюмаў і эксклюзіўныя сцэнічныя строі.

Часцінка гісторыі ёсць і ў сёлетняй прэм’еры: яе сцэнаграфія стваралася паводле дэкарацый і касцюмаў, над якімі шчыраваў наш выбітны мастак тэатра Яўген Чамадураў — падчас пастаноўкі “Аіды” ў Бухарэсце, у тым самым 1953-м...

***На здымку: сцэна са спектакля “Аіда”, пастаўленага сёлета ў НАВТ оперы і балета Беларусі.***

Повязі

# Музы над Віліяй

**Традыцыйная пяцідзённая сустрэча паэтаў, якая штогод адбываецца ў Вільні, на гэты раз была прысвечана 100-гадоваму юбілею польскага паэта, нобелеўскага лаўрэата Чэслава Мілаша і насіла назву “Зразумець Мілаша”. “Зразумець код паэзіі Мілаша, а праз яе паспрабаваць зразумець самога сябе” — такім быў дэвіз сустрэчы.**

**Ганна ЧАКУР**

Удзел у ёй прынялі 37 паэтаў з пяці краін: Польшчы, Літвы, ЗША, Германіі і Беларусі. 37 паэтаў, 37 асобаў, 37 памкненняў асэнсаваць свет, існаванне, уласнае “я”. Усе такія розныя і ў нечым абсалютна аднолькавыя. Можа, у звышчуллівасці — да ўсюдыпранікальнасці сонечнага святла, да непераможнасці кволай травінкі, якую не зламаць і самаму моцнаму ветру, да слова, што яшчэ толькі спрабуе нарадзіцца ў чыіхсьці вуснах, да позірка, адрасаванага Сусвету...

Вершаў гучала шмат. Вядома, найбольш — Мілаша. Іх дэкламаваў нават амбасадар Польшчы ў Літве. І два сенатары, што прыбылі ў Вільню з Варшаўскага сойму. Многія з удзельнікаў сустрэчы былі асабіста знаёмыя з Чэславам Мілашам. Цікава, што іх расповеды пра паэта не былі саладжава-ніякімі — згадвалі пра рэальнага чалавека з усімі яго вартасцямі і недахопамі.

— Мне давялося бываць у доме Мілаша, калі ён жыў у Амерыцы, — расказваў польскі паэт з Чыкага Адам Лізакоўскі. — Гэта было каралеўства ў мініяцюры. Мілаш меў сваю світу, свой двор. І вельмі дакладна ведаў, за якую нітачку торгнуць, каб вырашыць тое ці іншае пытанне.

“Ён і ў дзевяноста гадоў заставаўся мужчынам”, — узгадала адна з паэтэс, якая была знаёма з “віноўнікам” сустрэчы над Віліяй у яго апошні, кракаўскі перыяд. Прагучала і некалькі аглядаў літаратурнай спадчыны Чэслава Мілаша. Цікава, змястоўна, пазнавальна.

У адзін з дзён нас чакала сустрэча з паэтамі Літвы — у Вільнюскім Доме літаратара. У другі — з амбасадарам Польшчы ў Літве ў яго рэзідэнцыі. У трэці мы чыталі вершы (кожны свае і Мілаша) у двары Базылянскіх муроў. Ля “celi Konrada” — месца, дзе адбываў свой арышт Адам Міцкевіч. Яшчэ адзін дзень прысвяцілі падарожжу: спачатку ў Каўнас — горад, дзе некалькі гадоў жыў і працаваў Міцкевіч, а потым — Кейданы (тыя самыя — Радзівілаўскія!), Упіта, Шатэйні. Канечне ж, не маглі не гучаць вершы на панадворку Мілашаў, ля сцен аднаўленага (самім Чэславам Мілашам) яго бацькоўскага дома.



Паэзія — згустак эмоцый і квінтэсенцыя думкі грамадства. А цікавяцца ёй нямногія. У рэаліях сучаснасці яна не фармат. Напэўна, таму такія сустрэчы для паэтаў і важныя, і неабходныя. А арганізаваў гэтае свята адзін чалавек — паэт, празаік, публіцыст, фатограф, рэдактар часопіса “З-над Віліі” Рамуальд Мячкоўскі.

***На здымку: сябра Чэслава Мілаша Андрэй Струміла.***

З-пад пяра

Трэці Міжнародны конкурс разьбяроў па дрэве прайшоў у “Гарадзенскім маёнтку “Каробчыцы” (Гродзенскі раён). У ім удзельнічалі разьбяры з Гродзенскай і Брэсцкай абласцей, а таксама майстры з Каўнаса (Літва) і Беластока (Польшча). Кожны год майстры працуюць над пэўнай скульптурнай групай. Летась яна мела назву “Нараджэнне Хрыста”. У гэтым годзе таксама цікавая тэма — “Вяселле”. Што атрымалася — можа пабачыць кожны жадаючы ў маёнтку “Каробчыцы”, які, дарэчы, стаў традыцыйным месцам збору разьбяроў.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

Музей гісторыі горада Мінска запрашае на выстаўку “Парад лялек”. Выстаўку прывезла Санкт-Пецярбургская кампанія “Дом лялек”. Экспазіцыя змяшчае фарфоравыя экспанаты з дэталёва зробленымі адзежай, валасамі, вачыма. Кожны творца выставы — чараўнік, які з дапамогай сваёй фантазіі стварыў загадкавую ляльку: “Маска, я цябе ведаю!”, “Свецкі парад”, “Баярскі збор” ды іншыя. Назвы змяшчаюць у сабе гісторыю, культуру, побыт. На выстаўцы “Парад лялек” пануюць раскоша і непаўторнасць.

**Дар’я ШОЦІК**

З 14 па 16 лістапада ў Чалябінску пройдзе IV Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя-фестываль «АРТсесія». Тэматычны праект аб’ядноўвае навуковыя даклады і спектаклі. «АРТсесія» праводзіцца штогод, і штогод арганізатарамі фармулюецца новая тэма. Сёлета яна гучыць так: «Літаратура і тэатр: мадэлі ўзаемадзеяння». Да ўдзелу ў «АРТсесіі» запрашаюцца навукоўцы, якія займаюцца рускай і замежнай драмай другой паловы XX — XXI стагоддзяў, калектывы студэнцкіх і маладзёжных тэатраў. Заснавальнікамі і арганізатарамі фестывалю з’яўляюцца Чалябінскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт і Асацыяцыя студэнцкіх тэатраў Расіі. Заяўкі прымаюцца да 25 верасня 2011 года.

**Алена ШАНДРАК**

21 жніўня Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту запрашае на свята Спаса — “Спасаўка-ласаўка”. Падчас мерапрыемства гаспадары музейных сядзіб раскажуць пра трыдыцыі народнага святкавання Спасаў; маленькія наведвальнікі змогуць паўдзельнічаць у конкурсе малюнкаў “Баровачка”. Яблыкі, хлеб, арэхі, мак і мёд ураджаю 2011 года будзе асвячаць пасля ўрачыстага набажэнства ля Свята-Пакроўскай царквы іерэй Антоній Пшанічны (прыход храма Свяціцеля Мікалая Цудатворцы, в. Гарадзішча Мінскага раёна). Пасля пачнецца экскурсія па выстаўцы “Пчалярства на Беларусі”. На тэрыторыі музея члены Саюза народных майстроў Беларусі прапануюць наведвальнікам вырабы з гліны, саломы, дрэва і іншых традыцыйных матэрыялаў.

**Ул. інф.**

Тры невялікія кніжкі пра Гродна, аўтарам якіх з’яўляецца краязнаўца Ігар Трусаў, выйшлі ў свет у выдавецтве “ЮрСаПринт”. Гэта “Барысаглебская-Каложская царква” (у ёй прадстаўленыя ўнікальныя графічныя матэрыялы, у тым ліку схема няспраўджанай рэканструкцыі XIX ст.), “Гродзенскія масты” і “Гродзенскія каралеўскія рэзідэнцыі” (гістарычныя і архітэктурныя даследаванні трох найважнейшых каралеўскіх рэзідэнцый апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага).

**Кацярына ГЕНАК**

# Даследчык славянскай супольнасці

Уладзімір НАВУМОВІЧ

**У пісьменніцы і вучонага Таццяны Кабржыцкай — юбілей. Творцы даўно ахрысцілі такі час у жыцці асобы хараша і паэтычна — высокі поўдзень. У Таццяны Кабржыцкай падобная "вышыня" мае яшчэ і канкрэтнае ўвасабленне ў добрым стосіку выдадзеных навуковых даследаванняў, перакладаў мастацкіх твораў, арыгінальных вучэбных дапаможнікаў, кніг, якія, як і людзі, маюць свой лёс. У пісьменніцкай кагорце дацэнту, кандыдату філалагічных навук, перакладчыцы Таццяне Вячаславаўне Кабржыцкай належыць дастойнае месца. Яна шчасліва спалучае ў сабе і ў сваёй прафесіі ўкраінскі і беларускі пачаткі, ды мажліва не толькі таму, што "ішла доля беларуса з доляй украінца аднолькава".**



І вось тут, калі мы ўжо загаварылі пра "долю і шчасце", дык хочацца распавядаць пра "вяселле веку" Таццяны Кабржыцкай і Вячаслава Рагойшы, сватам на якім быў прызнаны паэт-прафесар Алег Лойка, пра дзетак іх — "трох мушкецёраў" сынкоў, пра тых "шчырых інтэлегентаў", як назваў народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін Таццяну і Вячаслава. У сям'і Кабржыцкай-Рагойшы асновай сталі шчыры беларуска-ўкраінскі патрыятызм, глыбокі прафесіяналізм, сацыяльная актыўнасць, працавітасць і высокія маральныя каштоўнасці.

Сям'я Рагойшаў — Таццяны і Вячаслава — прызнаны асяродак беларускасці, які "падпітваецца" новымі сяброўскімі сувязямі, цікавымі і важнымі для грамадства ініцыятывамі, выхадам да шырокіх колаў землякоў, студэнтаў, школьнікаў. Мудрасцю дом абладжваецца, а розумам сцвярджаецца. Уінстан Чэрчаль прызнаваўся: "Самым большым маім дасягненнем у жыцці з'яўляецца тое, што я ўгавaрыў сваю жонку выйсці за мяне замуж". Мы бачылі дасюль у жанчыне моц, сілу, калі гутарка вялася пра пажары і пра наравістых коней, але, як сказаў другі паэт, "коні ўсё скачут и скачут, а избы горят и горят". Важней жанчыне "весці рэй", ды не адной, а разам з мужам, у хаўрусе з дзецьмі, унукамі.

Але пойдзем класічным шляхам. У гарачую жнівеньскую спёку пятнаццатага дня таго вераломнага і гняўлівага 1941 года ў горадзе Кіеве ў сям'і служачых нарадзілася дачушка, якую бацькі ахрысцілі Таццянай.

У 1946 г. пераехалі ў Львоў. Таццяна скончыла філалагічны факультэт Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя І. Франко (1964). Працавала завучам Вязаўскай сярэдняй школы на Львоўшчыне (1964—1966), рэдактарам у выдавецтве Львоўскага ўніверсітэта (1966—1967), вучылася ў аспірантуры пры тым універсітэце (1967—1971). У 1971—1980 гг. — навуковы супрацоўнік навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР. З 1980 г. — дацэнт кафедры рускай савецкай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, цяпер — дацэнт кафедры славянскай лінгвістыкі.

Прафесіяналізм Т. Кабржыцкай сцверджаны ўжо неаднойчы. "Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі канца XIX — пачатку XX ст.", першая кніга, падрыхтаваная разам з В. Рагойшам, затым цэлы шэраг навуковых прац засведчылі, што ў асобе Т. Кабржыцкай беларускае літаратуразнаўства займела выдатнага ўкраініста, носьбіта жывой гутарковай мовы народа-суседа. Зроблена шмат. Самасць, самадастатковасць, самасцвярджэнне ў навуцы Таццяны Вячаславаўны відавочныя. Назавём толькі знакавыя працы нястомнай даследчыцы. Вернута з небыцця і ўзведзена на паэтычны Алімп імя нашаніўскага паэта Сяргея Палуяна. Для школ падрыхтаваныя творы класікаў украінскай літаратуры Лесі Украінкі і Міхайла Кацюбінскага, а таксама зборнік казак, легенд і паданняў з перакладамі ўкраінскіх тэкстаў. Праца перакладчыцы — гэта заўсёды вуліца з двухбаковым рухам. Т. Кабржыцкая з гонарам рэпрэзентуе ўкраінскаму чытачу беларускую мастацкую прозу, паэзію: "Мёртвым не баліць", "Аблава", "У тумане" В. Быкава, вершы М. Багдановіча, П. Броўкі. З'яўляецца нямала даследаванняў па тыпалогіі творчасці ўкраінскіх і беларускіх пісьменнікаў, напрыклад, Міхася Зарэцкага і Міколы Хвылявога.

"Дзве палавінкі аднаго сэрца" (М. Хмяльніцкі) Таццяны Вячаславаўны б'юцца ва ўнісон для студэнтаў беларускай і ўкраінскай філалогіі, вызначаючы "пульс" лекцый, спецкурсаў, а таксама спецсемінара "Тэорыя і практыка літаратурных узаемасувязей", які вось ужо каторы год вядзе яна для студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ. Т. Кабржыцкая падрыхтавала абагульняючую навуковую фундаментальную працу з прадмовамі сваіх настаўнікаў членаў-карэспандэнтаў НАН Беларусі Міхася Мушынскага і Алега Лойкі: "Дзве Радзімы — Украіна і Беларусь — пад міратворчымі крыламі буслоў". Выданне з'явілася добрым падарункам да юбілею БДУ, 90-годдзе якога краіна будзе адзначаць 30 кастрычніка гэтага года.

Т. Кабржыцкая вядзе вялікую грамадскую работу ў асяродку ўкраінцаў, што жывуць на Беларусі, яна часты госць у школах, на прадпрыемствах, у гімназіях, ліцэях. Дзякуючы руплівым намаганням гаспадыні і гаспадара ў гарадскім пасёлку Ракаў на Валожыншчыне на сядзібе Рагойшаў заснаваны гісторыка-краязнаўчы музей, які стаў цэнтрам культурнага жыцця, куды з'язджаюцца паэты, празаікі, драматургі, акцёры. Тут, у Ракаве, сустракалі А. Лойку, У. Караткевіча, С. Бадрова, Б. Ступку, Я. Вашчака. Ладзяцца "Ракаўскія чытанні", выходзіла газета "Ракаўскі шлях" (надрукавана 40 нумароў).

У М. Булгакава ў "Белай гвардыі" ёсць выраз "падымаючыся ў пагібельныя высі". Усё жыццё і творчасць Таццяны Вячаславаўны з'яўляецца прыкладам таго, як можна не толькі ўтрымацца ў тых "высях", але яшчэ і падцягваць да высокага неба ідэалу тых, хто поруч.

# Сувязны гісторыі

Ігнат ШЫЧКО,
фота Кастуся Дробава

**Алесю Марціновічу — 65 гадоў. Яго біяграфія — амаль што ўся ў "лімаўскім" фармаце. Прыйшоў на працу ў газету ў 1972-м, адпрацаваў амаль трыццаць гадоў. А з 2007 г. — у часопісах выдавецтва "Літаратура і Мастацтва": намеснікам галоўнага рэдактара ў "Маладосці" і "Нёмане". Цяпер — рэдактар аддзела крытыкі часопіса "Полымя". І кнігі яго апошнія выйшлі таксама ў выдавецтве "ЛіМ" — "Споведзь старых замкаў" і "Рагнеда і Рагнедзічы"...**



Але ж і ў газету "ЛіМ" Алесь Марціновіч прыйшоў ужо спрактыкаваным журналістам пасля працы ў "раёнках" Берасцейшчыны і Міншчыны ды службы камандзірам мотастралковага ўзвода ў Забайкальскай ваеннай акрузе. Відаць, гэта ў значнай ступені і паўплывала на энергічнае стаўленне да новай працы, дапамагло вызначыць галоўнае ў літаратурнай творчасці. А пасля, у 1999—2007 гады, дапамагло і ў публіцыстычнай рабоце ў грамадска-палітычным часопісе "Беларуская думка".

Сёння Алесь Марціновіч радзей выступае як літаратурны крытык. А быў час, калі, здавалася, ім прачытваецца літаральна ўсё з сучаснай беларускай літаратуры. Бягучая літаратурная крытыка, рэцэнзія, творчы партрэт, артыкул, інтэрв'ю з пісьменнікам, пераклад на беларускую з іншых моў найбольш цікавых публікацый пра нашу літаратуру, інфармаванне шырокага чытача пра літаратурнае жыццё — усё гэта складвала кола зацікаўленняў, кола шчыравання Алеся Андрэевіча на старонках газеты "Літаратура і мастацтва", іншых газет і часопісаў. З сярэдзіны 1980-х пачалі з'яўляцца і кнігі — "Мастацкі летапіс сучаснасці", "Сказаць сваё слова", "Далучанасць", "Пад небам вечнасці". Але ўжо гэтыя і наступныя зборнікі паказалі, што ў беларускай літаратуры працуе не проста крытык, а актыўны, удумлівы папулярызатар здабыткаў прыгожага пісьменства, аўтар, які імкнецца быць апавядальнікам не толькі пра творы, але і пра пісьменніцкія лёсы. Мне асабіста вельмі сімпатычнай падаецца кніга Алеся Марціновіча "Дарога ў запаветнае". Для выдавецтва "Юнацтва" з разлікам на чытача школьнага ўзросту былі сабраныя нарысы, артыкулы пра пісьменнікаў, якія працуюць у дзіцячай літаратуры. Якраз такіх выданняў заўсёды бракавала. Не стае іх і цяпер. А між тым, ужо відавочна, што паратунак у захаванні ўвагі да папяровай кнігі, увогуле чытання знаходзіцца ў прамой залежнасці ад дзіцячай зацікаўленасці кнігай.

Былі яшчэ і іншыя літаратурна-крытычныя зборнікі — "Сувязь", "Шляхам праўды", "Дзе ж ты, храм праўды?". У іх знайшлося шмат месца даследванням А. Марціновіча пра зробленае пісьменнікамі 1920—1930-х гадоў, тымі, чый талент, магчыма, напоўніцу і не развіўся з-за сталінскіх рэпрэсій. Спрабаваў свае сілы крытык і ў дзіцячай літаратуры. Лічу, што і цяпер можна перавыдаваць яго кнігу (напісана сумесна з Таццянай Мушынскай) "Віця Неслух у краіне мурашоў". Казкі і апавяданні, сабраныя ў гэтым зборніку, досыць дынамічныя, вартыя нават анімацыйнага ўвасаблення.

Ды ў большай ступені — асабліва сведчаць пра гэта набыткі апошніх гадоў — Алесь Марціновіч выявіў сябе як аўтар гістарычных твораў: нарысаў, эсэ пра знакамітых асоб нашай радзімы. Пра тых, хто, будучы ўраджэнцам Беларусі, праявіў сябе ў іншых краінах свету. І таксама — пра тых славутых людзей, якія нешта вартае, годнае памяці нашчадкаў здзейснілі ў межах нашай Айчыны. Ужо першая кніга з гэтай сапраўды гістарычнай бібліятэкі, аўтарам якой з'яўляецца ўсяго адзін пісьменнік, — "Зерне да зерня" — была адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.

...Калі даводзіцца выступаць у раённых і сельскіх бібліятэках, школах, то стараешся знайсці колькі хвілін, каб без чыіхсьці каментарыяў прагледзець, што ж ёсць на паліцах, каб зазірнуць у саму кнігу і ўбачыць, наколькі частыя адзнакі пра знаёмства чытача з кнігай. Зборнікі гістарычных нарысаў, эсэ, апавяданняў Алеся Марціновіча чытаюць. Відаць, у Беларусі, як нідзе ў славянскім свеце, адчуваецца смага да гістарычных вышукаў. Таму, пэўна, і нарадзіла наша краіна такога пісьменніка, як Уладзімір Караткевіч. Таму і карыстаюцца пастаяннай увагай творы Леаніда Дайнекі, Кастуся Тарасава, Вітаўта Чаропкі... Гістарычная дзялянка, на якой праяўляе сваю рупнасць Алесь Марціновіч, яшчэ доўга будзе апрацоўвацца мастакамі слова. І несумненна тое, што ў гэтых клопатах празаікі, паэты будуць перш-наперш звяртаць увагу на асоб, іх ролю ў фарміраванні тых ці іншых грамадскіх, сацыяльных, палітычных тэндэнцый. Алесь Андрэевіч вылучыў гэтых асоб. Святло свайго даследчыцкага ліхтарыка скіраваў на галоўных персанажаў, без якіх нельга ўявіць многія стагоддзі ў лёсе Беларусі.

Разгортваеш кнігі "Хто мы, адкуль мы...", "У часе прасветленыя твары", "Элегіі забытых дарог", "Сполахі далёкіх зарніц", "Маладзік над засмежаным шляхам", "Птушкі з пакінутых гнёздаў", "Свечка на золкім полі" і спасцігаеш новыя імёны альбо знаёмішся з жыццём тых, хто раней быў знаёмы толькі па прозвішчы, па радку-двум з энцыклапедыі ці нейкага даведніка. Расказваючы пра сваіх герояў, Алесь Марціновіч стварае пантэон айчыннай славы, падказвае неабходную для цывілізаванага грамадства работу па ўшанаванні памяці сваіх сыноў і дачок. Даўно заўважана — і рэцэнзентамі, і проста настаўнікамі агульнаадукацыйнай школы: кнігі Алеся Марціновіча — сапраўдныя дапаможнікі ў вывучэнні гісторыі. Здзіўляе, уражвае абсяг таго матэрыялу, што адкрыўся пісьменніку, якім ён аваладаў, перш чым пазнаёміць з дзяржаўнымі дзеячамі, военачальнікамі, асветнікамі, падарожнікамі, мастакамі, акцёрамі, паэтамі... Нават нейкае шкадаванне ёсць ад таго, што бібліятэка аднаго аўтара (у "Мастацкай літаратуры" кнігі нарысаў Алеся Марціновіча вылучаныя ў асобную серыю — "Гісторыя ў асобах") не з'явілася раней. Мо тады не былі б такімі сухімі, казённымі многія гісторыка-дакументальныя хронікі "Памяць". Піша ж Алесь Андрэевіч пра ўраджэнцаў розных старонак, і, відавочна, іншыя нарысы маглі б якраз быць уключанымі ў іншыя хронікі.

Яшчэ не сказаў пра адзін клопат пісьменніка-гісторыка, літаратурнага крытыка і дзіцячага празаіка. У выдавецтвах "Юнацтва", "Мастацкая літаратура" і "Беларусь" у 1999—2008 пабачылі свет кнігі А. Марціновіча пра Е. Полацкую, К. Тураўскага, С. Полацкага, А. Гурку. Ізноў пісьменнік паказаў прыклад таго, як, з якой праніклівасцю, наколькі эмацыйна трэба расказваць дзецям пра славутых землякоў. Дарэчы, для юнага чытача напісана Алесем Марціновічам і кніга пра Максіма Багдановіча. Хутка павінна пабачыць свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Спадзяёмся, што і яна стане падзеяй, вартай увагі.

Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ,
фота Кастуся Дробава

# Пакаленне by

## Беларуская літаратура ў Інтэрнэце

**Інтэрнэт дае чалавеку безліч карысных магчымасцей, між якімі і магчымасць пазнаёміцца з сучаснай беларускай літаратурай, пачытаць класікаў, без доўгіх пошукаў набыць кнігу ўлюбёнага аўтара. Пры гэтым нават дасведчаны карыстальнік Інтэрнэту можа быць сталым наведвальнікам пэўнага літаратурнага сайта ці блога, але не ведаць якога-небудзь вельмі карыснага адраса… Маргарыта Аляшкевіч прапануе спіс спасылак на самыя папулярныя рэсурсы, якія камусьці будуць за навіну і, магчыма, стануць чарговай добрай знаходкай. Такі карысны артыкул з "ЛіМа" варта выразаць і захаваць!**



### Літсупольнасць

Беларуская літаратура ў інтэрнэце — гэта шмат магчымасцей прыемна прабавіць час, знайсці суразмоўцаў, прыдбаць усялякія прыкольныя рэчы і выявіць сябе. Куды ісці найперш, дзе, за што і што за смакоцце даюць — разбярэмся разам.

Для аматараў літаратуры карыснымі будуць тутэйшыя тэматычныя групы, напрыклад, "у кантакце" можна наведаць суполку "Сучасная беларуская літаратура" (http://vk.com/clublitaratury). Сённяшнія літаратары — людзі вясёлыя ды неспакойныя, то вечарыну зладзяць — і вы можаце яе наведаць, то праект нейкі запусцяць — і вы можаце ў ім паўдзельнічаць, то з крытыкамі пачнуць заядаца — і вы можаце падтрымаць ці пісьменніка, ці крытыка… Таксама вартыя ўвагі суполкі, прысвечаныя асобным творцам, мне асабіста імпануюць гэтыя дзве: "Я ♥ дзядзьку Караткевіча" (http://vk.com/club1327087, тут гуртуецца каля 1200 чалавек), і больш камерная "★ Максіма Багдановіча" (http://vk.com/club6071256), якую вядзе паэтка Валярына Кустава.

Падобныя групоўкі ёсць і ў блогасферы. Блогасфера — гэта супольнасць сеткавых дзённікаў (блогаў) і іх аўтараў (блогераў), а таксама блогі і іх узаемасувязі. Літаратараў у нас шмат, літаратараў-блогераў — каля 70, а вось папулярнымі блогамі могуць пахваліцца адзінкі, пра іх гаворка будзе ніжэй. Сярод суполак наведайце наступныя:

- lit_krytyka — тут прадстаўлена сучасная літаратурная крытыка, літаратурная журналістыка, літаратуразнаўства, кніжныя агляды;
- by_litara — Беларускае літаратурнае кам'юніці, якое таксама выглядае досыць мазаічна.

Пакорпаўшыся там, можна выйсці шмат на якія калялітаратурныя рэсурсы.

Правобразам гэтых суполак і пінерам нашай літаратурнай інтэрнэт-прасторы з'яўляецца **litara.net,** што абяцае распавесці літаральна ўсё пра сучасную беларускую літаратуру. Тут знойдзеце: навіны сучаснага літаратурнага жыцця; рэцэнзіі, інтэрв'ю, тэаратычныя матэрыялы; афішу культурных падзей; каталог беларускіх выданняў, выдавецтваў і персаналій беларускай літаратуры.

*« Люблю папяровыя кнігі. Пах друкарскай фарбы, мяккі дотык паперы, шапаценне старонак… Але ўсё часцей замаўляю розныя выданні праз інтэрнэт. Па-першае, гэта эканоміць час: куды прасцей увесці ў пошук імя аўтара ці назву кнігі і адразу патрапіць на патрэбнае выданне, чым лазіць па ўсіх паліцах кнігарні, а то яшчэ ездзіць па розных крамах горада, ганяючыся за рэдкай кніжыцай. Па-другое, яшчэ і грошай зберагу: у інтэрнэт-краме кошты, зазвычай, ніжэйшыя, чым у не-віртуальных крамах.*

Сярод кірылічных літаратурных груповак самай масавай, па меркаванні Яндэкса (http://blogs.yandex.ru/top/com/), з'яўляецца "Книжный бум": http://www.liveinternet.ru/community/8581-58/. Суполка вядзецца на рускай мове, абмяркоўваюцца тут кнігі з усяго свету. Прываблівае менавіта шырыня ахопу і размаітасць ацэнак — тут кожны знойдзе сабе сяброў па розуме.

### Як прайсці ў бібліятэку

Людзі мінулага веку любілі бавіць час у бібліятэках, сярод пыльных фаліянтаў і зялёных абажураў...

Сёння можна далучацца да сусветнай інфармацыйнай прасторы не выходзячы з дому — праз электронныя бібліятэкі.

Адна з найбуйнейшых па беларускай літаратуры — **kamunikat.org,** Беларуская інтэрнэт-бібліятэка, якая існуе з 2000 года. На працягу дзесяцігоддзя "Камунікат" змяняўся, а колькасць матэрыялу, даступнага на сайце, усё павялічвалася. У верасні 2007 года рэсурс канчаткова аформіўся як цалкам прафесійны сайт з каталогам, пошукавай сістэмай, падпіскай на абнаўленні (RSS), топ-спісам выданняў і шмат чым яшчэ. Змешчаныя тут кнігі, часопісы ці артыкулы абавязкова датычацца Беларусі, напісаныя па-беларуску, нейкім чынам закранаюць беларускую тэматыку. Цяпер "Камунікат" — гэта не толькі збор адсканаваных выданняў і не толькі самая багатая калекцыя перыёдыкі з усіх, што мне асабіста трапляліся. Тут таксама знойдзеце: штодзённыя размовы пра беларускую літаратуру і культуру з эфіру нашага радыёвяшчання; інфармацыю пра навінкі беларускага выдавецкага рынку, пералік і біяграфіі беларускіх аўтараў — паэтаў, празаікаў, гісторыкаў, публіцыстаў.

Яшчэ адна зручнасць: на "Камунікаце" пачалі з'яўляцца кнігі ў фармаце ePub, які ўспрымаюць прылады для чытання электронных кніг.

Калі вы не знайшлі чагосьці на Камунікаце, раю зазірнуць на **knihi.com** — гэта "Беларуская Палічка" (Беларуская электронная бібліятэка) са зручнай навігацыяй. У адрозненне ад "Камунікату", тут вам не трэба скачваць усю кнігу цалкам у pdf — можна чытаць асобныя творы ў звычайных тэкставых фарматах.

На **bellib.net** (BELARUSIAN eBOOKS LIBRARY) знойдзеце беларускую літаратуру ў замежных перакладах і замежную літаратуру ў перакладах на беларускую мову. Дарэчы, ёсць у секцыі і адмысловы перакладніцкі рэсурс – **prajdzisvet.org**, дзе перакладаюць не толькі пісьменнікаў-класікаў, але і нашых з вамі сучаснікаў з усяго свету.

Праблема многіх інтэрнэт-бібліятэк — гэта памылкі. Так, напрыклад, папулярная "Зьнічка" (**znichka.ucoz.com**) прапануе творы і біяграфіі беларускіх аўтараў, але ператтварае Брыля ў "Бряля", а ягоныя "Ніжнія" Байдуны ў "іхныя"…

### Шопінг для гультаёў

Люблю папяровыя кнігі. Пах друкарскай фарбы, мяккі дотык паперы, шапаценне старонак… Але ўсё часцей замаўляю розныя выданні праз Інтэрнэт. Па-першае, гэта эканоміць час: куды прасцей увесці ў пошук імя аўтара ці назву кнігі і адразу патрапіць на патрэбнае выданне, чым лазіць па ўсіх паліцах кнігарні, а то яшчэ ездзіць па розных крамах горада, ганяючыся за рэдкай кніжыцай. Па-другое, яшчэ і грошай зберагу: у інтэрнэт-краме кошты, зазвычай, ніжэйшыя, чым у не-віртуальных крамах.

Сярод маіх улюбёных месцаў інтэрнэт-шопінгу — **prastora.by**. Крама спецыялізуецца на беларускай літаратуры, пры гэтым сярод тавараў вы знойдзеце кнігі, аўдыёкнігі, музыку, відэа і загадкавае <u>Іншае</u>. Свае замовы, зробленыя праз сайт або па тэлефоне, можна самастойна забраць у цэнтры Мінска або замовіць дастаўку поштай у любы рэгіён краіны.

Тое самае на **oz.by,** аднак тут вам прапаноўваецца не толькі і не столькі беларуская кніга. Затое можна плаціць за ўпадабаны твор самымі рознымі спосабамі: ад традыцыйнага разліку на пошце да EasyPay і наяўных грошай, калі вы забіраеце пакупку самі.

Інтэрнэт-крама **vilka.by** (Студыя кніг і аксесуараў "Відэлец") прываблівае дызайнам. Калі адкрываеце старонку, вас вітаюць смешныя пластылінавыя чалавечкі, у якіх можна пазнаць класікаў літаратуры. Гэта вельмі душэўны сайт, прапануе кнігі, аксесуары для іх — вокладкі, падстаўкі і падобнае. Праўда, каб замаўляць кніжкі, дыскі і ўсялякія файныя штукі, трэба зарэгістравацца. Затое можна пачувацца ўдзельнікам закрытага (а значыць, элітнага) клуба.

### Асабістая справа, асабістая злева

Біяграфіі творцаў часам даюць ключ да разумення іх твораў. Часам, канечне, і не даюць, але ўсё адно цікава пачытаць.

Найбольш поўны пералік літаратараў — на ўжо знаёмым нам "Камунікаце" (kamunikat.org/bielaruskija_autary) — больш як 150 асоб! Націснуўшы на банер кожнага аўтара, атрымліваем яго біяграфію і спіс кніг, даступных праз гэтую бібліятэку. Такім чынам можна сцягнуць сабе ці не поўны збор твораў Васіля Быкава. Праўда, акцэнт тут на сучасных аўтараў, так што творы Францыска Скарыны давядзецца пашукаць асобна.

Існуюць і асабістыя сайты літаратараў. Узорнай тут будзе старонка Уладзіміра Караткевіча http://www.uladzimir-karatkevich.com. Рэсурс нездарма адзначылі на Рэспубліканскім конкурсе адукацыйных сайтаў адразу ў дзвюх намінацыях — тут і біяграфія, прытым у некалькіх варыянтах, і бібліятэка (побач з творамі на беларускай і рускай мовах ёсць пераклады на іншыя мовы свету, прадстаўлены мастацкія творы, публіцыстыка, дзённікавыя запісы і лісты; а яшчэ можна зайсці ў рубрыку "архіў" і скачаць усё гэта ў кампактным архіве). І галерэя маецца (фотаздымкі + ілюстрацыі да кніг), і крытычныя артыкулы пра творы Караткевіча, а таксама інфармацыя пра яго музей і шмат чаго яшчэ. А на сайце Васіля Быкава **bykau.com,** апроч падобных карысных рэчаў, ёсць інтэрв'ю ў фармаце mp3 — можна пачуць голас аднаго з самых знакамітых пісьменнікаў краіны.

Не такія багатыя, але ўсё адно карысныя рэсурсы:

- асабістыя старонкі творцаў, прапісаныя ў межах Нацыянальнага паэтычнага парталу: **mihaszarecki.ru**, **yakubkolas.ru** ды інш.; не самая зручная навігацыя, не самыя поўныя зборы тэкстаў, але хоць нешта;
- **marakou.by** — сайт даследчыка рэпрэсаванай літаратуры Леаніда Маракова;
- **belkabinet.by** — віртуальны кабінет беларускай мовы і літаратуры, ёсць добрыя падказкі для вучняў і настаўнікаў;
- **vershy.ru** — нацыянальны паэтычны партал, адсюль знойдзеце выхад на розныя літаратурныя старонкі; апроч ужо згаданых асабістых сайтаў літаратараў можна наведаць тэматычныя падраздзяленні паэзіі: напрыклад, вершы пра каханне — **moykahany.ru**, а ёсць і вершы пра Чарнобыль, і пра беларускую чыгунку;
- віртуальныя музеі: http://ivan-melezh.iatp.by/ — Іван Мележ, http://shamyakin-goub.iatp.by/ — Іван Шамякін; http://makaenak-goub.iatp.by/ — Андрэй Макаёнак, http://naumenka.goub.org/index.php — Іван Навуменка; http://sachenko.iatp.by/ — Барыс Сачанка.

Сайты сучасных літаратараў адрозніваюцца па афармленні і напаўненні. Сайт пісьменніка Сяргея Балаханова — адзін з самых папулярных беларускамоўных рэсурсаў у Сеціве: http://balachonau.puls.by/. Дарэчы, сцягнуць і прачытаць творы Сяргея Балаханова там таксама можна.

А яшчэ літаратары вядуць блогі. Журналіст Ася Паплаўская неяк спрабавала падлічыць, у яе атрымалася каля 80 літаратарскіх блогаў (глядзі тут: http://community.livejournal.com/lit_krytyka/3960.html).

Крытык і выкладчык Лада Алейнік спрабавала асэнсаваць ролю пісьменніцкіх блогаў у літаратурнай прасторы (чытай "ЛіМ" за 27 лістапада 2009 года ці шукай у блогу ўсё той жа Асі Паплаўскай), і яе высновы такія: "прастора livejournal — неабсяжная, а магчымасці тут — велізарныя, і выкарыстаць іх можна вельмі канструктыўна". Добрых знаходак!

# Зямля пад белымі крыламі

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая Ліцера"

Слова краязнаўцы



**Сцяпан Стурэйка з Гродна разважае пра ролю краязнаўства ў станаўленні грамадзянскай супольнасці:**

— Краязнаўства — па сваёй сутнасці стварэнне лакальнай гісторыі. Краязнаўцы адыгрываюць у грамадстве структурную ролю — не больш і не менш. Яны з'яўляюцца апорай лакальнай ідэнтычнасці, ствараюць тым самым падмурак для нацыянальнай ідэі, агульнай гістарычнай памяці. Безумоўна, часам лакальны гістарычны вобраз даволі моцна адрозніваецца ад "магістральнага" нацыянальнага наратыву. У савецкія гады ў гэтым бачылі шкодніцтва ды імкнуліся ўсяляк падавіць нязручныя гістарычныя розначытанні. Краязнаўцы аднымі з першых трапілі пад малох сталінскіх рэпрэсій.

Дзякуй богу, той час мінуў, і цяпер мы разумеем, што такія лакальныя гісторыі не тое што не шкодзяць — наадварот, толькі ўзбагачаюць светапогляд сучасніка. Яны перадусім садзейнічаюць фарміраванню мясцовых супольнасцей, груп людзей, аб'яднаных прыналежнасцю да пэўнага рэгіёна, горада, сяла. Ды што там, нават вуліцы ці асобнага будынка.

Яскравы прыклад таму — гродзенскі гістарычны раён Новы свет, забудаваны "за польскім часам" збольшага драўлянымі дамамі ў стылі канструктывізму. Людзі, якія ўбачылі, што іх мінулым, гісторыяй іх сем'яў цікавяцца краязнаўцы, — ці ж будуць яны грэбліва ставіцца да сваіх дамоў, хай тыя ўжо і не ў найлепшым стане? Альбо пабачыўшы пра сябе цудоўны дакументальны фільм, зняты маладзёю пра Новы свет у 2008 г., ці будуць яны імкнуцца перасяліцца ў сучасны панэльны дом у "спальным" мікрараёне?

Спадзяюся, не. Яны, іх дзеці ды ўнукі проста атрымалі дадатковы імпульс, каб любіць свае вуліцы, свой гістарычны раён, свой Гродна. Дарэчы, як тут не прыгадаць фільм "Белыя Росы", зняты акурат у Гродне, і драўляныя хаты, з якіх высялялі герояў — так і стаяць дагэтуль. А яшчэ жыхары будуць трымацца адно аднаго — гэта ўжо зусім іншая справа, якая мае для краіны і сацыяльнае, і эканамічнае значэнне.

Даказана, што горад, які з'яўляецца носьбітам традыцыі і гістарычнай памяці, — больш камфортны для пражывання, з такога горада не хочацца з'язджаць — там хочацца адкрываць сваю справу, гадаваць дзяцей. А пачынаецца ўсё з простай цікаўнасці да ўласнай зямлі.

## Вялес ці Пярун?

Чэслава ПАЛУЯН

Са дна ракі Дрыса (Расонскі раён Віцебскай вобласці) мінскія дайверы сумесна з полацкімі археолагамі ўзнялі старажытнага драўлянага ідала. Па папярэдняй ацэнцы спецыялістаў ён датуецца VI — XII стст. і з'яўляецца ўнікальнай знаходкай у сусветным маштабе. Прааналізаваўшы структуру твару і шыі, эксперты мяркуюць, што знойдзена выява язычніцкага боства вышэйшага пантэона — Вялеса ці, магчыма, Перуна. Ідал адпраўлены на кансервацыю і рэстаўрацыю ў Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, тут жа будзе вызначаны яго дакладны ўзрост.

Музейны ўнікат

# Асновы артылерыі і... касманаўтыкі



**У гэтым годзе Нацыянальнаму гістарычнаму музею Рэспублікі Беларусь, дзякуючы спрыянню суайчыннікаў, што жывуць за мяжой, удалося набыць 2-ое нямецкамоўнае выданне трактата Казіміра Семяновіча "Высокае мастацтва артылерыі", выдадзенае ў 1730 г. у Франкфурце-на-Майне, а таксама факсімільнае ўзнаўленне першага нямецкамоўнага выдання 1676 г. Дагэтуль ніводнага экземпляра трактата Казіміра Семяновіча ў дзяржаўных кнігасховішчах нашай краіны не было, сёння франкфурцкае выданне застаецца адзінай публікацыяй працы нашага суайчынніка, што прысутнічае ў музеях і бібліятэках Беларусі.**

**Юры ЛАЎРЫК,**
**фота Андрэя Крапіўкі**

Трактат беларускага шляхціча Казіміра Семяновіча "Высокае мастацтва артылерыі" прынёс яму міжнародную вядомасць. Даўшы пачатак навуковай распрацоўцы руху ракет, ён стаўся адной з асноватворчых прац не толькі ў галіне артылерыі ды піратэхнічнай справы, але нават і касманаўтыкі, што пачала развівацца стагоддзямі пазней.

Пачатак і першыя гады жыцця Казіміра Семяновіча губляюцца ў смузе мінуўшчыны — на вялікі жаль, сёння невядома дакладна, ані калі, ані дзе нарадзіўся славуты навуковец, бо не захавалася да нашага часу аніякіх дакументаў у гэтай справе. Зыходзячы з таго, што сам сябе Семяновіч называў "шляхціцам-літвінам", ды яшчэ мяркуючы па характэрнай для нашых земляў форме прозвішча, нарадзіўся ён на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, як прынята лічыць, каля 1600 г. Мяркуецца, што вучыўся ў Віленскай акадэміі, але і гэта не даказана, бо асновы вызваленых навук ён мог спасцігнуць і ў іншых езуіцкіх вучэльнях — напрыклад, у Полацку ці Берасці. Абраўшы ж за спецыяльнасць артылерыю, ён мусіў далей ужо сам даадукоўвацца, чытаючы навуковыя працы па фізіцы і хіміі, распытваючы людвісараў (майстроў па адліванні гармат і званоў) пра таямніцы іх прафесіі, нарэшце, назіраючы падчас сваёй шматгадовай вайсковай кар'еры прымяненне вынаходніцтваў тагачаснай артылерыйскай думкі розных народаў. Шмат да чаго даходзіў сам, несучы службу спярша на пасадзе інжынера, а пасля намесніка каралеўскай артылерыі. Назапашаныя веды, дбайна Семяновічам сістэматызаваныя, і ляглі пазней у аснову трактата "Высокае мастацтва артылерыі", які, з увагі на вялікую колькасць сабранага матэрыялу, мусіў выйсці ў 2-х тамах.



Найперш, у 1650 г., убачыла свет першая частка трактата на лацінскай мове — яна была выдадзена ў Амстэрдаме вядомым друкаром Янам Янсанам. У прадмове да першай часткі выдання быў заанансаваны і выхад часткі другой. На жаль, яна не пабачыла свет — як лічаць, з прычыны смерці аўтара напачатку наступнага года. Сёння мы так і не ведаем, ці была другая частка ўвогуле напісаная; пазней хадзілі чуткі, што яе бачыў у рукапісе то адзін, то другі навуковец, але дакументальных пацвярджэнняў яе існавання не знойдзена.

Тым часам, першая частка працы выклікала розгалас і атрымала міжнароднае прызнанне. Ужо праз год, у 1651-м, быў апублікаваны яе першы пераклад на сучасную мову — французскую; пазней трактатам зацікавіліся немцы, якія таксама палічылі неабходным перакласці яго для ўласнага ўжытку. Па-нямецку "Высокае мастацтва артылерыі" ўпершыню ўбачыла свет у 1676 г. у Франкфурце-на-Майне. Гэтае выданне ўжо было дапоўнена другой часткай, якую напісаў нямецкі капітан-артылерыст Даніэль Эльрых. Потым выходзілі новыя і французска-, і нямецкамоўныя перавыданні "Высокага мастацтва артылерыі", а ў 1729 г. у Лондане з'явіўся ў друку англійскі пераклад.

***На здымках: старонкі з кнігі Казіміра Семяновіча "Высокае мастацтва артылерыі", 1730 г., Франкфурт-на-Майне.***

# Клёцкі з душой

**90 год дзед ужыў. Не, не пражыў, а менавіта "ўжыў" свае 90 год. Гэтае слова адразу робіць жыццё значным, грунтоўным, трывалым. Так кажуць сталыя людзі. Ужыў. А ці частаваліся вы клёцкамі з душой? Між тым, гэтыя словы і выразы жывуць у дыялектах беларускай мовы. Пра сённяшні стан іх функцыянавання распавядае загадчык аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Вераніка Курцова.**



**Марына ЕЛІСТРАТАВА**

**— Вераніка Мікалаеўна, у якім стане сёння знаходзяцца дыялекты беларускай мовы? Хто іх асноўны носьбіт?**

— Гаворкі жывыя. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова паглядзець на сацыяльны склад сённяшняга вясковага насельніцтва. Гэта пераважна людзі сталага ўзросту, ваеннага альбо даваеннага пакалення, якія скончылі 7 класаў і праз цяжкія жыццёвыя ўмовы не мелі магчымасці атрымліваць адукацыю далей. Таму яны засвойвалі асбалютна традыцыйную, дыялектную мову свайго асяроддзя з усімі фанетычнымі, марфалагічнымі, сінтаксічнымі асаблівасцямі. І разам з тым ёсць адчуванне, што трэба спяшацца занатаваць дыялекты, бо іх носьбітаў з часам становіцца ўсё менш і менш.

**— Над чым сёння працуе аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, які вы ўзначальваеце?**

— Мы працуем над стварэннем хрэстаматыі ўсходніх гаворак. Усе асаблівасці сучаснага маўлення знойдуць у ёй адлюстраванне. Гэта своеасаблівы маўленчы партрэт канца XX — пачатку XXI ст. Тут будзе змешчаны не проста фанетычны тэкст, а агульнадаступныя матэрыялы, якія можна чытаць, як кнігу. Думаецца, такое выданне зацікавіць шмат каго. Працуем і над укладаннем нацыянальнага тэкставага дыялектнага корпуса. Так, калі прыйдзе новы зацікаўлены даследчык, ён зможа прагледзець тэксты, сістэматызаваныя па розных крытэрыях — тэрыторыі, адукацыі інфармантаў. Навуковец будзе мець вялікую базу. Такім жа чынам ствараецца гукавая нацыянальная база дыялектаў.

**— Кожная мова развіваецца. Думаю, гэта характэрна і для дыялектаў. Якія новыя тэндэнцыі назіраюцца ў беларускіх гаворках?**

— Жыхар вёскі не ізаляваны ад іншага свету. Ён слухае радыё, глядзіць тэлебачанне, дзеці ходзяць у школу. Улічваючы тое, што навакольнае асяроддзе пераважна рускамоўнае, гаворка насычаецца вялікай колькасцю рускамоўных запазычванняў. У першую чаргу гэта лексіка. Але ў той жа час запазычаныя словы суадносяцца з законамі мясцовай гаворкі, прыстасоўваюцца да яе. І гэта натуральна. Любы дыялект падсілкоўваецца сродкамі дамінантнай мовы.

**— Што адметнага было знойдзена ў гаворках за апошнія гады?**

— Некалькі год таму была экспедыцыя ў Расонскі раён. І там мы заўважылі ўнікальную з'яву для паўночна-ўсходніх гаворак — оканне. Гэта вельмі асаблівае оканне, пасля цвёрдых зычных. Напрыклад ран[о]. У цэлым, Расонскі раён — тэрыторыя дысімiляцыйнага акання, а тут раптам оканне. Але ж з'ява носіць рэштковы характар, яна знікае. Таму нельга казаць, што гаворкі паміраюць, калі захавалася такая архаічная адметнасць маўлення гэтага краю. І дагэтуль у беларускіх дыялектах застаюцца таямніцы.

**— Ці бываюць незвычайныя адкрыцці?**

— Вельмі ўразілі мяне клёцкі з душой, якія гатуюць на тэрыторыі Ушацкага раёна. Я частавалася клёцкамі, але ж каб з душой! А "душа" — гэта мясны фарш, у які для смаку дадаецца вялікая колькасць цыбулі і сала. Каб былі сапраўдныя клёцкі! Таксама была здзіўлена некаторымі рысамі святкавання Купалля ў гэтых мясцінах. Купальскія кветачкі мы называем купалкамі, а жыхары Ушаччыны — багаткамі. Багатак нарвуць, прынясуць у хату, і, калі кветачкі не завянуць, вам забяспечана багатае жыццё. А калі хоць адна кветка звяне, чакаюць непрыемнасцей. А каб здалёк было відаць, што ў вёсцы свята, бяруць карчэжку (драўляную пасудзіну), у яе ўстаўляюць смалісты корч, запальваюць. Гэтае прыстасаванне ўладкоўваюць на верхавіне бярозы. Я ўжо досыць доўга збіраю дыялекты, езджу па вёсках, але ж яшчэ знаходжу нешта новае і здзіўляюся гэтаму, бо ў мове ўсё жывое.

**— А ці выкарыстоўваюцца дыялекты ў сучаснай мастацкай літаратуры?**

— Сёння прыйшлі ў літаратуру творцы, якія выраслі ў гарадскім рускамоўным асяроддзі. І ведаць жывую мову так глыбока, як яе ведала пакаленне Янкі Брыля, Івана Пташнікава, Віктара Карамазава, яны не могуць. Таму карыстаюцца толькі тым, што засвоілі ў літаратурным ужытку. Але ж дыялекты — гэта невычэрпная крыніца сінонімаў, родных слоў, якія дыхаюць адкрытым сэнсам. І ў іх нарматыўнасці не трэба сумнявацца.

# Фестывальная кухня



**Ужо тры гады запар стылізаваную рэканструкцыю Грунвальдскай бітвы могуць пабачыць тыя, хто напрыканцы ліпеня прыязджае ў музейны комплекс "Дудуткі" на фестываль славы беларускай зброі "Наш Грунвальд". З кожным годам фестываль збірае ўсё больш гледачоў і ўдзельнікаў. Дарэчы, на гэты раз тут было больш як 200 гасцей з Беларусі і Расіі. Быць у ліку ўдзельнікаў фэсту пашчасціла і мне. Таму дзялюся сваімі асабістымі ўражаннямі наконт "кухні" фестывалю.**

**Алена ЦІШЭЎСКАЯ,**
**фота Сяргея Навагрíана**

У адным месцы бурліла тысячагадовая гісторыя Сярэднявечча. Шатры самых розных колераў, канструкцый і эпох выраслі на тэрыторыі музейнага комплексу. Выраслі літаральна на вачах, бо кожныя хвілін дваццаць лагер папаўняўся новым клубам, які адразу ж па прыездзе спяшаўся забяспечыць сябе аўтэнтычным жыллём.

Пасля сходу кіраўнікоў клубаў, што адбыўся ўвечары напярэдадні самога фэсту, удзельнікі некалькі разоў рэпеціравалі галоўную дзею — стылізаваную рэканструкцыю бітвы. Жыццё ў лагеры не замірала нават уночы — кожныя дзве гадзіны новая пара вартаўнікоў змяняла старую. Асабіста для мяне раніца наступнага дня пачалася а пятай — трэба было ісці на вахту. Адразу па заканчэнні свайго вартаўніцтва пачала збіраць на стол. Дарэчы, галоўная задача кожнага такога фестывалю — рэканструкцыя культуры і быту нашых продкаў. А таму нават кулінарныя рэцэпты і посуд такія, як былі раней.

А дзясятай лагер канчаткова прачнуўся — да пачатку фестывалю заставалася гадзіна. Да гэтага часу кожны ўжо быў апрануты па старадаўняй модзе ў залежнасці ад эпохі і геаграфіі. Адразу пасля прадстаўлення клубаў планаваўся пешы рыцарскі турнір. І мне давялося падрыхтаваць аднаго ўдзельніка да выступлення — апрануць на яго даспех. За сорак хвілін баец "пацяжэў" на трыццаць кілаграмаў — столькі ў сярэднім важыць узбраенне. Таму, калі давядзецца бачыць чалавека ў даспехах, можаце лічыць яго сапраўдным героем — у любое надвор'е ён павінен змагацца з праціўнікам, трымаючы шчыт і меч і рухаючыся так, як у звычайным жыцці. А гэта надзвычай цяжка нават падрыхтаваным байцам. Таму многія з іх не вераць у казкі, дзе багатыры паасобку тры дні стаяць супраць цэлага войска.

Час ішоў, і набліжалася галоўная дзея — рэканструкцыя Грунвальдскай бітвы. Нягледзячы на тое, што маёй асноўнай задачай было прыгатаванне ежы, падтрымка вогнішча і парадку ў лагеры, рыштунак байцоў ды клопат пра іх, мне давялося трымаць лук на баку Тэўтонскага ордэна.

Няхай гэта была бяскроўная рэканструкцыя, ды ўражанні засталіся самыя ваяўнічыя. Уявіце, як спачатку ваяроў літаральна закоўваюць у сталь, як яны ідуць на поле разам са сваімі збраяносцамі, якія нясуць шлемы, шчыты, мячы. Як лучнікі нацягваюць цеціву, як правяраюць стрэлы. Як сцяганосец бярэ ў рукі штандар… і лагер пад крыламі сцягаў выходзіць на поле і пад авацыі гледачоў дзеліцца на два варожыя бакі — саюзнае войска Літвы і Польшчы і войска Тэўтонскага ордэна.

Да пачатку бітвы некалькі хвілін. Каментатар расказвае перадгісторыю Грунвальда. Гледачы чакаюць дзеі. Асабіста ў мяне да гэтага ніколі не было адчування фатальнай блізкасці сапраўднай вялікай вайны. Менавіта яно робіць нават самы вясёлы твар сурова-ваяўнічым. Так адбылося і са мной. І гэтае адчуванне па руках да сэрца перадае зброя, якую трымаеш.

Калі прагучаў першы звон скрыжаваных мячоў, мільганулі і першыя стрэлы. Напружанне расло з кожнай хвілінай. Неба, відаць, не вытрымала ціску і выпрашыла супакоіць бой дажджом. Але бітва працягвалася нават падчас ліўню. Магістр Тэўтонскага ордэна неўзабаве забіты, крыжакі вымушаныя адступіць…

Пасля рэканструкцыі бітвы дождж спыніўся, а ўдзельнікі вярнуліся ў лагер. Нягледзячы на тое, што перад байцамі не ставілася задача наносіць удары на паражэнне, без сінякоў, расцяжэнняў ды дробных драпін з парэзамі не абышлося. Стома была як пасля сапраўднай бітвы.

Пасля рэканструкцыі Грунвальдскага змагання цікавых сярэднявечных забаў заставалася яшчэ на паўтара дні. Баі пяць на пяць, канцэрт сярэднявечнай музыкі, дзе можна было патанчыць, а для ўдзельнікаў фэсту арганізатары падрыхтавалі сапраўдны пір. На другі дзень адбыліся бугурты, турнір лучнікаў, конкурс касцюмаў. Да таго ж увесь час дзейнічаў кірмаш старажытных рамёстваў.

Сярэднявечча не пакінула мяне і пасля фестывалю — пах вогнішча, ежы, вільгаці і зброі прыехаў са мною ў Мінск.

***На здымку: рыцар ордэна Тампліераў падчас коннага турніру.***

Актуальна

# Заклік да выратавання

**Пра майстэрства беларускіх дойлідаў вядома далёка па-за межамі нашага краю. Але храмы і палацы, матэрыяльныя помнікі гісторыі падуладныя зменам часу, прырода і чалавек не заўсёды да іх літасцівыя. Што зробіць супраць іх разбурэння наш сучаснік? Адраджэнню, рэстаўрацыі і аднаўленню гістарычных помнікаў у апошнія гады надаецца вялікая ўвага на дзяржаўным узроўні. Не так даўно Міністэрствам культуры і Генеральнай пракуратурай Рэспублікі Беларусь прынятая сумесная пастанова пра супрацоўніцтва па пытаннях аховы гісторыка-культурнай спадчыны.**

**Мы папрасілі ўдакладніць некаторыя яе моманты намесніка начальніка ўпраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Аксану СМАТРЭНКУ:**

— Гэтая пастанова не вызначае новыя падыходы па пытаннях кантролю захавання гісторыка-культурнай спадчыны, а абагульняе дзеючыя ў цяперашні час нарматыўныя акты і накіравана на прынцыпе мер арганізацыйнага і прававога характару ў мэтах забеспячэння аховы і адпаведнага выкарыстання гісторыка-культурных каштоўнасцей. Яна акумулюе і дазваляе прымаць канцэнтраваныя рашэнні ў галіне аховы аб'ектаў спадчыны.

Пастановай вызначаны падыходы ў адносінах да парушальнікаў заканадаўства і кірункі дзейнасці спецыялістаў на ўсіх узроўнях, пачынаючы з упраўленняў культуры і органаў пракуратуры ў раёнах і абласцях — да супрацоўніцтва Міністэрства культуры з Генеральнай пракуратурай. Дакумент дае падставы для таго, каб у гэтай шматступеньчатай працы актыўней карысталіся прынятымі раней дакументамі.

Такім чынам мы хочам сказаць пра тое, што ўзмацняецца кантрольная дзейнасць, накіраваная на выяўленне парушэнняў заканадаўства ў галіне аховы гісторыка-культурных каштоўнасцей і іх праду-хіленне. А ў выпадку парушэнняў існуе дастаткова дакументаў, якія дазваляюць прымяняць меры пакарання.

**— Але на сёння досыць рэдкія выпадкі, калі парушальнікі прыцягваюцца да адказнасці. На месцах нават не хапае спецыялістаў па ахове помнікаў. Ці зможа супрацоўнік генпракуратуры ўзяць на сябе такія функцыі?**

— Нельга сказаць, што працу па ахове помнікаў стане выконваць работнік Генпракуратуры. Ажыццяўленне мерапрыемстваў па захаванні спадчыны ўваходзіць у кампетэнцыю мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. Ёсць спецыялісты ў мясцовых выканаўчых органах (упраўленнях ці аддзелах культуры), якія адказваюць за пытанні аховы. На спецыяліста ўскладваюцца пэўныя абавязкі, ён і павінен ажыццяўляць кантроль. У найбольш складаных выпадках, калі сумесныя з пракуратурай дзеянні на месцах не прыводзяць да чакаемага выніку, матэрыялы будуць накіроўвацца ў Генеральную пракуратуру.

**— За апошні год ці паўгоддзе былі прэцэдэнты, калі складаліся дакументы на парушальнікаў заканадаўства?**

— Бясспрэчна. Да прыкладу, у 2010 годзе Міністэрствам культуры па фактах парушэння заканадаўства выдадзена 14 прадпісанняў. А таксама складзены 4 пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Сёлета мы выдалі ўжо 18 прадпісанняў, дзе для заказчыка і мясцовых выканаўчых органаў вызначаліся тыя крокі, якія яны павінны зрабіць і вінаватых прыцягнуць да адказнасці. Падрыхтаваны 4 пратаколы аб адміністрацыйных парушэннях на аб'ектах, размешчаных на тэрыторыі гістарычнага цэнтра горада Мінска. Разам з тым, бываюць выпадкі, калі нам патрэбна дапамога і падтрымка спецыялістаў органаў пракуратуры.

У фарміраванні больш акрэсленай заканадаўчай базы пастанова, бясспрэчна, — гэта крок наперад.

**Свой погляд на справу аховы помнікаў даўніны выказаў і старшыня Грамадскай назіральнай камісіі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва, старшыня яго пастаяннай рабочай групы Анатоль БУТЭВІЧ:**

— Каардынацыя дзеянняў і сумесныя намаганні ў справе аховы помнікаў як дзяржаўных, так і недзяржаўных органаў вельмі карысныя. Бо, на жаль, помнікі, якіх на сёння засталося не так шмат, крычма крычаць пра ратаванне. Але гэтага крыку чамусьці не чуюць. То там моцна ўкусяць, то там пашкодзяць, знішчаць нешта. І сумесных намаганняў па ахове гісторыка-культурных каштоўнасцей практычна не было: калі меркаваць па тым, што адэкватнага пакарання за парушэнні таксама ні разу не было. Добра, што такая пастанова прынята. Законы на сённяшні дзень былі, іх трэба было выконваць і ў адпаведнасці з законамі прымаць меры ў адносінах да тых, хто шкодзіць. На жаль, такое назіралася далёка не заўсёды. Пастанова карысная, але як яна будзе дзейнічаць, залежыць ад тых, хто павінен арганізаваць яе выкананне. Спадзяюся, што яна не будзе мёртванароджаным дакументам. Паўтараю: помнікі крычма крычаць! І мы, грамадскія структуры, гатовыя падстаўляць сваё плячо, каб іх крык быў пачуты, а помнікі былі ўратаваныя і захаваныя.

**Запісала Ірына ТУЛУПАВА**

Да ведама

# На ніве краязнаўчай перыёдыкі

**Мікола БЕРЛЕЖ**

## Больш як дзесяць гадоў адлічвае сваю гісторыю краязнаўчы, гісторыка-літаратурны часопіс "Лідскі Летапісец".




Толькі цяпер патрапіў мне на вочы трэці нумар "Лідскага Летапісца" за мінулы, 2010, год. 64 старонкі, каляровая вокладка, наклад — 300 асобнікаў. Даволі шмат гісторыка-краязнаўчых тэм, якія асвятляюць фрагменты лідскай памяці, прадстаўлена ў трэцім нумары. Досыць грунтоўным падаецца рэпартаж ці артыкул пра адкрыццё ў Лідзе літаратурнага музея. Аўтар Станіслаў Суднік пазначае: "Самы вялікі пакой прысвечаны сучасным лідскім літаратарам, іх творчасці. За ўсю гісторыю Лідчына можа пахваліцца больш чым 400 імёнамі літаратараў самага рознага ўзроўню..." Пра мужчынскую гімназію ў Лідзе расказвае кандыдат геаграфічных навук Валерый Слíўкін. Уражвае збор матэрыялаў "Макрэцкія Лідскія", які ажыццявіў Станіслаў Суднік.

У гродзенскім краязнаўстве добра вядомае імя журналіста Алеся Жалкоўскага (на вялікі жаль, ён нядаўна памёр). У трэцім нумары "Лідскага Летапісца" за 2010 год змешчаны артыкул А. Жалкоўскага "Гаварылі аб творчасці і... наменклатуры". Колішні рэдактар мастоўскай раённай газеты згадвае сустрэчу літаратараў у вёсцы Гудзевічы, якая была арганізавана Алесем Белакозам. У цэнтры ўвагі тады, 14 мая 1967 года, знаходзіліся Ларыса Геніюш і Васіль Быкаў: "Гэта была важная падзея ў жыцці ўскраіннай вёскі Мастоўшчыны. Разам з Васілём Быкавым прыехалі вядомы літаратуразнавец і навуковец Аляксей Пяткевіч, маладыя паэтэсы Данута Бічэль і Вольга Іпатава. Творцы цёпла віталі Ларысу Геніюш. Віншавалі пісьменніцу з выданнем яе паэтычнага зборніка. Тым самым творчасць Ларысы Антонаўны, у недалёкім мінулым нявольніцы ГУЛАГу, чалавека, які не прыняў савецкага грамадзянства, усё ж атрымала прызнанне ў тагачаснай дзяржаве. Гэта была свайго роду перамога".

Упрыгожвае нумар і даследаванне Алеся Хітруна "Беларускі народны эпас Лідчыны: матывы і вобразы".



Віктар Гардзей

**Надта складана некалькімі радкамі расказаць пра паэта, празаіка, публіцыста, перакладчыка Віктара Гардзея, якому сёння спаўняецца 65 год. Таленавітаму пяру творцы належаць зборнікі вершаў, аповесцей і апавяданні. Ён аўтар трылогіі "Аселіца ў басейне Чорнага мора", рамана "Бедна басота", іншых цікавых і змястоўных твораў. А яшчэ Віктар Гардзей — выдатны настаўнік творчай моладзі, наогул, добры, шчыры чалавек.**

* * *

*На дол, на дах і на карнізы*
*Лісты адвечны клён трасе.*
*Ляціць кахання голуб шызы —*
*Каму ён радасць прынясе?*

*Ляцеў бы ён здалёк ці зблізку б —*
*У вокнах большае святла.*
*Калісьці я таксама выскуб*
*Пяро з ягонага крыла.*

*Ляціць да тых, каму патрэбен,*
*Хто дзесьці ў роспачы жыве, —*
*Кругі чужога шчасця ў небе.*
*Кругі пяшчоты ў сіняве.*

*Прарваўся голуб яснавокі*
*З агню, з мяцеліцы, з імжы.*
*Люблю я поле і аблокі.*
*Люблю валошкі на мяжы.*

*Хапіла мне і дзён, і сілы*
*Каханую і свет любіць.*
*Ляці, мой голуб шызакрылы,*
*І ён — дзівак — ляціць, ляціць.*

* * *

*Гасцінна, цёпла і прыветна*
*Гарыць агеньчык у акне.*
*Цяпер куточак запаветны*
*Ёсць недалёка і ў мяне.*

*Куру не ў крыўдзе папяросу,*
*І вечар шастае ў трысці.*
*Цяпер і мне ёсць, дзякуй лёсу,*
*Куды з бядой сваёй ісці.*

*На полі росным, на балоце*
*Мае не высахнуць сляды.*
*Цяпер жыву не ў адзіноце*
*І ёсць каму падаць вады.*

*Агеньчык свеціць на дарогу,*
*І ўжо нічога не баліць.*
*Цяпер і мне ёсць, дзякуй Богу,*
*Каго да сэрца прытуліць.*

* * *

*Бор шуміць усё суцішней*
*І хвалюецца дарма:*
*Ні сцяжыначкі тут лішняй,*
*Ні сарок вакол няма.*

*Што там будзе ці не будзе,*
*Нас не выдадуць лясы.*
*У пчаліным перагудзе*
*Зружавелі верасы.*

*Пчолы тут? Навошта пчолы?*
*Хопіць мёду і без іх.*
*Хопіць ветразей вясёлых.*
*Хопіць шчасця на дваіх.*

*Залатое. Маладое.*
*Звонкі верас. Мяккі мох.*
*І — жаданне трапяткое.*
*І — вачэй перапалох.*

* * *

*Каліны зарыва ачахне —*
*Зальюць дажджы яе агонь.*
*Але жнівом яшчэ не пахне*
*Твая пяшчотная далонь.*

*І цёпла мне, і снег зарана*
*Сцяжын маіх не замяце.*
*Турботна, цяжка і складана*
*Жыць на святле і ў дабраце.*

*Мінуцца шчасныя хвіліны,*
*І ўсё паўторыцца наноў —*
*Дажджы, і зарыва каліны,*
*І ранні покліч жураўлёў.*

*Не быць іх песням недапетым.*
*Не чуць нам стогнаў і пагонь.*
*Хай доўга, доўга пахне летам*
*Твая пяшчотная далонь.*

***

*Забыў твой смех, твае капрызы,*
*Забыў усё, і ты прабач.*
*Мільгнуў кахання голуб шызы.*
*Вісіць ля воблакаў крумкач.*

*Цябе, напэўна, не пазнаю,*
*Не пагляджу цікаўна ўслед.*
*Былі снягі да небакраю.*
*Былі і стома, і ўвярэд.*

*Забыў сады ў пялёстках белых.*
*Забыў масткі цераз брады.*
*Відаць, занадта быў нясмелы*
*Кахання голуб малады.*

*З табою не гуляць пры зорах,*
*Не рваць на завадзях лілей.*
*Пакуль знікаць яшчэ не скора,*
*Іграйце, скрыпкі, весялей!*

*Хай зашчыміць вясна трывогай,*
*Хай затрымціць тваё акно.*
*Кахання голуба сляпога*
*Крумкач задзёр даўным-даўно.*



Фота Віктара Кавалёва



Алег Салтук

**Да свайго 65-гадовага юбілею Алег Салтук прыйшоў са значным літаратурным набыткам. Ён аўтар паэтычных зборнікаў "Пачатак дня", "Працяг", "Святло зямлі", "На далонях жыцця", "Трывога лёсу" і іншых. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.**

## Лёсава

*Лёсам Тапчэўскага — Лёсава*
*Хутара больш няма.*
*Горкімі плача росамі*
*Назва яго сама.*

*Тут азярына высахла,*
*Вішні здзічэлі тут.*
*Толькі ўзляцелі высака*
*Думкі яго пакут.*

*Хвалька той,*
*Што з-пад Рукшаніц,*
*Стаў тут збіраць радкі.*
*Слова пайшло беларускае*
*І з лёгкай ягонай рукі.*

*Песня народа —*
*Не мода.*
*Балюча: быльнёг, курган.*
*Ды не садзіцца зроду*
*На гэты курган груган.*

## Чорны бусел

*Паглядзі і падзівуйся —*
*Чорны бусел, чорны бусел!*
*Не той, белы, на пакосе,*
*Што дзяцей у хаты носіць,*
*А той, чорны і нязвыклы,*
*Што не ведае, як выжыў.*
*Кім, калі, за што праклятьі*
*Ён, бусліха, бусляняты?*
*Паглядзі, які ён горны*
*І ад страху, мусіць, чорны.*
*Ледзь чуцён бусліны клёкат —*
*Буслу выбілі ўсе клёкі...*
*У сасны сплялася крона —*
*Птах такі безабаронны!*

* * *

*Пах жывіцы ў сасновай святліцы —*
*Той, што шмат у жыцці мне дала.*
*Не магу на малітву спазніцца,*
*Покуль радасць мая не прайшла.*

*Покуль сэрца з душою наросхрыст,*
*Покуль слова з іх шчырае мкне,*
*Усё ясна, трывала і проста,*
*Так, як трэба і хочацца мне.*

*Над знаёмым з маленства парогам*
*Неба выткала сіняву.*
*Што мне дадзена, тое, нябога,*
*Я цярпліва, з пакорай прыму.*

*Каб у сварках, нязгодах і звадах*
*Захаваць да канца дабрыню,*
*Папрашу, як магу, дапамогі*
*У паветра, вады і агню.*

*Каб уночы з дарогі не збіцца*
*І адужаць нячыстую раць,*
*Буду я пранікнёна маліцца*
*У святліцы, дзе свечкі гараць.*

* * *

*Мір вам, зямля і нябёсы,*
*Мір усяму, што жыве...*
*Хлопчык, збіваючы росы,*
*Ходзіць па мяккай траве.*

*Дзень ён ці цень даганяе,*
*Хоча рукамі злавіць?*
*Промнямі сонца сцякае,*
*Мроіва дробна дрыжыць.*

*Потым праз далі і былі*
*Прыйдзе дагадка таго,*
*Што яны з ценем лавілі*
*Ўпарта адзін аднаго.*

*Разам яны падрасталі,*
*Спалі на цёплай траве...*
*Мір вам, далёкія далі,*
*Мір усяму, што жыве.*

*Мір — хай смяюцца і плачуць*
*Той, хто ўпартым век быў,*
*Хто сваю светлую ўдачу*
*Колісь, як цені, лавіў.*

*Хай разумнее дуронік,*
*Цень даганяючы свой...*
*З траў перасыплецца на скроні*
*Сыплецца пыл сівізной.*



Надзея Парчук

## Святая Тройца

*Прыгожай летняю парой*
*праз чыстае аконца*
*Святая Тройца у пакой*
*зайшла гарачым сонцам —*

*святлом напоўніла яго,*
*і цеплынёй, і верай,*
*і пахам чэрвеньскіх лугоў,*
*і водарам аеру.*

*Па-над бажніцаю званы*
*ўрачыста зазванілі —*
*завуць да храма нас яны,*
*каб Тройцу там хвалілі.*

## Нараджэнне

*Я хаду стрымала нечакана,*
*здзіўленая ўбачанай красой:*
*прад вачыма нараджаўся ранак,*
*умываўся чыстаю расой.*

*Доўга зачаравана маўчала,*
*не магла адвесці позірк свой:*
*з-пад блакіту музыка гучала,*
*ёй касец махаў у такт касой.*

*Ранак той, як малады асілак,*
*як сапраўдны Божы Херувім,*
*нёс нам сонца — вечнае свяціла —*
*жыццядайны дух яго жывы.*

*Сонейка гарэла невысока,*
*заступала зноў на дзённы пост —*
*незнарок хавалася ў аблоках,*
*выплывала светла ў поўны рост…*

## У Спасаў дзень

*Б'юць званы святыя ў Брэсце,*
*Спас мядовы саладзіцца —*
*адгукаецца прадмесце*
*не адной яму званіцай.*

*Звон разносіцца наўкола,*
*узнімаецца да высяў,*
*і душы кранутай голас*
*просіць сэрца: памаліся!*

* * *

*Не гаварыце крыўдных слоў,*
*не гаварыце!*
*Не выцясняйце з душ любоў —*
*благаславіце*
*жанчыну-маці і жыццё,*
*святло ў нябёсах;*
*не вынішчайце пачуццё,*
*што вам далося —*
*пры нараджэнні ў гэты свет,*
*як дар вышэйшы,*
*каб тут пакінуць добры след*
*і найглыбейшы.*

*Не папракайце вы сяброў,*
*не папракайце!*
*Каб памнажалася любоў —*
*сваю аддайце*
*пяшчоту, ласку і душу*
*ім на стагоддзе,*
*бесчалавечнасці мяжу*
*не пераходзьце.*

*Умейце слоўка ім знайсці,*
*бы кветку ў жыцце,*
*іх справу добрую ў жыцці*
*як след цаніце.*
*Яны адкажуць вам дабром*
*у час патрэбны.*
*Рупней узводзьце свой паром*
*у Свет паднебны.*

* * *

*Зорам — ноч, а дню — дзянніца,*
*росны звон — світанкам...*
*Мне сцяжына тая сніцца,*
*што бяжыць да ганка —*

*да бацькоўскага парога,*
*да радзімай хаты,*
*дзе было любові многа*
*і надзей крылатых...*

# Добрая кніга да Кіева давядзе

**Учора, 18 жніўня, ва Украінскім доме ў Кіеве завяршыла работу VII Кіеўская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Каб прадэманстраваць вынікі кнігавыдання, паўдзельнічаць у шматлікіх прафесійных абмеркаваннях, прэзентацыях навінак, у сталіцу Украіны прыехалі прадстаўнікі каля 100 устаноў кніжнай індустрыі Украіны, Расіі, Польшчы, Ірана, Балгарыі. Па традыцыі вось ужо сёмы раз на міжнародны форум у Кіеў завітала і дэлегацыя беларускіх кнігавыдаўцоў на чале з Аленай Паўлавай, начальнікам упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі краіны.**



**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Максіма Голубева**

### Ганаровы госць — Балгарыя

VII Кіеўская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш уключана ў афіцыйны план святкавання 20-й гадавіны Незалежнасці Украіны. Таму яе наведалі першыя асобы дзяржавы, прадстаўнікі найбольш папулярных СМІ, вядомыя дзеячы культуры, навукі і мастацтва. Сярод ганаровых гасцей — прэм'ер-міністр Украіны Мікалай Азараў, старшыня Дзяржаўнага камітэта тэлебачання і радыёвяшчання Украіны Аляксандр Курдзіновіч, легенда ўкраінскай літаратуры, пісьменніца-шасцідзясятніца, паэтэса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Т. Шаўчэнкі Ліна Кастэнка і вядомы расійскі пісьменнік-фантаст Сяргей Лук'яненка. Тэматычная скіраванасць выстаўкі абумовіла і характар кніг, што прадстаўляліся. Гэта выданні, прысвечаныя 20-годдзю незалежнасці Украіны: "Ave, Ukraine", "Украіна. Наша эпоха: 1991 — 2011", "Пакты і Канстытуцыі". У цэлым жа на выстаўцы былі прадстаўленыя кнігі розных тэматычных кірункаў: мастацкая, дзіцячая, вучэбная, даведачная і навуковая літаратура, падарункавая, антыкварная кніга, альбомы па мастацтве, паліграфічная прадукцыя і перыядычныя выданні.

Адным з самых інтрыгуючых момантаў падрыхтоўкі форуму з'яўляецца выбранне Ганаровага госця. У гэтым годзе такі статус атрымала Народная Рэспубліка Балгарыя. Таму на форуме быў прадстаўлены калектыўны стэнд балгарскіх выдавецтваў плошчай 64 квадратныя метры, а ў межах праграмы выстаўкі прайшоў шэраг афіцыйных і дзелавых мерапрыемстваў (мультымедыйныя прэзентацыі балгарскай культуры, гістарычных і турыстычных мясцін краіны, культурна-мастацкія і літаратурныя мерапрыемствы), мэта якіх — наладзіць эфектыўнае супрацоўніцтва і ўмацаваць культурныя сувязі паміж украінскімі і балгарскімі выдавецтвамі. "Удзел Балгарыі ў якасці Ганаровага госця не выпадковы, бо Украіну і Балгарыю аб'ядноўвае этнічная, моўная і рэлігійная блізкасць, традыцыйныя эканамічныя, гандлёвыя і культурна-гістарычныя сувязі. Напрыклад, у Саюзе пісьменнікаў Украіны актыўна працуе балгарская секцыя, на балгарскай мове выдаюцца кнігі і часопісы, працуюць цэнтры балгарскай культуры, асветніцкія таварыствы, школы", — заўважыў Юрый Кушаноўскі, сябар аргкамітэта Кіеўскай выстаўкі.

### Нашы ў сталіцы Украіны

Як заўсёды, на выстаўцы ў Кіеве была шырока прадстаўлена беларуская кніга. На нацыянальным стэндзе Рэспублікі Беларусь размясцілася каля пяці соцень кніжных і перыядычных выданняў айчынных дзяржаўных і прыватных выдавецтваў: "Харвест", "Беларусь", "БелЭн імя Петруся Броўкі", "Мастацкая літаратура", "Вышэйшая школа", "Пачатковая школа", РВУ "Літаратура і Мастацтва", "Кніжны Дом" і іншых. У асноўным гэта кнігі пра Беларусь, альбомная прадукцыя, тыя выданні, што годна прэзентуюць кніжную індустрыю нашай краіны.

У сталіцы Украіны падчас выстаўкі атрымала працяг і акцыя "Беларусь сёння", што арганізавана сумесна міністэрствамі інфармацыі, культуры і замежных спраў Беларусі. У межах праекта штогод некалькі буйных бібліятэк свету атрымліваюць каля ста лепшых беларускіх выданняў. Як заўважыла Алена Паўлава, першая калекцыя кніг была перададзена ў бібліятэку Кангрэса ЗША, прадоўжылася акцыя ў Маскве, а трэцяй "кропкай прыпынку" стаў Кіеў. Так, беларускія кнігі занялі месца на паліцах Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя Уладзіміра Вярнадскага. Урачыстая цырымонія перадачы прайшла з удзелам кіраўніка беларускай дэлегацыі Алены Паўлавай, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь ва Украіне Валянціна Вялічкі, намесніка дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людмілы Кірухінай і генеральнага дырэктара нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У. Вярнадскага Аляксея Анішчанкі. У гэты ж дзень, 17 жніўня, адбылася агульная прэзентацыя кніг выдавецтваў "Мастацкая літаратура", "Пачатковая школа" і "Вышэйшая школа".

Як заўсёды, беларускія выдаўцы парадавалі кіеўскіх калег навінкамі. З удзелам аўтара Уладзіміра Дзмітрыенкі, а таксама дырэктара выдавецтва "Адукацыя і выхаванне" Мікалая Супрановіча тут прайшла прэзентацыя зусім новай кнігі (нават у Беларусі яе яшчэ не бачылі) "Разведка і іншыя тайныя службы Старажытнага Рыма і яго праціўнікаў".

## *Прэзентацыя*

# Вандроўкі па парку

**Вольга ПАЛОМЦАВА**




Кнігу "У гасцях у Варкі" Наталлі Шастаковай вы адразу залічыце ў шэраг любімых дзіцячых кніжак. Бо яе героі — звычайная беларуская сям'я (мама, тата і сын) сябруюць, жывуць у згодзе, з павагай і клопатам ставяцца да ўсяго, што навокал. У гомельскім старажытным парк ходзяць не проста так — кожны дзень дорыць новыя сустрэчы з яго насельнікамі. І ўспаміны пра іх робяцца новымі цікавымі апавяданнямі. Нашы героі ўзброеныя фотаапаратам. Фотаздымкі Яўгена і Максіма Шастаковых, змешчаныя ў кнізе, дапамогуць вам адчуць характо парку. Вандроўкі сям'і на працягу цэлага года шмат адкрыюць новага пра жыхароў парку — сойку, мухаловак, зелянушак, сівога (зялёнага) дзятла і многіх іншых. А дапамагла пасябраваць з імі вавёрка, якая пастаянна ўсміхаецца. Яна руплівая гаспадыня, і да яе жытла ахвотна збіраюцца госці. Аднойчы, праўда, вавёрка знікла на некалькі месяцаў. Яе напалохалі выбухі петард, што грымелі тут на Новы год. Каб вавёрка не знікла зноў, хлопчык з дапамогай мамы і таты піша заклік да наведвальнікаў парку, у якім просіць захоўваць цішыню і тлумачыць: калі сыдзе вавёрка, засумуюць па сяброўцы і птушкі. Чые ж тады галасы будуць гучаць у вершалінах дрэў? Сябар Воўка раздае "ўлёткі" тым, хто гуляе ў парку, і прадстаўніку гарадской адміністрацыі. Тата, мама і хлопчык упэўненыя — вынік будзе.

## *У падтрымку чытання*

### Акцёр тэатра і кіно, спявак Анатоль Длускі:

# "Малодшым братам чытаў пры свечцы"



**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Віктара Зайкоўскага**

— Я нарадзіўся ў вёсцы Туча Клецкага раёна і вучыўся ў беларускай школе. З тылу клуба была бібліятэка. Памятаю пах яе пакоя. Перачытаў там усе кнігі. Бібліятэкар здзіўлялася: "Калі ж ты бачыш дзяцінства?" Я яшчэ гуляў у футбол і ездзіў у музычную школу за 20 кіламетраў некалькі разоў на тыдзень. Калі стаў дарослым, бібліятэкар пры сустрэчы казала: "Ты такія цудоўныя песні пішаш, відаць, таму, што ў мяне шмат кніжак перачытаў". Малодшым братам — адзін на чатыры гады, другі на 12 маладзейшы за мяне — чытаў уголас на печцы "Дрыгву", "Людзі на балоце". Пахла сушанымі ігрушамі, яблыкамі. Аднойчы чамусьці святло пагасла, і я чытаў пры свечцы. Цяпер здзіўляюся — як нам там хапала месца?

Самыя цікавыя выпадкі, звязаныя з кнігамі? Дастаеўскага і Талстога чытаў у адзіноце ў пячоры на Кара-Дагу (тады яна была адчынена для турыстаў). Нічога не адцягвала ўвагі.

Сачу за навінкамі — чытаў Акуніна, Акутагаву. Апошнім часам выбіраю філасофскія кнігі. Нядаўна прачытаў "106 філасафаў". Жонка жартуе: "Нашто табе, калі ты 107-ы і ўсё ведаеш?" Пераконваюся, што ўсё ў свеце паўтараецца. Кнігі я выбіраю так: бяру ў рукі, і калі пайшлі іголачкі па пальцах — гэта мая кніга, і я хачу яе чытаць.

Чытаю ўвесь час, колькі сябе помню. Прачынаюся рана, а каб не перашкаджаць сям'і, не хадзіць, не будзіць, бяру кнігу і чытаю. Потым іду ў лес на зарадку і пасля гэтага ўваходжу ў жыццё моцным, упэўненым і закаханым у яго.

Дзеці таксама чытаюць на ноч і з раніцы. Аматары фэнтэзі. Часам, калі трэба класціся спаць, упарцяцца: "Не буду, пакуль не дачытаю старонку". Разам любім глядзець савецкія фільмы. Два-тры разы на тыдзень наведваем кніжны кірмаш. У якасці пакарання я даваў чытаць чатыры-пяць старонак і патрабаваў пераказаць. Цяпер яны мне вельмі ўдзячныя за тое, што хутка схопліваюць сутнасць і хутка чытаюць.

Дзякуючы дзецям, напісаў кніжку "Дзіцячыя прамудрасці, ці Шчасце расці разам". Уважліва запісваў усё за імі. Часта цытаваў іх прамудрасці на канцэртах.

Што параіў бы пачытаць школьнікам? "Палескіх рабінзонаў" Янкі Маўра — і абавязкова на беларускай мове.

# Калі філосаф яшчэ не адмовіўся быць фантастам



**Кнігі Станіслава Лема — "Непераможны", якая ўбачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў 2011 годзе, і "Сума тэхналогіі", выдадзеная ў 2008 годзе "Харвестам", напісаны польскім пісьменнікам і філосафам у перыяд, які даследчыкі назавуць антыўтапічным і падзяляць на тры этапы. Абедзве кнігі адносяцца да першага з іх — літаратурна-філасофскага, калі раманы Станіслава Лема падпарадкоўваюцца жанру строгай навуковай фантастыкі, часта з элементамі гратэску.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Фундаментальная літаратурна-філасофская манаграфія "Сума тэхналогіі" напісана адначасова з раманамі "Салярыс" і "Высокі замак", "Дыялогі" і "Філасофія выпадку". Потым, дасканальна праштудзіраваўшы тэорыю літаратуры, аўтар расчаруецца ў жанры. Пачнецца новы этап яго творчасці — літаратурна-эксперыментатарскі (раманы "Абсалютны вакуум", "Насмарк", "Агляд на месцы" і інш.). З 1989 года Станіслаў Лем адмаўляецца ад напісання мастацкіх фантастычных твораў і займаецца філасофіяй і публіцыстыкай.



Трымаючы ў руках дзве гэтыя кнігі, чытач можа дакладна ўявіць ход думкі аўтара, які з дапамогай мастацкіх і філасофскіх сродкаў разважае над лёсам цывілізацыі. Так, у рамане "Непераможны" сучасны ўзброены зоркалёт трапляе на планету Рэгіс ІІІ, на якой загінула каманда карабля такога ж класа. Прычына гібелі — сутыкненне з незвычайнай цывілізацыяй механізмаў. Станаўленне яе, як мяркуюць астранавігатары, праходзіла ў бойках паміж выпадкова завезенымі сюды механізмамі з жывой матэрыяй планеты і механізмамі іншага складу. У выніку атрымалася структура, якая можа існаваць у выглядзе маленькіх часцінак, што збіраюцца пры небяспецы ў чорную хмару. Яна высмоктвае ў праціўніка памяць, ператвараючы таго ў нядзольную прыстасавацца да акаляючых умоў істоту… Развагі аўтара ўкладзены ў вусны галоўнага героя Рогана, адпраўленага на заданне — адшукаць траіх членаў каманды, што не вярнуліся на карабель: "Ці павінны мы ўмешвацца ў тое, што не разумеем, і падпарадкоўваць яго сабе? Ці маем права знішчаць?" Не са страхам, а з ашаламляльным здзіўленнем астранавігатар адчувае, што ніхто з вучоных не здолее зразумець яго. На мяжы магчымасцей ён выконвае заданне і вымушаны вярнуцца на карабель не толькі як вястун гібелі сяброў, але і як чалавек, які будзе дабівацца, каб планету Рэгіс ІІІ пакінулі некранутай. "Не ўсё і не заўсёды належыць нам".

У кнігу "Непераможны" ўвайшлі таксама апавяданні "Сябар", "Сто трыццаць сем секунд", "Цемра і цвіль" і "Казка пра вылічальную машыну, якая з цмокам змагалася", у якой менавіта гратэск сітуацыі падкрэслівае небяспечнасць гульняў чалавека з машынай — вынік можа быць непрадказальны.

"Нас чакае размова пра будучае…" У "Суме тэхналогіі", якая з'явілася на мяжы навуковых эпох, калі даследаванні верагодных працэсаў яшчэ толькі ўкараняліся ў якасці аднаго з метадаў пазнання, Станіслаў Лем праводзіць унікальны і смелы тэхналагічны аналіз цывілізацый, магчымае ўзнікненне прынцыпова новых груп навуковых дысцыплін. На гэты раз аўтар адмаўляецца ад простых прадказанняў, таму кніга, створаная столькі часу таму назад, і сёння чытаецца з вялікай цікавасцю.

Хочацца адзначыць пераклад твораў. На беларускую мову "Непераможнага" пераклаў А. Бутэвіч, "Суму тэхналогіі" на рускую — Ф. Шырокаў. Прагноз на будучае ўтрымлівае каментарыі С. Перяслегіна, Н. Ютанава, Р. Ісмаілава.

## *Азбука Морзэ*

Чэслава ПАЛУЯН

● Да 70-годдзя пачатку блакады Ленінграда падрыхтаваны да выдання дзённік школьніцы Лены Міхінай "Захавай маю сумную гісторыю". Гэты дзённік раней не быў вядомы ні шырокаму колу спецыялістаў, ні тым больш чытачам. Ён захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі і за ўсе гады толькі двойчы згадваўся ў навуковых работах. На сённяшні дзень вядомыя ўспаміны многіх дарослых пра Ленінградскую блакаду, але дзіцячых успамінаў мала. У "Блакаднай кнізе" Даніііла Граніна і Алеся Адамовіча прыводзіцца дзённік Юры Рабінкіна. Ён, як і Лена Мухіна, у чэрвені 1941 года скончыў дзявяты клас. Лена пачала весці дзённік за месяц да пачатку вайны.

▬ У адной з амерыканскіх школ вырашылі паўтарыць вопыт цэнзараў саракагадовай даўнасці, афіцыйна забараніўшы культавы раман Курта Вонегута "Бойня нумар пяць, ці Крыжовы паход дзяцей" (*Slaughterhouse-Five, or The Children's Crusade*, 1969). Рашэнне выключыць кнігу са школьнай праграмы і зняць яе з паліц бібліятэкі стала вынікам скаргі прафесара Універсітэта Місуры Уэлсі Скрогінс, якая ў сваёй калонцы ў мясцовай газеце напісала пра тое, што раман Вонегута "змяшчае грубыя выказванні, якія прымусілі б пачырванець ад сораму нават матроса". Аўтабіяграфічны раман Курта Вонегута прысвечаны самаму страшнаму эпізоду ў жыцці пісьменніка: ён перажыў бамбардзіроўку Дрэздэна ў час Другой сусветнай вайны. У антымілітарысцкай кнізе цесна пераплятаюцца рэалізм, гратэск, фантастыка, элементы вар'яцтва, жорсткая сатыра і горкая праўда.

● У выдавецтве "АСТ" пабачыла свет новая кніга Міхаіла Велера "Мішахеразада". У ёй аўтар ад першай асобы распавядае пра свае прыгоды, падарожжы і экзатычныя прафесіі ў яркіх дэкарацыях савецкай эпохі. Больш як у 30-ці прафесіях спрабаваў сябе 63-гадовы аўтар: ён быў землякопам, лесарубам, паляўнічым у Запаляр'і, проста валацугам у Сярэдняй Азіі.

▬ Выдаўцы маюць намер зрабіць падарунак аматарам чытання кнігі ў ванным пакоі ці басейне. На наступны год запланаваны выхад першай кнігі, што не баіцца вады. На старонкі будзе нанесена спецыяльнае палімернае пакрыццё, якое павінна абараніць чарніла ад размывання, а паперу — ад парываў і прамакання. Падобнай тэхналогіяй карыстаюцца банкіры, якія такім спосабам абараняюць грашовыя купюры ад падробкі і зносу. Да гэтага ўстойлівымі да вільгаці былі толькі дапаможнікі для вадалазаў, а таксама некаторыя дзіцячыя кнігі. І вось цяпер упершыню абаранай ад вады будзе забяспечаны мастацкі твор. Ім стане трылер Алана Корка "The Greater Bad".

● Музей Ганны Ахматавай у Фантанным доме ў Маскве выдасць фоталетапіс, прысвечаны Іосіфу Бродскаму. У выданні будуць апублікаваныя рэдкія дакументы, а таксама фотаздымкі, што раней не друкаваліся. Большая частка здымкаў датуецца 1940–1972 гадамі. Дзякуючы гэтым архіўным матэрыялам супрацоўнікам музея ўдалося ўзнавіць некаторыя дэталі біяграфіі Бродскага, напрыклад, дакладнае месца яго нараджэння — Літоўская вуліца ў Ленінградзе, дом нумар два.

## *Маладзічок*

Вольга НОРЫНА

# Сонейка зашмат не бывае

У паэта Міколы Чарняўскага, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і прэміі імя Васіля Віткі, за пяцьдзясят гадоў творчай дзейнасці на рахунку некалькі дзясяткаў кніг. За апошнія гады іх стала на дзве больш. Адна з іх — "Сонечны кошык" — убачыла свет у 2009 годзе, запланаваная ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" як твор ушанаванага шматлікімі ўзнагародамі аўтара, другая — "Колькі ў сонейка сяброў!" — выйшла ў 2010 годзе ў прыватным выдавецтве.

Шыкоўна аздоблены каляровымі малюнкамі "Сонечны кошык" — добры падарунак, надзейны сябра для малечы, што вучыцца чытаць. Мікола Чарняўскі крочыць у нагу з часам — яго героі карыстаюцца камп'ютарам, спрабуюць сябе ў прадпрымальніцтве, чытаюць газеты і кніжкі.

*Прыцягнула мышка*
*Кніжку —*
*Падвучыць*
*Дачку-малышку.*
*— Не трымай яе ў гразі,*
*А па літарцы*
*Грызі.*

Добрых кніжак зашмат не бывае. Асабліва дзіцячых. Сведчаннем таму кніжка са светлай назвай "Колькі ў сонейка сяброў", з фота на вокладцы якой шчасліва ўсміхаецца аўтар, абдымаючы галоўных натхняльнікаў, — унука Мікітку і ўнучку Ангелінку. Менавіта яны дапамаглі нарадзіцца апавяданням-гумарынкам, дзеля іх прыдумляліся лічылкі і загадкі, казкі і скорагаворкі.

*Дзве жвавыя вавёрачкі*
*Скакалі праз вяровачкі.*
*А трэцяя вавёрачка*
*Шукала: Дзе вяровачка?"*



Увайшлі ў зборнік і песні — вершы Міколы Чарняўскага на музыку беларускіх кампазітараў Кіма Цесакова, Андрэя Пыталева, Уладзіміра Будніка, Анатоля Ізотава, Алега Чыркуна, Соф'і Альхімовіч.

Зборнічак з вершамі, нотамі і п'есай-казкай "Пад Новы год не без прыгод" стаў добрым памочнікам педагогаў у садках і малодшых класах школы, і, спадзяюся, сяброў у творчасці Міколы Чарняўскага сярод новага пакалення паболее.

Прымеркаваны да пяцідзесяцігоддзя творчай дзейнасці, "Сонечны кошык" для аўтара, канечне, падзея. "Колькі ў сонейка сяброў!" — таксама. Але гэта ні ў якім разе не апошняя старонка ў творчай біяграфіі, бо ў паэтавай скарбонцы шмат цікавых новых твораў. І на падыходзе — новая кніжка. Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва" рыхтуе зборнік "Як зрабіць вясёлым дзень". Аўтар пазначыў у анатацыі: "Вершы, казкі, гумарынкі з многамоўнай цудаскрынкі". Сусвет вобразаў дзіцячай паэзіі сярэднеазіяцкіх постсавецкіх рэспублік адлюстраваны беларускай мовай. З задавальненнем працуем верш, напісаны паводле твораў кіргізскага паэта Тэмеркула Уметаліева.

**Сто пытанняў у малога...**

*Сто пытанняў у малога:*
*— Тата, глянь!*
*Што там?*
*Скажы!*
*З-пад чубка ж, як ноч, густога*
*Вочкі — бліск,*
*Нібы стрыжы.*
*— Гэта, сынку, сонца льецца,*
*Людзі ўдзячныя яму.*
*Без яго ў тваім акенцы*
*Будзе цёмна...*
*— А чаму?*
*Хоча знаць аб тым, аб гэтым,*
*Пра арчу і алычу,*
*Пра камету і ракету,*
*І рачулку з назвай Чу.*
*Б'юць пытанні, быццам кулі:*
*— Хто там булькае ў каструлі?*
*І чаму ты, тата, рад,*
*Як бярэцца ў квецень сад?..*
*...Вадаспад пытанняў гэтых —*
*Плынь, паводка горных рэк.*
*Што з малым?*
*Няма сакрэту —*
*Падрастае Ча-ла-век!*

***На здымку: ілюстрацыя Анатоля Александровіча да кнігі Міколы Чарняўскага "Як зрабіць вясёлым дзень".***

Мастак і кніга

# Рыта Цімохава: “Даўно хацела папрацаваць з фантастычнымі сюжэтамі”



**Нагодай нашай гутаркі з мастачкай стала з’яўленне ў РВУ “Літаратура і Мастацтва” кнігі Н. Голубевай “Казкі цётачкі Руф”, якую аздобіла Рыта Цімохава.**

**— Як лёс звёў вас з Наталляй Голубевай?**

— У РВУ ўбачылі свет праілюстраваныя мною “Казкі дзяцей Беларусі”, двухмоўныя — на рускай і нямецкай, частку тыражу набыла Германія. Калі Наталля Голубева прынесла сюды сваю кнігу казак, вырашылі прапанаваць мне аздобіць і гэта выданне. Спадарыня Голубева адразу сказала, што хоча бачыць кнігу еўрапейскага



кшталту. А я даўно хацела папрацаваць з фантастычнымі сюжэтамі. У выдавецтвах даводзілася рабіць дзіцячыя казкі, часта вершаваныя — для малодшага школьнага ўзросту: крыху іншая манера, больш стылізаваная для дзяцей, яркія фарбы. Упэўнена, калі пакупнік бярэ ў рукі дзіцячую кнігу, спачатку ўсё ж такі глядзіць на ілюстрацыі. І прываблівае тое выданне, на старонках якога знойдзецца, напрыклад, чароўная капа, на якой сядзіць птушка ў капелюшы з адмысловым упрыгажэннем.

Тут больш класічны сюжэт (з элементамі стылю фэнтэзі, адпаведна і ілюстрацыі выкананы ў класічнай манеры, але пры гэтым тэкст дазваляе мастаку праявіць творчы падыход у афармленні, пафантазіраваць). З’явілася магчымасць даць стрыманыя высакародныя колеры. Казкі класічнага кшталту. Аўтар старалася рабіць кніжку на аснове і народных паданняў, і беларускай гісторыі, уплятаючы ў гэту канву гісторыю Еўропы, каб падкрэсліць, што Беларусь — еўрапейская краіна і яе культура цесна звязана з культурай іншых краін.

**— Колькі доўжылася ваша праца? І што было першым крокам?**

— Праца над кнігай ішла паўгода. Пачынала паслядоўна — ішла па тэксце. Раблю агульны макет, прыкладна размяркоўваю ілюстрацыі. Для мяне заўсёды важна, каб макет адной кнігі не быў падобны да іншай, якую я рабіла.

Спачатку трэба было знайсці вобраз цётухны Руф. Наталля Аляксандраўна хацела, каб гэта была еўрапейская жанчына, хоць і цётухна, але не сталага веку, а гадоў 30—40, інтэлігентная, адукаваная. Каб, нягледзячы на тое, што жыве ў лесе, мела дом з камінам — нешта кшталту катэджа. Я адштурхнулася ад пачатку (мяне заўсёды прываблівае вобраз жанчыны XIX стагоддзя — адукаванай у гуманістычных традыцыях таго часу, прагрэсіўных поглядаў, якая магла сябе падаць ва ўсіх адносінах, насіла даволі дэмакратычныя касцюмы і ў той жа час прытрымлівалася традыцый).

Вобраз галоўнай гераіні паўплываў і на астатніх. Звяры ў лясных катэджы апранутыя адпаведна. Задача была не з простых. Калі апранаеш казачных герояў (жывёл, у прыватнасці), трэба захаваць адпаведны стыль, каб створаныя мастаком персанажы не выпадалі з агульнай стылістычнай канцэпцыі.

**— Наколькі супала ваша канцэпцыя з аўтарскай?**

— Так, гэта не зусім проста — працаваць з аўтарам, які стварыў сваіх герояў, у яго склаліся адпаведныя іх тыпы, сваё ўяўленне. І калі ён бачыць тое, што намаляваў мастак, гэтыя ўяўленні могуць не супадаць. А вынік бывае розны: іншым часам поўнае захапленне і давер, а можа стацца і зусім наадварот. Мы знайшлі паразуменне. Каб не быць у дысанансе з аўтарам, мне прыйшлося прыслухоўвацца да яе пазіцыі, але я ўдзячная і прыемна здзіўленая тым, што Наталля Аляксандраўна прыняла і маё бачанне герояў казкі, якое, магчыма, напачатку працы не заўсёды супадала з аўтарскім.

**— Якіх герояў кнігі вам было асабліва цікава маляваць?**

— Вельмі цікавыя героі кнігі, і асабліва натхніла казка “Таямніцы зямлі Артаніі”. Героі, пра якіх толькі можа марыць мастак: чараўнікі, падземныя хады, краіна, згубленая ў часе, станоўчыя і адмоўныя персанажы.

Лёгка было ілюстраваць казку пра мудрую жабу Эрму, якая змагалася за сваё балота. Па сутнасці кожны з нас змагаецца за прастору свайго існавання: каб яно не было забруджаным. Гэта гісторыя — добрая нагода паразважаць пра экалогію душы чалавека. Чалавек не можа існаваць у адрыве ад прыроды. Калі ён гуманіст, павінен дбаць пра экалогію, разумець, што душой надзелены і жывёлы, і камяні, і вада.

Галоўны герой адной з самых цікавых казак — Чыртай, які нёс адказнасць за лёс зямлі Артаніі. На яго капелюшы я намалявала гэту згубленую зямлю.

Былі ўлічаныя просьбы аўтара пры афармленні казкі “Нерпа — царыца ільдоў”. Адна з любімых тэм Наталлі Аляксандраўны (яна пабывала ў Арктыцы).

У аснове казкі “На замкавых руінах” — рэальныя гістарычныя падзеі з жыцця каралевы Боны. Паданне звязана з Рагачоўскім замкам, яго выяву я і зрабіла на старонках кнігі, як старажытную гравюру. (Ну а карта зорнага неба — фантазія мастака.)

Цікава было рабіць вобраз пажа — хлопчыка Эрнея, якому прыйшлося прайсці праз розныя выпрабаванні, і добрага духа Базана.

**— У канцы кнігі ёсць партрэт цётухны Руф і фота аўтара, а чаму ні партрэта, ні фота мастачкі, толькі пазначана, што малюнкі вашы?**

— Гэта было маё жаданне. Няхай будзе інтрыга.

**— У кнізе плануецца працяг — нас чакае прадукцыя “Слодыча” з выявамі герояў і картай-гульнёй, з якой можна падарожнічаць па краіне Артаніі. А вы не супраць распрацаваць вобразы для камп’ютарнай гульні па матывах казак?**

— Чаму б і не, калі надарыцца такая магчымасць.

**Гутарыла Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

***На здымках: такімі ўбачыла герояў кнігі Н. Голубевай “Казкі цётачкі Руф” мастачка Рыта Цімохава.***



Пад вокладкай

**Марына ВЕСЯЛУХА**




**Кісель, В. П. Памятники истории и культуры Республики Беларусь: пособие / В. П. Кисель. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 296 с.**

Вучэбны дапаможнік падрыхтаваны ў адпаведнасці з патрабаваннямі адукацыйнага стандарта па спецыяльнасці “Турызм і гасцiннасць”. У кнізе разглядаюцца пытанні, што раскрываюць змест прыкладнага тэматычнага плана дысцыпліны “Помнікі гісторыі і культуры Рэспублікі Беларусь”. Але дадзеная кніга не сумны і нудны дапаможнік, гэта і цікавае чытво для аматараў нашай мінуўшчыны, бо гаворка ў выданні вядзецца пра помнікі археалогіі і гісторыі, архітэктуры даваеннага і пасляваеннага часу.




**Соколова, М. А. Общественные движения на территории Беларуси (XIX — начало XX в.): историография, методолгические принципы исследования / М. А. Соколова. — Минск: Беларуская навука, 2011. — 448 с.**

У манаграфіі кандыдата гістарычных навук, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі НАН Беларусі Мар’яны Сакаловай аналізуецца гісторыя грамадскіх рухаў на тэрыторыі Беларусі ў азначаны перыяд. Асноўны змест кнігі складае канцэптуалізацыя грамадскіх рухаў як аб’екта даследавання і структураванне на гэтай аснове прадметнага поля вывучэння аб’екта. Кніга змяшчае шэраг прынцыпова новых гістарыяграфічных і тэарэтыка-метадалагічных распрацовак.




**Данільчык, А. Сон, які немагчыма забараніць: вершы / Аксана Данільчык. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 168 с.**

“Калі б я была ўпэўнена, / што ты так сумееш без мяне / гэтаксама, як я без цябе, / то напісала б доўгі ліст, / у якім згадала б пра зорку / і пра майскага жука, / пра вершы, / што нагадваюць лабірынты…” Новая кніга паэзіі Аксаны Данільчык — гэта актуальная еўрапейская паэзія з глыбока асабістымі і блізкімі кожнаму, хто спрабуе адказаць на вечныя пытанні, вобразамі, думкамі і ідэямі. Каханне, горад, снег, неба, вакзал, замак у Міры натхняюць паэтку на творчасць. Асобны раздзел “Італіі з любоўю” склалі пераклады паэзіі з італьянскай мовы.




**Мартел, Я. Беатриче и Вергилий / Янн Мартел; пер. с англ. А. Сафронова. — Москва: Эксмо; Санкт-Петербург: Домино, 2011. — 192 с.**

“Другі раман Генры, таксама выдадзены пад псеўданімам, меў поспех. Ён атрымаў усялякія прэміі і быў перакладзены на тузін моў. З розных канцоў свету сыпаліся запрашэнні на “прэм’еру кнігі” і літаратурныя фестывалі; раман прынялі ў незлічоных школьных і чытацкіх гуртках, яго бралі ў дарогу пасажыры цягнікоў і самалётаў, а Галівуд збіраўся экранізаваць, і іншае, і іншае”. Што будзе з паспяховым пісьменнікам Генры далей? Як заўсёды, пасля вялікага творчага поспеху прыходзіць крызіс. Ён пераязджае ў безыменны мегаполіс, наймаецца ў аматарскую тэатральную трупу і працуе афіцыянтам у шакаладніцы. Але аднойчы, як гэта заўсёды бывае, ён атрымлівае па пошце дзе пасылкі — навелу Флабера і рукапіс няскончанай п’есы “Беатрычэ і Вергілій”, якую Генры павінен дапісаць.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**

# Два апавяданні



Навум Гальпяровіч

## Мулявін

Магнітафон у мае юнацкія гады не сказаць, каб быў ужо такой выключнай рэдкасцю, але меў яго з маіх знаёмых далёка не кожны. Ва ўсякім разе, у нашым прыгарадным пасёлку. Хіба толькі ў мяне быў старэнькі прыёмнік "Рэкорд" з прайгравальнікам, які падарылі бацьку на пяцідзесяцігоддзе.

А ў майго аднакласніка і сябра быў сапраўдны партатыўны магнітафон "Дайнова" — мара ўсіх нашых пацаноў. І шмат запісаў — безумоўна, "Бітлы", Чэслаў Немэн, Марыля Радовіч, "Роўлінг стоўнз", Хампердынг, Высоцкі...

Тады толькі-толькі сталі ўваходзіць у моду польскія гурты "Чырвоныя гітары", "Скальды", "Но То Цо" і іншыя, якія спявалі па-польску тое, што потым стала насіць назоў "фольк-рок". Асабліва падабаўся нам гурт "Но То Цо", які па-майстэрску апрацоўваў народныя песні.

— Чаму б і нашым артыстам не спяваць па-беларуску? — выказаўся неяк Валодзя Варпаховіч, якога мы звалі Дзядзькам Томам. — Быў бы і ў нас такі гурт, беларускі.

— А што? Класна было б! — пагадзіліся мы.

А пакуль тое дзе-небудзь адбудзецца, рашылі самі стварыць такі гурт. Найбольш скептычна да ідэі паставіўся я, бо не ўмеў іграць ні на якім інструменце.

— Нічога, мы цябе за ўдарныя пасадзім! — суцешылі хлопцы.

Такім чынам, заставалася толькі ажыццявіць задуманае. Якіх назваў мы тады будучаму гурту не прыдумвалі: "Хата", "Шлі да вёскі", "Малойцы"...

І хоць артыстамі так і не сталі, любоў да фольк-року захавалі надоўга.

Тым часам аднойчы ў Полацку з'явілася афіша. На ёй з вялікага здымка на мінакоў глядзелі валасатыя і вусатыя хлопцы, падобныя знешнім выглядам на нашых куміраў. Гурт зваўся "Лявоны".

Канцэрт мусіў адбыцца ў новенькім Палацы культуры нафтавікоў у Наваполацку.

Калі мы прыехалі амаль перад самым пачаткам канцэрта, перад Палацам тоўпіўся люд, у асноўным, канечне, моладзь. Білетаў у касе не было.

— Я ведаю, як прайсці, — выгукнуў, падышоўшы да нас, Віцёк з суседняга завулка. — Хадзем за мной!

Мы з унутранага двара па нейкай пажарнай лесвіцы забраліся пад самы дах. Адтуль праз запылены люк вылезлі на каласнікі над сцэнай. Так увесь канцэрт і адседзелі над галовамі выступоўцаў.

Канцэрт нас уразіў. Калі ў першым аддзяленні хлопцы спявалі знаёмыя хіты "Бітлаў", то ў другім — загучалі вельмі незвыклыя кампазіцыі.

"Як я ехаў да яе — брычка на райсорах, а прыехаў ад яе — хата на падпорах..." — выводзіў вусаты лысаваты дзяцюк рыхтык старадаўні шляхцюк. І гэта было так арыгінальна і так кранала, як быццам увасобіліся патаемныя мары.

"Мулявін", — пачуў я тады ўпершыню гэта прозвішча, якое стала для мяне адметным і яркім на ўсё жыццё.

А праз год у горад прыехалі "Песняры" — як аказалася, усё тыя ж хлопцы на чале са сваім вусатым кіраўніком.

Я пасля года працы грузчыкам на заводзе шклобалакна быў ужо студэнтам-завочнікам журфака і працаваў карэктарам у полацкай газеце, актыўна пісаў і прэтэндаваў на залічэнне ў штат творчых работнікаў. Таму, завітаўшы ў кабінет рэдактара напярэдадні канцэрта, прапанаваў яму напісаць артыкул пра "Песняроў".

Іван Фёдаравіч, былы партызан, чалавек суровы, старой закалкі, запытаўся:

— Якія гэта "Песняры"? Што песні беларускія каверкаюць?

— Не каверкаюць, — горача запярэчыў я, — наадварот — прапагандуюць сярод моладзі ў сучаснай апрацоўцы!

— Добра, пішы. Толькі ўжо надта не захапляйся. Паглядзім, якія гэта "Песняры".

Дарэчы, некаторыя нашы супрацоўнікі, асабліва старэйшага ўзросту, ужо не раз выказваліся, што, маўляў, нейкія "Песняры" псуюць народныя мелодыі, крыўляюцца на сцэне...

Мулявіна за гадзіну да канцэрта я знайшоў у рэпетыцыйнай зале самага вялікага ў той час у Полацку канцэртнага будынка — Дома афіцэраў.

Гэта было маё першае інтэрв'ю з прыезжай зоркай, і я вельмі хваляваўся: як сустрэне мяне, дзевятнаццацігадовага юнака, папулярны артыст.

Уладзімір Георгіевіч аказаўся вельмі простым і адкрытым. Не спяшаючыся, ён стаў распавядаць пра сяброў па сцэне, пра гастролі...

Калі ж я загаварыў пра польскія гурты, ён прыкметна зацікавіўся. Яму, відавочна, было прыемна, што я разумею творчую канцэпцыю "Песняроў", з'яўляюся іх гарачым прыхільнікам. Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што далёка не ўсе спачатку прынялі і зразумелі маладых артыстаў.

— Можа, сам вершы пішаш? — запытаўся Мулявін і, пачуўшы станоўчы адказ, сказаў: — Прышлі на наш адрас у філармонію. Можа, што і атрымаецца. Беларускія тэксты нам вельмі патрэбныя.

А потым быў канцэрт. І славутыя "Касіў Ясь канюшыну", і "Александрына", і "Ты мне вясною прыснілася"... І пасля кожнай песні — авацыі, крыкі "брава".

Матэрыял для газеты атрымаўся досыць вялікі і, нягледзячы на папярэджанні рэдактара, захоплены. Ён, праўда, яго трошкі падправіў, выкінуўшы некаторыя развагі і незразумелыя для яго музычныя тэрміны.

А яшчэ прыблізна праз год у тым жа Доме афіцэраў я зноў гутарыў з Мулявіным. На сустрэчу прыхапіў сшытак з вершамі, бо пасылаць у філармонію так і не рашыўся. Дасылаў толькі выразку з газетным матэрыялам.

На гэты раз трапіць за кулісы было значна цяжэй — натоўп прыхільніц літаральна атакоўваў службовы ўваход.

Крыху раздабрэлы Мулявін сустрэў мяне як старога знаёмага:

— А, прывітанне! Тую тваю нататку мы на дошку аб'яў у філармоніі павесілі. Дзякуй за падтрымку. А вершы чаго не дасылаў?

Я моўчкі працягнуў яму сшытак.

— Нічога не абяцаю, але паспрабую нешта зрабіць. Дарэчы, ты Пятрэнку ведаеш?

Мікалай Пятрэнка, самадзейны кампазітар, аўтар музыкі славутай ужо на той час песні "Ручнікі" працаваў завучам у Полацкім педвучылішчы.

— Ведаю, канечне.

— Мы запрасілі яго на канцэрт. Паслухаеш, як зрабілі яго "Ручнікі".

Зала на канцэрце зноў была паўнюткая. "Ручнікі" выклікалі цэлы шквал апладысментаў. Асабліва гледачы пляскалі, калі Мулявін, спусціўшыся ў залу, вывеў на сцэну Мікалая Макаравіча. У таго слёзы стаялі ўваччу. Не раз Пятрэнка, з якім мы потым пасябравалі, узгадваў гэты хвалюючы для яго момант.

Пасля канцэрта я зноў зайшоў за кулісы. Разгарачаны Мулявін адчытваў за нешта аднаго са сваіх музыкантаў. Той, чырвоны ад сораму, бо непадалёк тоўпіліся дзяўчаты, нясмела апраўдваўся, а Мулявін не спыняўся:

— Не пацярплю разгільдзяйства! "Песняром" стаў не дзеля таго, каб перад дзяўчатамі красавацца!

Дарэчы, той музыкант праз пэўны час і сышоў з "Песняроў", з'ехаўшы ў адзін з малавядомых маскоўскіх ансамбляў.

Заўважыўшы мяне, Уладзімір Георгіевіч перарваў гутарку і падышоў да мяне. Пацconfigured руку на развітанне:

— Будзеш у Мінску, заходзь. Вершы абавязкова пагляджу.

Больш я з Мулявіным не сустракаўся, хоць на канцэртах і ў Полацку, і ў Мінску бываў не раз. І тыя сціплыя мае радкі не сталі іх песнямі, але я пра гэта не шкадую.

Важна, што яго цудоўныя песні жывуць. Як і наша мова, якой ён, рускі чалавек, прысвяціў сваё выдатнае жыццё.

## Палата

У кожнага ёсць свая рэчка. Як у кожнага полацкага мальца свой Полацк. Памятаю, я сказаў гэта, прачытаўшы кнігу земляка-літаратара. Яму паслужлівая перадалі мае словы невядома ў якой інтэрпрэтацыі, і ён пакрыўдзіўся. Нават у інтэрв'ю сказаў, што мы хоць і нарадзіліся з ім у адным радзільным доме, ды калі кошка нарадзіла сваіх кацянят у печы, то гэта не значыць, што ўсе яны — піражкі. Я яму дарую, бо ён усё-такі любіць не толькі свой, але і мой, наш родны горад, які вышэй за ўсе спрэчкі і звады, бо ён — Полацк. І ёсць рэчачка Палата — зусім не такая магутная і велічная, як Дзвіна, але ж дарагая і блізкая майму сэрцу, як маці або каханая.

Гэта сёння яе, як кажуць, і верабей можа перайсці, а я ж у ёй тануў, а хлопцы-аднакласнікі ныралі з вышкі ў яе жоўтую ваду.

Але пра гэта пазней. А спачатку — пра дзяцінства. Першы раз мой дзядзька, мамін брат, які прыязджаў да нас з Ленінграда, вадзіў мяне плаваць на Палату, калі мне было пяць гадоў. За лясным тэхнікумам, каля Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра быў такі стыхійны пляжык, куды хадзілі дарослыя і дзеці. Там, ля невялікага астраўка, рэчка як бы раздвойвалася, і ў месцы, дзе яна зноў злучалася ў адну плынь, было досыць шырока і глыбока.

Ды не ўсе палатоўскія берагі былі такія пакатыя і травяністыя. Часам яны падымаліся высока, зарослыя хмызнякамі і вербамі, і зверху рэчка здавалася вузкай імклівай стужкай, якая гайдалася пад парывамі ветру. Імклівай яшчэ і таму, што нават вада ў Палаце не замярзала, нягледзячы ні на якія маразы.

Мы жылі па правы бераг Палаты, а па той была прыгарадная вёска Слабада, стары млын, блізкі чыгуначны вакзал, потым рэчка паварочвала да Чырвонага маста, які прапускаў яе паўз старажытнае гарадзішча да велічнай і паўнаводнай Дзвіны. Гэтае месца, дзе Палата ўпадае ў Дзвіну, трэба апісваць асобна, і я баюся, што ў мяне не хопіць фарбаў, каб перадаць усю тую велічную прыгажосць. Асабліва, калі стаіш на вісячым мосце, які злучае цэнтральную частку горада з Запалоццем. З аднаго боку — высокі бераг і строма, на якой высіцца Сафійскі сабор, з другога — драўляныя хаты Запалоцця, поймавыя лугі з пахучым разнатраўем... Такім чынам сабор стаіць адначасова і на беразе Палаты, і на беразе Дзвіны. Толькі нашы разумныя продкі маглі выбраць такое цудоўнае месца.

На беразе Палаты жыў і мой школьны сябар, чорны ад летняга загару і добры, як Дзядзька Том з любімай кніжкі. І хатка ў яго, дзе ён жыў з маці і сястрой, была падобна на хіжыну, бо было ў ёй толькі два невялічкія пакоі і куханька, а столь такая нізкая, што нават я са сваім ростам лёгка даставаў да яе рукой. Колькі разоў бываў я ў гэтай хатцы, колькі размоў было ў ёй перагаворана, колькі вершаў перадэкламавана...

Хто мог тады падумаць, што праз столькі год сябрук мой застанецца жыць у хаце адзін, што ён, таленавіты мастак і паэт, стане перабівацца на роднай вуліцы выпадковымі заробкамі — папіліць ці пакалоць на зіму дровы бабулькам-суседкам, што "хіжына" яго ўрэшце згарыць і ён знойдзе свой апошні скон без дому, без сям'і і блізкіх...

А здаецца, зусім нядаўна ён прыязджаў да мяне ў Мінск, мы хадзілі з ім па музеях і выставачных залах, і ён гаварыў, што нарэшце пара брацца за справу, што шмат задум і планаў. Як, зрэшты, гаварыў гэта не раз за доўгія гады нашага сяброўства, калі я ўшчуваў яго за бяздзейнасць, за марна страчаны час...

Але ж я пра Палату. Для мяне самым прыгожым месцам на яе берагах было тое, дзе побач высілася цэркаўка святой Ефрасінні. Нібыта на цёплай раскрытай далоні стаяла яна, тоненькая і беласнежная, стромая, нібы свечачка. І немагчыма было не прыходзіць сюды, не спускацца да вісячага мастка і, перайшоўшы праз яго, не любавацца на храм Ефрасінні з таго берага.

Нягледзячы на свае не дужа ўнушальныя памеры, Палата была ў гады майго дзяцінства вельмі багатай на рыбу. Вадзіліся ў ёй самы, ментузы, я ўжо не кажу пра шчупакоў і плотак. І зранку, і па вечарах на палатоўскіх берагах можна было сустрэць не толькі дзятву з самаробнымі вудамі, а і спрактыкаваных дарослых рыбакоў.

І купаціся мы любілі больш у Палаце, чым у Дзвіне. Асабліва ў першыя майскія дні, калі яна яшчэ была паўнаводнай. Здавалася, лёгка было пераплыць гэтую рэчку, але Палата часта паказвала свой вераломны характар, дакладней, вiраломны, бо мела шмат віроў, калі раптам сярод мелкаводдзя трапляліся глыбокія ямы, дзе вірыла, кружыла, зацягвала ў чорную глыбіню.

Аднойчы ў такі вір трапіў і я. Майскім сонечным днём. І што самае крыўднае, вакол было шмат людзей. Яны загаралі на беразе, купаліся, адзін дзядзька нават стаяў у вадзе ўсяго за некалькі метраў ад мяне. Я, пераплыўшы пару разоў рэчку, станавіўся на дно, але дна не было. Вір зацягваў, ногі раптам звяло сутаргай, я боўтаўся, але выбрацца не ўдавалася. Калі ж наважыўся клікаць на дапамогу, голасу ўжо не было. Дзякуй Богу, дзядзька паглядзеў у мой бок, хутка зарыентаваўся, зрабіў пару крокаў і выцягнуў мяне за валасы з той страшнай халоднай зеўры.

Доўга потым я ляжаў на беразе, слухаў, як пульсуе ў скронях кроў, і ніяк не мог уцяміць, як гэта я, вось так, знянацку, у такі прыгожы веснавы дзень мог назаўсёды пакінуць гэты свет.

"На берегах Полоты я еще был молодым", — напісаў аднойчы вядомы маскоўскі паэт і перакладчык Рыгор Куранёў. Яго паэма "Палата" была надрукавана ў адным з тоўстых часопісаў, друкавалася ў яго кніжках. Паэт быў сярод тых салдат, што вызвалялі Полацк ад фашысцкіх акупантаў у 1944-м. І так наша рэчка запала яму ў душу, што, праз шмат гадоў паміраючы ў роднай Маскве, ён завяшчаў жонцы і сыну развеяць яго прах у Полацку над Палатой.

Іх прывёз на машыне з Мінска мой зямляк-паэт, які ў той час быў вялікім начальнікам. Чамусьці ён прасіў мяне захаваць той візіт у тайне. У кампаніі быў яшчэ адзін наш знаны паэт, якога Куранёў таксама перакладаў на рускую мову.

Прах мы развеялі на вісячым мастку за цэркаўкай святой Ефрасінні. Тая падзея мяне вельмі кранула: трэба ж, якую ролю адыграла Палата ў лёсе далёкага маскоўскага чалавека!..

Сёння мая чыстая і светлая рэчка ўсё больш ператвараецца ў неглыбокі заемчаны ручай. А мне так хочацца, каб яна ўсё ж не знікла назаўсёды, бо без яе Полацк — не Полацк. І я — не я. Так што жыві, Палата!..

# “Прамянiстая” сатыра

**Мінае час, які звязвае мінулае з будучыняй... Многае ў бясконцым і няспынным мастацкім працэсе застаецца амаль не асэнсаваным, а то і забытым ці нават незаўважаным. Асабліва — у дачыненні да аператыўных сродкаў мастацкай графікі, якая закранае шматлікія надзённыя праблемы жыцця, па-свойму змагаецца з недахопамі, выкрывае негатыўныя паводзіны, высмейвае адмоўныя бакі чалавечых адносін і да т.п. Яна жыве на газетных і часопісных старонках, а потым знікае ў архівах, нішчыцца разам з макулатурай. І перамены ў грамадстве, ёю справакаваныя, нібы страчваюць непасрэдныя стасункі з такім жывым і надзённым мастацтвам. Але, займаючыся мэтанакіраванымі даследаваннямі, можна ўсё ж знайсці нямала цікавага і прыгадаць тое, за што мы можам быць удзячныя айчыннай карыкатуры. У барацьбе з чалавечымі заганамі ды сацыяльнымі праблемамі яна ў свой час была далёка не на апошнім месцы.**




**Людміла НАЛІВАЙКА, Яўген ШУНЕЙКА**

Прыгадайма эпахальны перыяд перамен 1920-х гадоў, звязаны з нараджэннем сучаснага беларускага мастацтва ва ўсіх яго відах і жанрах, у тым ліку і мастацкай крытыкі. З таго часу дайшла да нас унікальная старонка палітычнай карыкатуры — творы мастака-аматара, вядомага публіцыста і рэвалюцыйнага дзеяча Панцеляймона Лепяшынскага, якія былі змешчаныя ў газеце “Звязда” ў 1928 г. Іх аўтар звярнуўся да гісторыі палітычнай барацьбы з меншавікамі, эсэрамі, бундаўцамі і паводле вядомага лубка “Як мышы ката хавалі” адлюстраваў Уладзіміра Леніна і яго палітычных апанентаў. Тут правадыр пралетарыяту ўвасоблены ў выглядзе ўпэўненага ката (тулава, лапы, хвост кацiныя, а галава — Ільіча), які наважыўся “ганяць” у падсобных пакоях з паліцамі ды бочкамі няўрымслівых мышак-меншавікоў. Сярод іх можна ўгледзець яго колішніх паплечнікаў: Г. Пляханава, што хаваецца на акне, Ю. Мартава, які заскочыў на высокую паліцу... На другім аркушы “кот-Ленін” ужо “спіць”, а мышкі сваволяць, дамаўляюцца між сабою, торгаюць хвост правадыра. Той быццам дазваляе бавіцца з ім, лезці на спіну, хапацца за хвост. Сам жа ён нібыта вісіць у паветры, трымаючыся лапай за паліцу, як нейкі эквілібрыст. На яго, як зачараваныя, з цікавасцю пазіраюць палітычныя апаненты. А потым усчынаецца адваротнае: кот-правадыр бярэцца за разгон мышынага царства: хто трапляе яму пад кіпцюры, хто выскоквае з вокнаў, хто хаваецца ў дзіркі ды шчыліны. Падобнай інтэрпрэтацыі палітычнай барацьбы, звездзенай да гульні ў кошкі-мышкі, яшчэ не ведала палітычная сатыра, звязаная з савецкімі рэаліямі.

Моцнымі і паслядоўнымі мастакамі ў плане сатыры зарэкамендавалі сябе ўдзельнікі творчага аб’яднання “Прамень” (1927 — 1930), стваральнікам і лідарам якога быў А. Ахола-Вало. У аб’яднанне ўваходзілі вядомыя графікі-сатырыкі П. Гуткоўскі, Ф. Выхадцаў, Я. Разанаў, Г. Змудзінскі. Яны актыўна супрацоўнічалі з такімі перадавымі беларускімі газетамі, як “Звязда”, “Беларуская вёска”, “Беларускі піянэр”, “Рабочы”, “Чырвоная Беларусь”, “Савецкая Беларусь”, з часопісамі “Маладняк”, “Малады араты”, “Трыбуна мастацтва” і інш.

Аляксандр (Аляксантэры) Ахола-Вало ўвайшоў у беларускую графіку як надзвычай прадуктыўны майстар карыкатуры ў тэхніках ксілаграфіі ды лінарыту. Яго вельмі абурала праблема п’янства, якая прыніжае чалавека працы. З рэзкай крытыкай абрынуўся мастак і на адміністрацыйны бюракратызм, які пачаў хутка плесці сваё павуцінне ў беларускім грамадстве 1920-х гадоў. Адна з яго карыкатур адлюстроўвае тыповую з’яву: сяляне прыйшлі да чыноўніка, прынеслі нейкія падарункі, пачастункі. Яны цельпукаватыя, нягеглыя, няўпэўненыя, затумканыя, хоць і намаляваныя іх постаці буйным планам. А чыноўнік — дробны, як камарык, за сваім сталом, пад партрэтам правадыра на заднім плане. Мастак нібы заклікае ачысціць, пазбавіць ад такіх паразітаў родны край, вымесці з яго бюракратычнае смецце.

Адна з вядучых тэм у творчасці Ахола-Вало — міжнародны тэрарызм. На старонках такіх выданняў, як “Беларуская вёска”, “Малады араты”, “Орка”, змяшчаліся яго карыкатуры пад назвай “Крытычнае становішча Брыяна”, фігура якога нібыта круціцца ад рукі краіны Сірыі, што накінула на яго галаву пятлю. Карыкатура “Запас бяды не чыніць” мае надпіс: “Сярод ангельскіх рабочых заўважаецца злосць з прычыны прыбыцця Мусаліні ў Лёндан падпісаць Лёкарнскі ўгавор. Брэмлей паведамляе, што машыністы не зрушаць з месца той цягнік, на які сядзе Мусаліні (З газет).” Гравюра “Амерыканскі дзень” таксама мае надпіс: “Кулідж рыхтуе цэнтральную базу на барацьбу з рэвалюцыйным рухам у Еўропе”. Карыкатура “Арышты ў Пружанскім раёне” зробленая на тэму тагачасных заходнебеларускіх падзей.

Надзвычай плённы ў творчасці і аператыўны ілюстратар, мастак “Маладняка” Павел Гуткоўскі выкарыстоўваў шматстайныя сродкі выразнасці для перадачы ідэйна-вобразнай сутнасці розных літаратурных твораў, якія можна лічыць яскравымі парасткамі новай беларускай культуры. Павел Гуткоўскі праявіў сябе і як майстар сяброўскага шаржу на беларускіх літаратараў. Добрую ўсмешку выклікае вобраз Уладзіміра Дубоўкі, што ў параўнанні з яго атачэннем вiдавочна “перарос” стандартныя параметры аблічча — як і належыць лідару маладой літаратуры, сапраўднаму тытану беларускага адраджэння. (Сяброўскі шарж на У. Дубоўку быў змешчаны на старонках “Маладняка”). Вельмі непасрэдна выглядае на шаржы Міхась Чарот, які загарае на каўказскім узбярэжжы мора, выцягнуўшыся на пяску і падставіўшы вясёленькаму сонейку “ўсяго сябе”.

Творчы почырк П. Гуткоўскага цяжка пераблытаць з якім-небудзь іншым аўтарам. Яго адметны стыль выпрацаваны ў спалучэнні польскай і рускай школ графікі 1920-х гадоў (дарэчы, ён скончыў Варшаўскую мастацкую школу і наведваў майстэрню М. Дабужынскага ў Петраградзе). Гэты мастак выкарыстоўваў мантаж з розных выяў: партрэт маляваны альбо фатаграфічны, сюжэтная кампазіцыя, сімвалічныя выявы, пейзаж, геаметрызаваныя фігуры. Яго творы вылучаюцца эксперыментамі па канструяванні кампазіцыі з геаметрычных элементаў, увагай да эфектных паўкруглых ліній, контурнай абводкай са штрыхоўкай. Сімваламі ў работах П. Гуткоўскага станавіліся сонца, промні, тэатральная заслона, кнігі, народны арнамент, шчыт.

Графіка Генадзя Змудзінскага вызначаецца жаданнем мастака ўвесці ў свае кампазіцыі як мага больш розных сімвалаў і вобразаў. У кампазіцыю “Рай” уключаны працэс забудовы дома, дзе гаспадар і гаспадыня нясуць вялікае бервяно. Анёл з пісталетам і вялікай шпагай ахоўвае гэты дом, але ён спалоханы і імкнецца выйсці за вароты. Пад яго нагамі валяецца пустая бутэлька. А з неба на ўсё гэта глядзіць разззлаваны бог. Мабыць, не той рай будуе новая сям’я? Трэба будаваць не адасобленае, індывідуальнае, а агульнае памяшканне для ўсяго грамадства!

Ян Разанаў (інфармацыю пра асобу і лёс гэтага мастака нам пакуль знайсці не ўдалося) выказваўся ў жанрах карыкатуры і сяброўскага шаржу даволі ўпэўнена. Твор “Ратамскі сельсавет” скіраваны на выкрыццё багацеяў і папоў, якія хаваюцца... ў зялёнай траве. Мастак сатырычна адлюстроўваў барацьбу супраць клерыкалізму і бюракратызму. Паказваў інтэлігентаў — правага ўхіліста і нацдэмакрата — як “Непрынятыя экспанаты”, у іранічным дыялогу: “Значыць і Ваш партрэт не выставілі? — Не, уласна кажучы, выставілі... за парог”. А яшчэ Ян Разанаў пакінуў на памяць нашчадкам самыя завостраныя шаржы на пісьменнікаў Уладзіміра Дубоўку ды Кандрата Крапіву.



...Апрацоўка пачынаецца.



...У працы.






***На здымках: карыкатуры Яна Разанава на сацыял-дэмакратаў і Аляксандра Ахола-Вало на “камсамольска-царкоўны” шлюб.***

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

Прэм’ерай спектакля “Сон у летнюю ноч” завяршыў свой 122-і сезон Магілёўскі абласны драматычны тэатр. Двухактовую “лёгкадумную камедыю для дарослых” паводле знакамітай, казачна-яскравай п’есы Уільяма Шэкспіра паставіў рэжысёр Алег Жугжда — прызнаны майстар тэатра лялечнага, але ўжо не аднойчы спрычынены да “чалавечых” сцэнічных відовішчаў. Поруч з ім працавалі сцэнограф Валерый Рачкоўскі, мастак па касцюмах Надзея Якаўлева ды стваральнік музычнага афармлення Павел Кандрусевіч.

З аншлагам прайшлі ў Жодзіне паказы міжнароднага маладзёжнага культурнага праекта “Carmina Burana”. Сама назва вядомая ў нашай краіне не толькі спецыялістам, але і аматарам мастацтва: сцэнічная кантата “Карміна Бурана” нямецкага кампазітара ХХ стагоддзя Карла Орфа ўвасоблена знакамітым харэографам Валянцінам Елізар’евым у яскравы спектакль, які ўжо не адно дзесяцігоддзе ўпрыгожвае рэпертуар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.



Аднак у Жодзіне на сцэне Палаца культуры ААТ “БелАЗ” быў паказаны зусім арыгінальны твор на музыку Карла Орфа: сучасны балет “Карміна Бурана” (аўтар харэаграфіі — брытанскі майстар Ройстан Малдам) у пастаноўцы Улы Вельціке — нямецкага харэографа, кіраўніка тэатра танца ў горадзе Дуйсбургу. У міжнародным праекце, арганізатарам якога з’яўляецца Дагмар фан Эмерых, Грамадская ініцыятыва “Дзецям Чарнобыля” (г. Мюльхайм, Германія), а партнёрамі — Маладзёжны цэнтр г. Жодзіна і БДПУ імя Максіма Танка, удзельнічала нямецкая і беларуская моладзь з Бохума, Дортмунда, Дуйсбурга, Ельска, Жодзіна, Кёльна, Мінска, Мёрса, Мюльхайма.

Незвычайным культурна-адукацыйным праектам пад назвай “Каляровая гісторыя” прывабіў публіку ўсіх узростаў Нацыянальны гістарычны музей Беларусі. Арганізатары арыгінальнай музейнай праграмы мелі на мэце адкрыць шырокаму колу наведвальнікаў новы погляд на звыклыя, знаёмыя ўсім колеры. Гэта погляд праз прызму гісторыі, астраноміі, геаграфіі, псіхалогіі, дызайну, выяўленчага мастацтва і музыкі. Той, хто з цікавасцю спрычыніцца да “Каляровай гісторыі”, адчую сябе даследчыкам колеру, за нейтральнай чысцінёй якога, аказваецца, схавана столькі гістарычных жарсцяў і захапляльных падзей! У сапраўдную творчую атмасферы экспазіцыйнай залы кожны наведвальнік атрымаў магчымасць менавіта праз новае, рознабаковае спасцiжэнне колеру прасачыць і асэнсаваць семантыку агульнавядомых устойлівых выслоўяў. Такіх, напрыклад, як “блакітная кроў”, “белая варона”, “чырвоны ліхтар”, “жоўты дом” ды іншых.

# Народжаны спявацьъ



**Адным людзям даводзіцца доўга і пакутліва шукаць свой шлях у жыцці, крок за крокам намацваць тую сцяжынку, што прывядзе іх да мэты. А другія ледзь не з малых гадоў ведаюць, дзеля чаго прыйшлі ў гэты свет. Ім не трэба шукаць сваю дарогу. Трэба толькі мець сілы прайсці па ёй да канца. Рабіць сваю справу, не зважаючы на цяжкасці і перашкоды. Для беларуса, заслужанага дзеяча культуры Літвы Лявона Мурашкі справай усяго жыцця стала Песня.**

Андрэй БЛІНЕЦ

**Песня пазнаёміла яго бацькоў.** Сялянскага сына Адама Мурашку і патомную дваранку Аляксандру Сень-Сеневу з'яднала любоў да праваслаўных спеваў. Сталася гэта ў Слуцку, дзе Адам кіраваў царкоўным хорам, у якім удзельнічала і Аляксандра — уладальніца выдатнага альта. Дарэчы, Адам меў голас шырокага дыяпазону, умеў адначасова спяваць і кіраваць хорам. Пасля рэвалюцыі сям'я атабарылася ў мястэчку Сіняўка Нясвіжскага павета (цяпер Клецкі раён). Адам працаваў у праўленні гміны і адначасова быў рэгентам-псаломшчыкам мясцовай Свята-Мікалаеўскай царквы. У Сіняўцы 27 жніўня 1924 г. і нарадзіўся Лявон Мурашка.

З маленства ён прысутнічаў у царкве на рэпетыцыях хору. Неўзабаве і сам пачаў спяваць, а ў 10 гадоў ужо выконваў галоўныя партыі. Любоў да царкоўнай музыкі пранёс праз усё жыццё. Пасля Сіняўкі Адам Мурашка быў рэгентам у Баранавічах, потым — у Клецку, а ў 1937 г. сям'я пераехала ў Вільню, якая стала для Лявона Адамавіча родным горадам.

Пераезд у значнай ступені быў абумоўлены жаданнем бацькоў Лявона даць яму належную адукацыю. Ён здаў экзамены ў Віленскую беларускую гімназію, аднак там не хапала месцаў для ўсіх, хто хацеў у ёй вучыцца, і хлопчык перайшоў у рускую прыватную гімназію імя А. Пушкіна. Знаходзіў час і для заняткаў вакалам, іграў на народных інструментах, спяваў у хоры. Аднойчы разам з бацькам трапіў на канцэрт Фёдара Шаляпіна. Слухаючы оперныя арыі, народныя песні і рамансы ў выкананні Маэстра, Лявон упершыню задумаўся пра ўласную музычную кар'еру. І тады ж зразумеў, колькі трэба працаваць, каб наблізіцца да ўзроўню славутага спевака. Праз шмат гадоў Л. Мурашку назавуць беларускім Шаляпіным, але яго шлях да прафесійных вышыняў і прызнання будзе доўгім.

**Няпроста было вучыцца** ў гады Другой сусветнай вайны, калі мяняліся ўлады і ўмовы жыцця. У верасні 1939-га Вільня стала савецкай, а неўзабаве яе перадалі Літве. Але ненадоўга. Лявон Адамавіч прыгадваў: “У чэрвені 1940 года мяне ў гімназіі прэміравалі — прапанавалі экскурсію ў Каўнас. Мы сядзелі ў Каўнасе, у парку Вітаўта на Зялёнай гары і раптам пачулі знаёмы нам па 39-м годзе гук — скрыгат гусеніц савецкіх танкаў, якія ўвайшлі ў Літву.” Што потым? “Пачалася вайна і трэба было неяк перажыць, — за адным радком аўтабіяграфіі хаваецца многае. І тое, як Лявон дапамагаў арганізоўваць уцёкі з віленскага гета, выводзіў вязняў з горада; і тое, як сам пасля заканчэння гімназіі вымушаны быў усяляк пазбягаць вывазу ў Германію. Толькі пасля вызвалення змог вярнуцца да песні. Спачатку быў салістам вайсковай канцэртнай брыгады, якая выступала ў шпіталях перад параненымі, а неўзабаве прыйшоў у Беларускі ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам Р. Шырмы. Менавіта Рыгор Раманавіч параіў юнаку працягваць вучобу і паступаць у кансерваторыю.

На той час маці памерла, а сядзець на шыі ў бацькі, які зарабляў няшмат, Лявон не мог. Таму вучобу сумяшчаў з працай у вакальным квартэце Вільнюскай філармоніі. Днём — лекцыі, увечары — канцэрты; частыя гастролі, запісы на радыё. Нягледзячы на такі напружаны графік, кансерваторыю Лявон скончыў з адзнакай.

16 лютага 1950 г. адбыўся яго дэбют на опернай сцэне. “Я ішоў па вуліцы, — прыгадваў Л. Мурашка, — раптам пад'ехала машына, выйшла загадчыца літаратурнай часткі філармоніі і сказала, што мяне цэлы дзень шукаюць. Павінен ісці “Яўгеній Анегін”. Партыю Анегіна спявае Павел Лісіцыян, які прыехаў з Масквы, а партыю Грэміна выконваць няма каму, артыст захварэў. І я адразу ж пагадзіўся. Па-першае, быў малады і смелы, а па-другое, вельмі хацеў трапіць у оперны тэатр.” Дэбют прайшоў паспяхова, студэнт 5 курса кансерваторыі Лявон Мурашка быў прыняты салістам Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Літоўскай ССР.

У 1956 г. у Маскве праходзіў першы пасляваенны Усесаюзны конкурс вакалістаў з удзелам больш як 180 выканаўцаў, у тым ліку — 12 з Літвы. У фінальны тур з літоўскай групы прайшоў толькі Л. Мурашка. І з Масквы ён вярнуўся лаўрэатам.

**Нягледзячы на прыродныя здольнасці,** працаваць у тэатры было цяжка. Перашкаджалі зайздрасць ды інтрыгі некаторых калег, якіх дапякалі творчыя поспехі беларуса. Ён выканаў больш як 60 галоўных партый у 1500 спектаклях. Сярод іх Качубей у “Мазепе” П. Чайкоўскага, Пімен і Прыстаў у “Барысе Гадунове” М. Мусаргскага, Млынар у “Русалцы” А. Даргамыжскага, Канчак, Скула і Галіцкі ў “Князі Ігары” А. Барадзіна, Мефістофель у “Фаўсце” Ш. Гуно. У “Казках Гофмана” Ж. Афенбаха Л. Мурашка выконваў адразу тры ролі, пераўвасабляючыся на працягу дзеяння ў розных персанажаў.

За 15 гадоў працы ў Літоўскай дзяржфілармоніі наш зямляк выступіў у больш як 6 тысячах канцэртаў, з іх каля 500 сольных. Аднолькава гожа спяваў і творы савецкіх кампазітараў, і рускія рамансы, і класіку, і народныя песні. З гастролямі аб'ездзіў амаль увесь Савецкі Саюз. Выступаў і на палявых пляцоўках цаліны, і на адкрытых грузавых машынах, і ў цесных залах вясковых дамоў культуры. А пасля гэтага — канцэрты ў Іспаніі, Югаславіі, Венгрыі, Польшчы. Яго голас гучаў у славутым міланскім тэатры “ЛаСкала”. З асаблівым пачуццём спяваў у 1994 г. у доме Пасольства Рэспублікі Беларусь у Лондане. Сам будынак належаў яго стрыечнаму брату Івану Дзяменніку. Закінуты ваеннай віхурай у Англію родзіч Л. Мурашкі стаў паспяховым прадпрымальнікам Янам Дамінікам. Калі Беларусь абвясціла незалежнасць, Дамінік вырашыў перадаць адзін са сваіх дамоў для беларускага



пасольства. А паколькі паводле брытанскіх законаў падарунак нерухомасці абкладаецца вялікім падаткам, дом давялося здаць у арэнду на 100 гадоў за 1 фунт стэрлінгаў у год.

**За сваю дзейнасць** Л. Мурашка быў адзначаны ганаровымі званнямі заслужанага артыста і заслужанага дзеяча мастацтваў Літоўскай ССР. А вось свае дасягненні ў сферы духоўнай музыкі яму даводзілася хаваць. Яшчэ студэнтам Лявон атрымаў строгую вымову за ўдзел у хоры Віленскага сабора Святога Духа. З таго часу стараўся пазбягаць размоў пра сваю адданасць праваслаўным спевам. Але на гастролях заўсёды наведваў храм і спяваў... Толькі на пенсіі вярнуўся ў царкоўны хор, а неўзабаве стаў яго рэгентам. Штогод выконваў да тысячы розных твораў. Справу гэту лічыў вельмі адказнай і пачэснай, ставіўся да яе надзвычай сур'ёзна. За 20 гадоў не прапусціў ніводнага набажэнства. Пратаіерэй Яўген Рудэнка распавядаў: “Мінімум за гадзіну да набажэнства можна было бачыць, як ён на хорах раскладвае партытуры. Спяваў прачула, з веданнем таго, пра што пяе, і яго рэлігійнае пачуццё перадавалася праз выкананне богаслужбовых тэкстаў. Далікатны, тактоўны, з добрым пачуццём гумару, ён быў светлы чалавек”. Дарэчы, Л. Мурашка быў адзначаны царкоўным ордэнам святога дабравернага князя Данііла Маскоўскага.

Лявон Адамавіч выявіў сябе і як адзін з арганізатараў беларускага руху ў Літве. Сваю беларускасць ён адчуваў яшчэ з дзяцінства. Частымі гасцямі ў бацькоўскім доме былі музыкант-фальклярыст Рыгор Шырма, ксёндз Адам Станкевіч, настаўніца Алена Лекант. Стаўшы вядомым артыстам, Л. Мурашка з прыемнасцю ўключаў у рэпертуар беларускія песні. “Можна спяваць на любой мове — італьянскай, літоўскай, рускай, але песня на роднай — беларускай — грэе сэрца”. (Дарэчы, спяваў ён на дзесяці мовах.) У верасні 1996 г. па яго ініцыятыве ў Шальчынінкаі адбылося першае Свята беларускай песні ў Літве, эмблемай якога стаў чырвоны пеўнік на белым фоне. Газета “Эхо Литвы” пісала: “Галасісты пеўнік абудзіў яшчэ адзін дзень адраджэння шчырай беларускай песні. Адзін за адным выходзілі на сцэну самадзейныя калектывы, прымушаючы залу выбухаць сяброўскімі апладысментамі. Не хапала месца ўсім, хто прыйшоў сюды паслухаць і пагалядзець. Настрой у людзей быў такі, што хацелася спяваць ды спяваць”. І такія фестывалі зрабіліся рэгулярнымі. Яны праходзілі ў розных гарадах Літвы, і штораз абавязкова запрашаліся калектывы з Беларусі. Лявон Адамавіч не толькі займаўся арганізацыйнай работай, але і вёў канцэрты і ўдзельнічаў у іх.

У студзені 1997-га ў Літве было зарэгістравана Згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый, старшынёй якога абралі Л. Мурашку. Праз восем гадоў Згуртаванне аб'яднала 17 суполак і налічвала больш як 15 тысяч чалавек. На яго рахунку — падтрымка дзейнасці беларускай школы імя Францішка Скарыны ў Вільнюсе; правядзенне святаў беларускай культуры; устаноўка мемарыяльных дошак у гонар Янкі Купалы, Рыгора Шырмы, Браніслава Тарашкевіча; адкрыццё помніка Кастусю Каліноўскаму ў Шальчынінкаі; арганізацыя гастроляў беларускіх мастацкіх калектываў; выданне інфармацыйнага бюлетэня і правядзенне з'ездаў беларусаў Літвы. Як мог не малады ўжо чалавек займацца такой колькасцю спраў? “Такі рытм жыцця мне падабаецца. Адчуваю сябе патрэбным, а гэта ў маім узросце вельмі важна”, — казаў Л. Мурашка.

**Заўсёды Лявон Адамавіч** адчуваў падтрымку свайго самага надзейнага сябра, адданага слухача і строгага крытыка — жонкі Вікторыі. Яны пазнаёміліся ў 1953 г., калі Вікторыя Серапінайтэ працавала інструктарам партыйнага аддзела прапаганды і агітацыі, а Лявон Мурашка спяваў на опернай сцэне. Праз пяць гадоў узялі шлюб, які перакрэсліў усю кар'еру Вікторыі: выйшла замуж за беспартыйнага, верніка, ды яшчэ і абвянчалася ў царкве! Давялося пакінуць партыйную службу і знайсці працу эканаміста... Яны шчасліва пражылі разам паўстагоддзя.

У жніўні 2009 г. Лявон Адамавіч планаваў адзначыць 85-годдзе. Збіраўся спяваць на юбілейным канцэрце. Але 9 сакавіка яго не стала. Маэстра пакінуў прыкметны след у літоўскай музычнай культуры, назаўсёды захаваўшы вернасць беларускай песні. Засталіся запісы яго выступленняў і канцэртаў; ёсць літаратурна-мастацкі музей у школе імя Скарыны, створаны па асабістай ініцыятыве Л. Мурашкі. Жыве і традыцыя правядзення Свята беларускай песні. Два гады таму яно адбылося ў Шальчынінкаі. У фае Дома культуры, дзе праходзіў канцэрт, дэманстраваўся насценны альбом “Вялікая кніга памяці Леаніда Мурашкі” з яго здымкамі. А ў нядаўняй тэлефоннай размове ўдава спевака паведаміла, што Пасольства Рэспублікі Беларусь і Міністэрства культуры Літвы плануюць усталяваць мемарыяльную дошку на доме, дзе жыла сям'я Мурашкаў пасля пераезду ў Вільню, — па вуліцы Дзіджоі, 14. Гэты памятны знак павінны з'явіцца ўжо сёлета.

***На здымках: Лявон і Вікторыя Мурашкі ў дзень вянчання, 8 кастрычніка 1958 г.; першая роля Л. Мурашкі — князь Грэмін.***

# Чытач — самы лепшы рэжысёр



## *Мастацкія кнігі Раман Матульскі прызнае толькі ў друкаваным выглядзе*

**Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Раман МАТУЛЬСКІ — асоба ў нашай краіне і ўвогуле ў свеце вядомая. Ён удзельнік многіх міжнародных канферэнцый, на якіх часта выступае з дакладамі, ініцыятар шэрагу сур’ёзных пачынанняў у галіне міжнароднага бібліятэчнага супрацоўніцтва. Доктар педагагічных навук, аўтар мноства навуковых публікацый. Зусім нядаўна ў выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” пабачыла свет яго кніга “Бібліятэкі Беларусі. З мінулага ў будучыню”. А днямі Раман Сцяпанавіч адсвяткаваў свой юбілей. Наш карэспандэнт сустрэўся са спадаром Матульскім і задаў некалькі пытанняў.**

**— Раман Сцяпанавіч, ці памятаеце першую кнігу, якую вы прачыталі?**

— “Муха-цакатуха” — першая мая кніга, якую, лічу, проста нельга забыць. Памятаю першыя сустрэчы з рускімі народнымі казкамі. І ведаеце, у сённяшні прагматычны час тыя ўражанні ад сустрэч з казачным вымярэннем нашай прысутнасці ў свеце падаюцца надзіва моцнымі, здаецца, яны ўплывалі на фарміраванне свядомасці на працягу многіх гадоў. Ад казак і асэнсаванне таго, што нічога ў свеце лепшага за кнігу няма.

**— І таму ў вас дома поўны гаспадар — кніга?..**

— Ды не, усяго толькі штосьці ёсць з кніг дома. А так, яшчэ на пачатку асэнсавання, якой прафесіяй займаюся, узяў сабе за правіла — не ствараць дома асабістую бібліятэку.

> *“...10—50 тэлевізійных каналаў, атрыманых з дапамогай спадарожніка. Шчоўкаеш, пераключаеш, нешта шукаеш, а што ў памяці застаецца, што сілкуе эмоцыі?! Азірніцеся: чалавецтва памятае сябе, колькі памятае кнігу, колькі захавана памяці ў кнізе.*

**— Гэта вы маеце на ўвазе, што не трэба трымаць у кватэры дзве-тры тысячы кніг?..**

— Пераязджаў на новую кватэру, перавозіў з сабою і кнігі, але не бібліятэку.

**— А ўвогуле, калі гаварыць пра ўплывы кнігі, то наколькі яны моцныя для вас цяпер? Хто з пісьменнікаў прыцягвае найбольшую ўвагу? З кім звяраеце жыццё?**

— Мацней за кнігу можа быць толькі прыватная гутарка, размова з цікавым чалавекам. Нездарма ж часам гавораць пра чалавека як пра кнігу, якую трэба прачытаць, спасцігнуць. Вусныя камунікацыі шмат значаць для нашай свядомасці... Калі вяртацца ў маленства, то я рос у нейкай надзвычай прыязнай атмасферы зносін розных пакаленняў. Тэлевізар не забіраў увагу, бо ён з’явіўся ў нашай вёсцы, калі я ў школу пайшоў. Памятаю доўгія размовы дзядулі, бабулі. Збіраліся іх равеснікі, вяліся бясконцыя аповеды не толькі пра прыватную памяць, але больш за ўсё пра ўладкаванне Сусвету. У мяне ёсць такое захапленне — збіраю кінафільмы на біблейскія тэмы. І часам гляджу той ці іншы фільм і адкрываю для сябе амаль знаёмы сюжэт. Успамінаю, здзіўляюся, што ён мне знаёмы з вясковых расповедаў. Магчыма, крыху ў іншай інтэрпрэтацыі, але тым не меней сутнасна, знакава знаёмы, ужо адкрыты маімі прашчурамі, ды, відаць, яшчэ раней — прашчурамі маіх прашчураў. Вуснае сумоўе мацнейшае яшчэ і таму, што стасункі адбываюцца вочы ў вочы. Кола замкнутае... І толькі кніга набліжаецца да гэтага, таму многіх і захапляе, бярэ ў псіхалагічны палон.

Аўтар выбудоўвае канву, пракладвае сцежку. А напісанае і выдрукаванае — ужо прастора для фантазіі, для работы чытача. Таму я асабіста з’яўляюся праціўнікам хуткага чытання. Справа ж, відавочна, у тым, як прааналізаваць адкрытае ў чытанні, як укласці яго ў сваю свядомасць, а не проста фізічна перанесці ў сябе пэўную інфармацыю. Кніга малюе вобраз, а далей ідзе праца чалавека. Кіно ж — зусім іншая справа. Там мы бачым адну лінію, добрую ці дрэнную — справа нават не ў гэтым, галоўнае — усяго толькі адну лінію рэжысёра. А чытач — самы лепшы рэжысёр. Бо кожны чытач вымалёўвае свой Сусвет.

У гэтым плане болей мабільныя электронныя сродкі...

І ўсё роўна і яны не могуць вырашаць тую шматаблічную задачу, якая падуладная кнізе. Як прыклад — 10—50 тэлевізійных каналаў, атрыманых з дапамогай спадарожніка. Шчоўкаеш, пераключаеш, нешта шукаеш, а што ў памяці застаецца, што сілкуе эмоцыі?! Азірніцеся: чалавецтва памятае сябе, колькі памятае кнігу, колькі захавана памяці ў кнізе.

**— І ўсё ж кніга для вас — і прадмет працы... Ці не адчуваеце стомленасці ад пастаяннай работы з кнігай?**

— Стомленасці не адчуваю. Іншая справа, што знаёмства з многімі кнігамі не толькі адкрывае мне новае, але і пераконвае, што аўтары ў сваіх уласных адкрыццях сусвету паўтараюцца. І тым не меней ад кніг нельга стаміцца. Бо сабраныя разам думкі, па рознаму выкладзеныя, няхай сабе і адны і тыя ж думкі, — яны ўсё адно пашыраюць прастору нашых уяўленняў пра жыццё.

На пачатку сваёй бібліятэчнай кар’еры я загадваў аддзелам камплектавання бібліятэкі Беларускага ўніверсітэта культуры. Адзін раз на тыдзень нас запрашалі ў бібліятэчны калектар па знаёмства з навінкамі і адабраць нешта. Памятаю, як хацелася патрымаць у руках кожную кнігу. Сёння, відаць, каб працаваў у тым жа бібкалектары, то ўжо нешта прапусціў бы. Прыйшла пэўная сталасць, меней кіруюць эмоцыі. Як-ніяк, лічы, з пятнаццаці гадоў у прафесіі.

**— І якім быў пачатак?**

— Культасветвучылішча ў Самбары, на Львоўшчыне. Установа наша знаходзілася ў манастырскіх сценах. Гэта таксама стварала пэўную атмасферу таямнічасці.

**— Вы доўгія гады займаецеся гісторыяй кнігі. Хто са славутых кніжнікаў і цяпер, з вышыні сённяшняга часу, уражвае сваім стаўленнем да асветніцтва?**

— Уладзіміраў... Гэта той аўтарытэт, на які будуць раўняцца яшчэ многія і многія пакаленні бібліятэказнаўцаў, гісторыкаў кнігі.

Аглядаючыся на даследаванні, увогуле стан кнігазнаўства, часам крыўдна становіцца, што гісторыя менавіта беларускай кнігі, гэты велізарны пласт беларускай культуры вельмі і вельмі слаба даследаваны. А кніга ж — люстэрка. І гісторыя беларускай кнігі — гісторыя беларускага грамадства. Беларусь — шматканфесійная краіна. Мы часта паўтараем гэтую ісціну. І разам з тым мала звяртаем увагі на езуітаў, іудзеяў, іншыя народы, чые кніжныя скарбы тут, у Беларусі, фарміраваліся. Паводле дадзеных Міколы Нікалаева, у нас было каля 100 бібліятэк у каталіцкіх саборах. А што мы ведаем пра іх? Так, больш вядомыя бібліятэкі Супрасля, Жыровіч, Лаўрышава. Іх калекцыі складалі па 3—5 тысяч асобнікаў. А былі ж калекцыі і па 15—20 тысяч! На Беларусі толькі на беларускай мове друкавалі і некалькімі шрыфтамі — кірыліцай, лацініцай, арабскай вяззю... Чаму ж тады тысячы кніг сталі падчаркамі, аказаліся па-за ўвагай даследчыкаў?! Так, працэс даследавання “белых плямаў” складаны яшчэ і таму, што цяпер гэтыя кнігі раскіданыя па ўсім свеце, знаходзяцца ў Літве, Польшчы, Украіне... І тым не менш наспеў час для карпатлівай працы, для стварэння цэласнага ўяўлення пра культурную спадчыну Беларусі.

**— Раман Сцяпанавіч, вернемся ў нашы часы... У сённяшнім вашым распарадку чытання якая кніга болей месца займае — друкаваная ці электронная?**

— Гэта гледзячы як трактаваць слова, паняцце “кніга”... Калі размова пра атрыманне інфармацыі, то, зразумела, болей працую з электроннымі носьбітамі. У нас і ў бібліятэцы дакументазварот — у электронным выглядзе. А мастацкая кніга для мяне існуе толькі ў друкаваным выглядзе. Прывяду такі прыклад. Мы падрыхтавалі электронную бібліятэку па беларускай і рускай літаратуры для хатняга чытання. Зрабілі гэта, каб даць магчымасць ліквідаваць няроўнасць сярод гараджан, перад якімі адчыненыя дзверы розных па насычанасці бібліятэк, і вясковых школьнікаў. 1500 твораў сабраныя разам. Бяры, устаўляй у камп’ютар — і чытай сабе на здароўе. Вось і я паспрабаваў з экрана чытаць любімага мной Мікалая Васільевіча Гогаля. Не, не чытаецца, няма ранейшай асалоды, якая была пры знаёмстве са звычайным, кніжным “Тарасам Бульбай”.

> *“Аглядаючыся на даследаванні, увогуле стан кнігазнаўства, часам крыўдна становіцца, што гісторыя менавіта беларускай кнігі, гэты велізарны пласт беларускай культуры вельмі і вельмі слаба даследаваны. А кніга ж — люстэрка. І гісторыя беларускай кнігі — гісторыя беларускага грамадства.*

**— Раман Сцяпанавіч, адкрыйце ўсё ж такі сакрэт, як так склалася, што выбралі бібліятэкарскую сцежку? Нехта быў прыкладам?..**

— Прыклад — мой бацька. Ён паспытаў розных прафесій. Але быў і бібліятэкарам. У шостым класе мы пісалі ў сваіх Навасельцах сачыненне пра выбар будучай прафесіі. Я напісаў, што хачу быць бібліятэкарам. Мусіць, адтуль усё і пачалося...

**— Што параілі б таму маладому чалавеку, які выбірае прафесію бібліятэкара?**

— Кніжная прастора падобная да акіянічнай бязмежнасці. Мы пакуль толькі ўступілі ў той акіян. Любіце сваю прафесію — і кожнага з вас чакаюць адкрыцці!

**Гутарыў Мікола МІРШЧЫНА,**
**фота Кастуся ДРОБАВА.**

# Беларуская кніга ў Імператарскай бібліятэцы

**Наяўнасць культурных помнікаў беларускага паходжання ў зборах іншых дзяржаў не павінна нас бянтэжыць і схіляць да патрабаванняў "вярнуць нарабаванае". Такая сітуацыя з'яўляецца абсалютна нармальнай для любога цывілізаванага народа і сведчыць пра развітасць яго культуры, пашырэнне культурных уплываў на замежны свет.**

**Алесь СУША,**
**фота аўтара**

Для кожнага народа павінна быць гонарам, што вынікі творчай працы яго лепшых прадстаўнікоў выклікалі цікавасць сусветнай супольнасці і сталі прадметам збірання калекцыянераў, дзяржаўных, грамадскіх і прыватных бібліятэк замежжа.

У сувязі з гэтым цалкам зразумелым з'яўляецца наяўнасць вельмі вялікай колькасці беларускіх кніжных помнікаў у зборах нацыянальных бібліятэк суседніх краін. Сярод апошніх асобнай (калі не найбольшай) увагі заслугоўвае Расійская нацыянальная бібліятэка — адна з найбуйнейшых і найбагацейшых бібліятэк у свеце. Яна была заснавана ў 1795 г. Кацярынай II у Санкт-Пецярбургу як Імператарская публічная бібліятэка. Аднак для чытачоў (прычым незалежна ад іх сацыяльнага стану) свае дзверы адчыніла толькі ў 1814 г.



Камплектаванне галоўнай бібліятэкі Расійскай імперыі адбывалася рознымі шляхамі: ад закупак літаратуры ў краіне і за мяжой да атрымання кніжных калекцый у дар ад вядомых асоб і выкарыстання канфіскаваных збораў пэўных асоб ці нават захопленых рэгіёнаў. Так яшчэ ў XIX ст. у склад фондаў Імператарскай публічнай бібліятэкі ўвайшлі зборы некаторых дзяржаўных установ, прыватныя калекцыі вядомых асоб. Важнай падзеяй стала перадача ў 1861 г. прыватнай бібліятэкі вядомага французскага асветніка Вальтэра, якую загадала набыць яшчэ Кацярына II.

У выніку ўжо ў XIX ст. бібліятэка стала адной з найбольшых у свеце. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны бібліятэка, якая тады называлася Дзяржаўнай публічнай бібліятэкай імя М. Салтыкова-Шчадрына, займала другое месца ў свеце па аб'ёме фондаў. На сённяшні дзень фонды бібліятэкі налічваюць каля 36 мільёнаў адзінак захоўвання (для параўнання, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі — каля 9 мільёнаў, у Літоўскай нацыянальнай бібліятэцы — каля 7 мільёнаў). Прычым гэты збор багаты не толькі колькасна, але і якасна — праз унікальнасць кніжных помнікаў.




Так, Расійская нацыянальная бібліятэка валодае найбольш поўным зборам усходнеславянскай кнігі, найстарэйшая з якіх — рукапіснае Астрамірава Евангелле 1056—1057 гг. Бібліятэка захоўвае каштоўныя зборы рукапісных кніг — каля 450 тысяч помнікаў розных часоў — ад старажытных егіпецкіх папірусаў да аўтографаў нашых сучаснікаў. У якасці рарытэтаў можна згадаць фрагменты Сінайскага кодэкса IV ст. — самага старажытнага поўнага спісу Бібліі. Наведвальнікаў уражваюць таксама зборы інкунабул (каля 7 тысяч), заходнееўрапейскіх і славянскіх стардрукаў, кніг і часопісаў новага і найноўшага часоў, картаграфічных і графічных матэрыялаў. У аддзеле рукапісаў РНБ захоўваецца вялікая колькасць фондаў асабістага паходжання: матэрыялы А. Меншыкава, Р. Пацёмкіна, М. Кутузава, М. Карамзіна, М. Лермантава, Ф. Дастаеўскага, А. Блока і інш.

Не дзіва, што і беларуская кніга знайшла сваё пачэснае месца ў бязмежных зборах РНБ. Прычым адбылося гэта яшчэ пры стварэнні бібліятэкі. Якраз у 1794 г. пасля задушэння А. Суворавым нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі і ўзяцця ім Варшавы адтуль была вывезена канфіскаваная расійскімі войскамі Бібліятэка Рэчы Паспалітай імя Залускіх, якая налічвала каля 400 тысяч тамоў і выконвала функцыі нацыянальнай бібліятэкі Рэчы Паспалітай. Натуральна, у яе зборах захоўвалася вялікая колькасць каштоўных беларускіх выданняў. Гэтыя зборы былі аб'яўлены ўласнасцю расійскага ўрада і ў якасці ваеннага трафея перададзеныя ў Пецярбург, дзе сталі асновай для стварэння Імператарскай публічнай бібліятэкі.

І ў XIX ст. амаль усе выданні, якія выходзілі на беларускіх землях ці былі прысвечаны Беларусі, траплялі ў галоўную бібліятэку імперыі. Сёння іх вельмі складана знайсці ў айчынных бібліятэчных зборах. У Пецярбург з Беларусі былі вывезеныя кнігазборы многіх удзельнікаў паўстанняў 1830—1831 і 1863—1864 гадоў, якія не прынялі царскую ўладу. Так, у 1830-я гады ў Пецярбург траплялі багатыя кніжныя калекцыі Сапегаў, а сярод папер В. Ратча захоўваецца шэраг дакументаў, складзеных К. Каліноўскім (у прыватнасці, інструкцыі павятовым і акруговым начальнікам).

Сапраўднае адраджэнне беларускага кнігадрукавання адбылося ў пачатку XX ст. Да пачатку Другой сусветнай вайны ў Беларусі была выдадзена вельмі вялікая колькасць кніг і перыёдыкі, падліцыць якія даследчыкі не могуць дагэтуль. Вайна нанесла непапраўны ўрон беларускім кнігасховішчам, і сёння мы можам знайсці гэтыя кнігі хіба толькі ў найбуйнейшых бібліятэках Расіі, куды яны траплялі да вайны ў абавязковым парадку.

Такім чынам, за два стагоддзі ў РНБ была сабрана адна з найлепшых калекцый беларусікі ў свеце. Яна ўключае ўнікальныя рукапісныя помнікі (напрыклад, славутае Полацкае евангелле XII ст., Дзесятаглаў, летапісныя крыніцы), выданні першых беларускіх друкароў і друкарань: Ф. Скарыны (у т.л. адсутныя ў Беларусі віленскія выданні "Апостала" і "Малой падарожнай кніжыцы"), С. Буднага, В. Цяпінскага, В. Гарабурды, братоў Мамонічаў, а таксама добра- і малавядомыя выданні друкарань у Брэсце (напрыклад, славутая "Брэсцкая Біблія"), Любчы, Заблудаве, Еўі, Куцейне, Супраслі, Нясвіжы, Полацку, Магілёве і іншых гарадах. У свой час супрацоўнікі РНБ знайшлі настолькі вялікую колькасць беларускіх выданняў у сваіх зборах, што толькі кірылічных кніг хапіла на выпуск трох тамоў "Каталога беларускіх выданняў кірылаўскага шрыфту XVI—XVII стст." Свайго ўліку яшчэ чакаюць пазнейшыя выданні, некірылічныя выданні, а таксама шматлікія рукапісныя помнікі.

Менавіта загадчык аддзела рэдкіх кніг гэтай бібліятэкі, шырокавядомы даследчык Мікола Нікалаеў выявіў шэраг помнікаў беларускай кніжнасці ў зборах бібліятэкі. Ён шырока папулярызуе гэтыя помнікі ў сваіх публікацыях (згадайма хаця б "Палату кнігапісную" і "Гісторыю беларускай кнігі"). Пры яго падтрымцы быў рэалізаваны шэраг навуковых праектаў, у тым ліку сумесных з беларускімі бібліятэкамі, па вывучэнні кніжнай спадчыны Беларусі (напрыклад, нядаўна завершаны праект па віртуальнай рэканструкцыі кнігазбору Сапегаў). Ён усяляк падтрымлівае беларускі дух у Пецярбургу (праводзячы канферэнцыю "Санкт-Пецярбург і беларуская культура", гуртуючы людзей вакол тамтэйшых грамадскіх арганізацый, прымаючы гасцей з Беларусі). Пакуль у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ёсць такія неабыякавыя да беларускай культуры людзі, ёсць і будучыня ў сумеснай працы, а таксама ўпэўненасць у новых адкрыццях.

> *Расійская нацыянальная бібліятэка валодае найбольш поўным зборам усходнеславянскай кнігі, найстарэйшая з якіх — рукапіснае Астрамірава Евангелле 1056—1057 гг. Бібліятэка захоўвае каштоўныя зборы рукапісных кніг — каля 450 тысяч помнікаў розных часоў — ад старажытных егіпецкіх папірусаў да аўтографаў нашых сучаснікаў. У якасці рарытэтаў можна згадаць фрагменты Сінайскага кодэкса IV ст. — самага старажытнага поўнага спісу Бібліі.*

***На здымках:** рэдкае выданне полацкага гісторыка Ігната Сцябельскага пра Еўфрасінню і Параскеву Полацкіх (1781 г.), перададзенае Адамам Кіркорам у Імператарскую публічную бібліятэку; галоўны бібліятэкар РНБ Марыя Ткачэнка сярод кніг з бібліятэк Сапегаў.*

Акцыі

## Зазірнуўшы ў манітор

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

**З чэрвеня наведвальнікі гарадскіх бібліятэк Пінска маюць магчымасць прыняць удзел у віртуальнай акцыі "Пінск, які чытае", што распачаў аддзел маркетынгу на сайце Цэнтральнай гарадской бібліятэкі. Чытачы прапанавалі варыянты дэвізу ў абарону кнігі і чытання і пачалі ствараць фотагалерэю людзей з кнігамі ў руках. Акцыя планавалася быць нядоўгаю, але, прымаючы пад увагу той рэзананс, які пайшоў, яе вырашылі прадоўжыць.**

Рубрыка "Паліца кніжных сімпатый" — гэта своеасаблівы рэйтынг кніг. Задумваючыся над пытаннем, што ж паставіць на гэтую палічку, пінчукі вызначаюць найбольш цікавыя і злабадзённыя тэмы. Меркаванні чытачоў могуць стаць і падказкай сучасным пісьменнікам. З жанраў, бясспрэчна, вылучаюцца прыгодніцкая літаратура, дэтэктывы і фантастыка. На віртуальную палічку кніжных сімпатый трапілі кнігі серыі S.T.A.L.K.E.R. (А. Міціч "Гульня ў паддаўкі"), А. Марынінай "Погляд з вечнасці", Д. Прэстана, Л. Чайлда "Нацюрморт з крумкачамі" ды іншыя. Вылучаюцца і водгукі на сур'ёзную літаратуру з тлумачэннем свайх адносін да прачытанага. Таксама названыя класічныя творы.

На віртуальную палічку трапіла і літаратура духоўнага зместу, прыкладам, "Не прадавайце жамчужныя каралі" І. Сухінiнай, "Поп" А. Сегеня. З галіновай літаратуры вылучана кніга М. Нуар "Зубачыстка для мазгоў" (практыкаванні на развіццё памяці, увагі, мовы, логікі, уяўлення).

Дэвіз у абарону кнігі і чытання на Піншчыне пакуль не вызначаны. Але ўдзельнікі акцыі прапанавалі свае варыянты: "Чытаць — мудрасць спасцігаць", "Кніга — самы лепшы сябар, давярай ёй!", "Адчуй радасць ад чытання" ды іншыя.

Фотагалерэя "Пінск, які чытае" прадставіла менавіта чытачоў. Прычым усіх узростаў, ад самага маленькага чытача, які пакуль дацягваецца толькі да другой палічкі стэлажу, да… Але кропка ў акцыі не пастаўлена: яе вынікі плануецца падвесці ўвосень.

"Мы толькі пачынаем працаваць на сайце, таму выносім на абмеркаванне самае неабходнае", — патлумачыла "ЛіМу" намеснік дырэктара Пінскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Людміла Шылавец. Людміла Андрэеўна — загадчыца Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі, якая таксама збіраецца выходзіць у Сеціва і неўзабаве тут плануецца адкрыць віртуальны цэнтр дзіцячага чытання.

Пытанне — адказ

## Што такое БАЕ?

**Ірына ТУЛУПАВА**

**БАЕ — гэта Бібліятэчная Асамблея Еўразіі, куды ўваходзяць 11 нацыянальных бібліятэк і 22 арганізацыі. Поўная яе назва — некамерцыйнае партнёрства "Бібліятэчная Асамблея Еўразіі". Нацыянальная бібліятэка Беларусі — член гэтай міжнароднай арганізацыі.**

Між іншым, прэзідэнтам некамерцыйнага партнёрства "Бібліятэчная Асамблея Еўразіі" тэрмінам на 4 гады (2008—2011) абраны дырэктар НББ Раман Матульскі. У БАЕ можа ўваходзіць некалькі арганізацый ад краіны. Прыкладам, у Казахстана ёсць дзве Нацыянальныя бібліятэкі, абедзве яны з'яўляюцца членамі БАЕ.

У арганізацыі ёсць і свае выданні. Да прыкладу, "Вестник Библиотечной ассоциации Евразии". Асноўныя кірункі працы — фарміраванне заканадаўчай базы дзейнасці бібліятэк; выкананне праграмы "Залатая калекцыя Еўразіі". Праграма прадугледжвае стварэнне лічбавай калекцыі найбольш выбітных і каштоўных выданняў, якія адлюстроўваюць спецыфіку культуры народаў краін СНД.

# Сярод казак — сонечна і ўтульна

Раіса БАРАВІКОВА,
фота Кастуся Дробава

**Таццяна Швед вось ужо амаль пяць гадоў з'яўляецца дырэктарам Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска. І зразумела, што з ёю неаднойчы можна ці то пабачыцца падчас літаратурнай сустрэчы ў адной з дзіцячых бібліятэк, ці то знайсці зручны момант і перакінуцца слоўкам-другім на нейкім цікавым мерапрыемстве, якія ледзь не штодня ладзяцца ў той ці іншай бібліятэцы, дзе маленькім чытачам заўжды сонечна і ўтульна! Інакш і не можа быць, таму што дзіцячая бібліятэка не проста ўстанова культуры, а той дзівосна-казачны свет, з якога для многіх дзяцей і пачынаецца сцяжына ў жыццё. І на гэтай сцяжыне без кніжкі нельга. Яна і дапаможа знайсці адказ на нейкае складанае пытанне, і завабіць таямніча-чароўным светам казкі, а то і падштурхне на адкрыццё ці падвядзе да той самай-самай запаветнай мары, якая пазней, праз час, і стане справай дарослага жыцця… Мне і карціць распытаць Таццяну Аляксееўну: а які ж ён, маленькі чытач ці той самы падлетак нашага сённяшняга часу, паколькі сама пішу і напісала не адну кніжку для іх, але перадусім хочацца запытацца і пра ўстанову, якую яна ўзначальвае, каб чытачы "ЛіМа" адразу мелі ўяўленне пра яе, таму што Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк існуе толькі ў сталіцы.**

— Наша ўстанова была створана ў 1979 годзе, — адказвае Таццяна Аляксееўна на маё пытанне. — І мэта яе стварэння ляжыць на паверхні: для больш якаснага бібліятэчна-інфармацыйнага забеспячэння ў выхаваўчым працэсе маленькіх жыхароў Мінска праз кнігу. Цэнтрам нашай сістэмы з'яўляецца Цэнтральная гарадская дзіцячая бібліятэка імя Мікалая Астроўскага, вакол якой і гуртуюцца сямнаццаць дзіцячых сталічных бібліятэк, якія размяшчаюцца ў розных раёнах горада. Адпаведна, у Цэнтральнай бібліятэцы знаходзіцца і самы важны аддзел — аддзел камплектавання і апрацоўкі кніг, пасля чаго яны размяркоўваюцца па астатніх дзіцячых бібліятэках. Вядома, ёсць і іншыя аддзелы. Праца сучаснай бібліятэкі не ўяўляецца без інфармацыйна-бібліяграфічнага аддзела, таксама як і без аддзела маркетынгу. Да слова, менавіта аддзелам маркетынгу некалькі разоў на год у нас праводзяцца "Ярмаркі ідэй", якія адрозніваюцца ад звыклых бібліятэчных семінараў тым, што на іх запрашаюцца бібліятэкары, якія непасрэдна працуюць з маленькімі чытачамі і добра ведаюць, якое чытанне іх сёння цікавіць. Да ўсяго — ідзе абмен вопытам, а яшчэ і інфармацыяй пра мерапрыемствы, якія ладзяцца ў бібліятэках, пра сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі. Супрацоўнікі бібліятэк атрымліваюць новыя метадычныя распрацоўкі па актуальных тэмах, а ў сваім штодзённым бібліятэчным жыцці вельмі вялікую ўвагу надаюць афармленню кніжных выстаў. Гэта садзейнічае прапагандзе беларускай літаратуры, як мага больш шырокай рэкламе, што асабліва неабходна навінкам і кніжкам маладых аўтараў. З рэкламнай мэтай аб'яўлена і акцыя "Чытаем па-беларуску!", каб прыцягнуць увагу маленькага чытача менавіта да беларускай кніжкі. Тут ужо нашы супрацоўнікі выступаюць не толькі як бібліятэкары, а і ў ролі чытальнікаў. Збіраюць вакол сябе дзяцей, якія цікавяцца тым ці іншым выданнем, асабліва гэта датычыць навінак, і чытаюць кніжку ўслых.

**— Такім чынам працоўная сфера бібліятэкара пашыраецца, ён не проста абслугоўвае маленькага чытача, а непасрэдна ўводзіць яго ў свет той ці іншай кніжкі, далучае да яе. Ну, а бацькі ці, скажам, бабулі… Я не так даўно недзе чытала, што шмат у якіх краінах дзеці прыходзяць у бібліятэкі з бацькамі, як у своеасаблівы храм кнігі, дзе на яе працуе адпаведная атмасфера...**

— У нас таксама часта дзеці прыходзяць і разам з бацькамі, і з бабулямі. І шмат хто з дзяцей наведвае бібліятэкі не толькі для таго, каб узяць ці пазнаёміцца з той ці іншай кніжкай, а і проста дзеля таго, каб цікава правесці свой вольны час. Тым больш што бібліятэка нашым часам, бадай, адзіная бясплатная ўстанова культуры за выключэннем асобных паслуг, да прыкладу, заказ кнігі па тэлефоне. Але ў дзяцей вельмі вялікая нагрузка ў школе, навучальны працэс займае шмат часу. А яшчэ ж і гурткі, і розныя секцыі, дадатковае вывучэнне замежных моў. На жаль, у дзяцей дваццаць першага стагоддзя на чытанне застаецца мала часу. І ўсё ж яны знаходзяць яго, каб даволі актыўна наведваць нашы ўстановы. Мяркуйце самі: за год нашымі бібліятэкамі абслугоўваецца не менш як 125 тысяч юных чытачоў рознага ўзросту — ад самых маленькіх да старшакласнікаў. Гэта даволі ўнушальная лічба! І хаця, безумоўна ж, у першую чаргу іх цікавяць праграмныя творы па беларускай ці рускай літаратуры, у іх ёсць і любімыя пазапраграмныя кніжкі… Цікавяцца яны і перыядычнымі выданнямі. Таму, карыстаючыся момантам, хачу звярнуцца да рэдакцый нашых часопісаў, каб часцей друкавалі творы для падлеткаў, якія ў нас пакуль што адзінкавыя. Зыходзячы з чытацкага попыту, нам бракуе серыйных выданняў, кшталту такіх вельмі папулярных серый, як "Раман для дзяўчынак" ці, скажам, "Дэтэктыў для хлопчыкаў". Так, гэта папулярна-масавае чытанне, але і яно можа быць розным! Тыя ж самыя "Пунсовыя ветразі" Аляксандра Грына — хіба гэта не маленькі раман для дзяўчынак!



**— Таццяна Аляксееўна, думаю, мы нікога тут не пакрыўдзім, калі вы назавяце найбольш запатрабаваныя кніжкі нашых пісьменнікаў, каб мець уяўленне, якія творы з беларускай літаратуры для дзяцей сёння карыстаюцца найбольшым попытам.**

— Вы ведаеце, такіх твораў даволі шмат. Калі браць праграмныя, дык гэта, бадай, уся класіка ад Купалы, Коласа, Багдановіча, Маўра да Быкава і Караткевіча… З сучаснай найноўшай літаратуры магу назваць і "Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца" Алеся Бадака, і "Кім" Аляксея Дударава, аповесці Андрэя Федарэнкі, творы Анатоля Бутэвіча, Людмілы Рублеўскай, казкі Алеся Савіцкага, Алены Масла, сюды магу дадаць і вашы касмічныя "Казкі астранаўта", а яшчэ і Уладзіміра Ягоўдзіка "Дзівосны карабель", і кніжкі Адама Глобуса, і тая ж "Прынцэса тусоўкі" Яўгена Хвалея, і Міхася Зарэмбы "Арэхавы Спас", і Паўла Місько, які зусім нядаўна пайшоў з жыцця, "Грот Афаліны" і "Прыгоды бульбобаў", ды ўсё назваць і немагчыма. Атрымаецца ўнушальны спіс. Праўда, дадам, што цікавяцца дзеці выключна ўсімі кніжкамі з серыі "Казкі XXI стагоддзя", а падлеткі — тымі кніжкамі, якія выходзяць у "Літаратуры і Мастацтве" ў серыі "Пераходны ўзрост".

А яшчэ… вельмі хацелі б пачытаць і тое, чаго ў нас бракуе, якіх выданняў ну зусім мала ці ўвогуле няма. Гэта і навукова-пазнавальная літаратура, і літаратура па тэхніцы, па экалогіі, нават па правах чалавека, таго ж самага дзіцяці… І гэта ўсё павінна быць менавіта літаратурай для дзяцей — папулярна выкладзенае. У нашых бібліятэках вельмі чакаюць такіх кніжак.

> *"Шмат хто з дзяцей наведвае бібліятэкі не толькі для таго, каб узяць ці пазнаёміцца з той ці іншай кніжкай, а і проста дзеля таго, каб цікава правесці свой вольны час. Тым больш што бібліятэка нашым часам, бадай, адзіная бясплатная ўстанова культуры...*

**— Таццяна Аляксееўна, ну калі вы зноў загаварылі пра бібліятэкі, дык скажыце, з тых сямнаццаці, што ўваходзяць у Цэнтралізаваную сістэму дзіцячых бібліятэк, якую вам хацелася б асабліва вылучыць? Мне асабіста ўсё яшчэ помняцца сустрэчы з маленькімі чытачамі і ў Цэнтральнай бібліятэцы, і ў дзіцячых бібліятэках №№ 1, 4, 6, 2, куды мы былі запрошаны разам з Аленай Масла. Засталіся такія цёплыя ўспаміны, калі згадваеш бібліятэкараў, ну і, вядома ж, дзеці, запрошаныя на сустрэчу!..**

— Наконт дзяцей — згодна! А вось каб вылучыць нейкую адну з усіх нашых бібліятэк — ну ніяк не магу. Выключна ўсе заслугоўваюць таго, каб іх нейкім чынам адзначалі, ды і ўвогуле ганарыліся, што яны ёсць, што працуюць там прафесіяналы, людзі, якія душу аддаюць і чытачам, і кніжцы… І якія любяць і шануюць нашых пісьменнікаў і маленькім чытачам прывіваюць гэтую любоў. Але магу шмат чаго дадаць і пра тыя бібліятэкі, якія вы згадалі. Вельмі ўхвальна, што ў дзіцячай бібліятэцы № 1 працуе гасцёўня "Дыялог", а ў дзіцячай бібліятэцы № 2 — галерэя вядомай нашай мастачкі Алены Лось, якая "апранула" ў дзівоснае мастацкае афармленне не адзін дзясятак дзіцячых кніжак. Ну, а бібліятэка № 4 — па выніках XIX рэспубліканскага конкурсу "Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры" атрымала першую прэмію ў намінацыі "За значны ўклад у выхаваўчую работу падрастаючага пакалення". Дарэчы, пры ёй вельмі плённа працуе клуб самых маленькіх чытачоў "Рамонак". А дзіцячай бібліятэцы № 6 зусім нядаўна было прысвоена імя нашага выдатнага пісьменніка-казачніка Васіля Віткі. У яе залах да стагадовага юбілею славутага творцы, які сёлета шырока адзначаўся ў маі, праводзілася шмат мерапрыемстваў, у якіх прымалі ўдзел вядомыя пісьменнікі — супрацоўнікі часопіса "Вясёлка". Да слова, пры бібліятэцы створаны філіял музея гэтага шырокавядомага выдання для дзяцей. Вы не назвалі, а я магу параіць вам знайсці час, каб завітаць на творчую сустрэчу ў нашу дзіцячую бібліятэку № 7, дзе цікава працуе краязнаўчы клуб для малодшых школьнікаў "Буслік", там праводзіцца шмат мерапрыемстваў па напрамках "Слова матчына крынічнае" і "Зямля бацькоў — жыцця крыніца"… З гонарам магу сказаць, што ў такім напрамку працуюць усе нашы бібліятэкі, усё-ткі ў выхаванні чалавека галоўнае — з маленства прывіваць яму пачуццё любові да сваёй зямлі, да роднай мовы, да гісторыі і духоўна-культурнай спадчыны народа… І на гэта працуе не толькі літаратура, а і нашы бібліятэкі. Яны ўсе — літаратурна-асветніцкія цэнтры… Гэта можна пабачыць і на нашым сайце, дзе пачынаючы са студзеня гэтага года мы распачалі серыю самых розных віктарын "Знакамітыя людзі". У рамках гэтай серыі ўжо выяўлены пераможцы ў праведзеных віктарынах, прысвечаных творчасці Івана Шамякіна, Івана Мележа, Кандрата Крапівы. А неўзабаве на сайце будзе выстаўлена віктарына, прысвечаная Васілю Вітку.

Прызёры абвяшчаюцца на сайце нашых бібліятэк і ўзнагароджваюцца.

**— Таццяна Аляксееўна, вось вы згадалі пра сайт бібліятэк. А як вы ставіцеся да электроннай кнігі?**

— На кароткае пытанне дам і адказ кароткі. Думаю, што яшчэ не надышоў час, каб была толькі электронная кніжка. Усё-ткі гэта штосьці віртуальнае… Праз папяровую кнігу перадаецца энергетыка духу, душы. І вось гэта галоўнае.

**— Мне вельмі добра дасюль помніцца той дзень ранняй вясны, калі дзесьці ў шасцігадовым узросце ў невялікім гарадку на Берасцейшчыне ўпершыню адчыніла дзверы бібліятэкі, якая размяшчалася тады ў раённым Доме культуры. Тыя паліцы з кніжкамі для дзяцей, дзе пераважна былі казкі, тыя не надта яркія вокладкі ашаламілі... Але мяне цікавіць вось што… Скажыце, Таццяна Аляксееўна, вы зрабілі бібліятэчную справу справай свайго жыцця паводле прызвання? Цяпер гэтае паняцце неяк знікае… У школе падабаецца адно, а прафесію абіраюць іншую, каб была больш грашовай. Гэта кепска. Дык калі вы прыкіпелі душою да бібліятэкі?**

— У дзяцінстве… Перажыла тое, што перажывалі і вы. Помню сваю самую першую бібліятэчную кнігу. Гэта была народная казка "Лёгкі хлеб". З яе вынесла выснову, што нічога лёгкага ў жыцці няма, што заўжды трэба сумленна працаваць, паважаць і любіць сваю справу… Калі вучылася ў 9—10 класах сваёй вясковай школы, вельмі часта прыходзіла ў бібліятэку, і не толькі для таго, каб узяць нейкую новую кніжку. Мне падабалася там працаваць: дапамагала рамантаваць кніжкі, падклейваць зачытаныя. Бацька вельмі хацеў, каб я пайшла вучыцца пасля школы на бухгалтара, а я паступіла ў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, каб ужо ніколі не развітвацца з бібліятэкай… Не толькі ў пісьменнікаў, а і ў бібліятэкараў вельмі часта салодка кружыцца галава ад свежага паху друкарскай фарбы, які яшчэ зыходзіць ад кожнай новай кніжкі, што паступае ў бібліятэку. І, напэўна, не памылюся, калі скажу, што ў нашай сістэме працуюць толькі тыя, хто па-сапраўднаму любіць кнігу, і гэтая любоў — паводле прызвання. Яе мы і імкнёмся прывіць і перадаць дзецям — усім нашым маленькім чытачам.

***На здымку: Таццяна Швед.***

Праектная дзейнасць

# Дзеля роднай Бацькаўшчыны

**Дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна Наталля Чуева ўганаравана французскім Ордэнам Мастацтваў і літаратуры. Узнагароджанне адбылося ў рэзідэнцыі Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Францыі ў Рэспубліцы Беларусь.**

**Ірына ТУЛУПАВА**

Адзін з напрамкаў, у якім актыўна працуе Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна, — прапаганда беларускай і замежнай літаратуры. Дапамагае ў гэтым рэалізацыя шэрагу праектаў. Адзін з іх — наладжаная сумесна з сябрамі зала інфармацыі пра сучасную Францыю. У выніку атрымалася нешта накшталт бібліятэкі ў бібліятэцы, куды, трэба сказаць, пратапталі сваю сцяжыну аматары прыгожага пісьменства краіны Віктора Гюго і Андрэ Маруа.

Наталля Станіславаўна ў адказ на пытанне, што з французскай літаратуры любіць чытаць яна сама, называе менавіта "Лісты незнаёмцы" А. Маруа, вершы Г. Апалінэра і, бадай, усё з Ф. Саган.

У Пушкінку Наталля Чуева прыйшла ў студзені 1976 года. Працавала напачатку бібліятэкарам, загадчыкам сектара інфармацыі і культуры, загадчыкам навукова-метадычнага аддзела, намеснікам дырэктара, а з 1996 года — дырэктарам Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна. "Зроблена многае, нават за апошняе дзесяцігоддзе", — заўважае дырэктар. Перагледжаная структура бібліятэкі, пачалі працаваць два новыя аддзелы: перыядычных выданняў і замежнай літаратуры. Створаны Пушкінскі інфармацыйны цэнтр (адна толькі рысачка: сумесна з Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтрам імя Францыска Скарыны выдалі зборнік "Пушкін і Беларусь").



Да таго ж, вядзецца шмат метадычнай працы. Дастаткова згадаць конкурсы "Слова Купалы да творчасці кліча" і "Юныя таленты Міншчыны", якія прыйшліся даспадобы чытачам і многіх падштурхнулі да творчасці і знаёмства з літаратурай.

Конкурсы

# Вёска расказвае пра сябе

**Таццяна ДАМЕНІКАН,**
**дырэктар Клімавіцкай бібліятэчнай сеткі**

**Нягледзячы на даволі высокі інтэлектуальны ўзровень бібліятэкараў, змены ў свеце прад'яўляюць да нашай прафесіі новыя патрабаванні. Асабліва адчуваецца неабходнасць пастаяннага навучання і ўдасканальвання ведаў.**

Сярод іншага дапамагаюць павышаць прафесійную кампетэнтнасць рознага роду спаборніцтвы. Таму правядзенню раённых конкурсаў сярод бібліятэк Клімаўшчыны надаецца асаблівае значэнне. За апошнія гады супрацоўнікі прымалі ўдзел у самых разнастайных спаборніцтвах, якія праходзілі на раённым узроўні: "Вясёлка ў бібліятэцы" — на лепшую работу клубаў і аматарскіх аб'яднанняў, "Прававая граматнасць даступная кожнаму" — на лепшы бібліятэчны праект па прававой асвеце, "А ў кніжнай памяці імгненні вайны…" — па папулярызацыі ваенна-патрыятычнай літаратуры і інш.

У апошні час набылі вялікую папулярнасць электронныя прэзентацыі. Аддзелам бібліятэчнага маркетынгу распрацаваны і праведзены прафесійны конкурс пад назвай "Вёска расказвае пра сябе: электронная прэзентацыя" сярод бібліятэкараў аграгарадкоў. Слайд-ролікі прыцягнулі ўвагу арыгінальным і эфектным спосабам падачы матэрыялу, зрабілі мерапрыемства больш відовішчным і запамінальным. А для таго, каб навучыць бібліятэчных работнікаў правільна ствараць электронныя прэзентацыі, быў праведзены адпаведны майстар-клас.

Умовы конкурсу прадугледжвалі пошукавую працу па зборы матэрыялу пра мінулае і сучаснае сваёй вёскі, яе гістарычныя помнікі, унікальныя мясціны, выдатных землякоў, пра родную прыроду і адлюстраванне яго ў прэзентацыі. У выніку мы атрымалі найцікавейшы матэрыял, не толькі з гістарычнымі даведкамі, але і з запісанымі легендамі пра ўзнікненне вёсак, з захапляльнымі літаратурнымі падарожжамі па часе, у які жылі славутыя людзі з раёна. Не забыліся расказаць і пра гісторыю сваіх бібліятэк.

Пры падвядзенні вынікаў конкурсу ўлічваліся актуальнасць тэмы, творчы падыход, змест, арыгінальнасць і якасць выканання прэзентацыі, а таксама ўменне лагічна выбудаваць і цікава падаць матэрыял.

Незалежна ад таго, хто быў узнагароджаны, вынікі конкурсу дазваляюць сцвярджаць: яго ўдзельнікі з'яўляюцца добрымі спецыялістамі, прафесіяналамі, якія ствараюць вакол сябе асаблівую аўру і жадаюць паднясці бібліятэчную працу на якасна новы ўзровень, павысіць статус і прэстыж сваёй прафесіі.

Анонс




# Чытайце ў "Бярозцы"

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

**Не сакрэт, што школьнік сёння, з аднаго боку, больш уразлівы і нетрывалы ў перакананнях, чым былі яго равеснікі савецкіх часоў. З другога — схільны да ўцёкаў з рэчаіснасці ў місцічны свет гульні, фантастыкі, казкі. Таму казка, паданне, фантастычны аповед становяцца галоўнымі жанрамі ліпеньскага нумара часопіса (з другой паловы 2011 г. "Бярозка" выходзіць штомесяц).**

Аднак гэта зроблена не столькі з мэтай зацікавіць і павесяліць юнага чытача. За фантастыкай угадваецца цалкам рэальны свет, не менш прыгожы і чароўны.

Што ж канкрэтна знойдзе чытач у ліпеньскім нумары "Бярозкі"? Па-першае, працяг адметнай аповесці Наталлі Бучынскай "Незабыўныя сустрэчы з авечкай Адэляй". Адэля — незвычайная жывёліна. Бо характар у яе — самы людскі. Яна пыхлівая, эгаістычная, лянівая, няўдзячная. Але чамусьці пры ўсім гэтым… надзвычай сімпатычная. Такі характар у незаслужана захваленых падлеткаў, упэўненых, што ўсе павінны рабіць для іх прыемнасці толькі таму, што яны ёсць. Наталля Бучынская дае юным чытачам магчымасць паглядзець на сябе з боку.

Казачніца Алена Масла віртуозна прадстаўляе казачніка Пятра Сіняўскага, а разам і яго кнігу, што рыхтуецца да выхаду ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". Дапаўненнем да сказанага становіцца ўласна казка — "Янкава крынічка".

Галіна Пшонік прапаноўвае юнаму чытачу адчуць сабе дарослым у дачыненні да малодшага брацікa ці сястрычкі, паспрабаваўшы выхаваць яго (яе) з дапамогай казкі. "Прачытай малодшаму" — называецца яе рубрыка. Гэтым разам у ёй змешчана казка "Статут справядлівасці".

Публіцыстыкі ў нумары няшмат, але гэта цікавы нарыс Вольгі Наважылавай пра оперную спявачку Тамару Ніжнікаву і яе дачку, вядомага педагога Алу Ніжнікаву; дослед доктара філалагічных навук, прафесара Аляксандра Рогалева пра паходжанне беларускіх геаграфічных назваў "Чашнікі, Чашкаўшчына, Чашкі, Чаша…".

Адметная рубрыка часопіса — "Атлас свету". Гэтым разам гаворка ў ёй ідзе пра таямнічы Кітай. Чытачы змогуць даведацца сакрэты кітайскіх народных касцюмаў і прачытаць кітайскую народную казку "Падарункі для прыгажуні".

Прыцягваюць увагу і паэзія Іосіфа Рогаля, якая захоўвае ў сабе самыя светлыя ўспаміны пра дзяцінства, і добрая, амаль "калядная" проза Ганны Старковіч "Хлопчык і сабака". Вось толькі твораў саміх школьнікаў пакуль у часопісе нямнога. Але зерне, кінутае ў зямлю, прарастае не адным днём, і нават не адным тыднем. Дарослыя аўтары "Бярозкі" распачалі шчырую размову пра самае галоўнае ў жыцці. І падлеткі, канечне, адгукнуцца, паспрабуюць выказаць уласныя думкі.

Першы крок

# Гэта захапляльная старамоднасць…

**Неяк увесьчасна падавалася, што ўвайсці ў кнігу немагчыма. Унікнуць — можна. А вось фізічна ўвайсці здольныя толькі хіба іншапланетныя істоты. Пакуль не з'явіўся мультфільм пра тое, як небарака-двоечнік скакаў па старонках кніг, і яго там сустракалі памылкова ім жа парастаўляныя коскі, няправільна выкананыя задачкі ды героі казак, якім ён мог дапамагчы. І пакуль гэтага не зрабіў, пакуль не вярнуў усё на свае месцы — выбрацца з кнігі не мог.**

**Філасофскі мульцік. І просты. І пра нашу пісьменнасць распавядаецца ў ім, і пра правільныя адказы на жыццёвыя задачкі. Ды вось наступны расповед пра тое, як раней уводзілі ў бібліятэку, і тым самым — у кнігу, бадай, пацвярджае: мы шмат страцілі менавіта ад таго, што пераcталі прыводзіць чалавека да кнігі.**

**Сваім досведам ад сустрэчы з бібліятэкай дзеліцца галоўны рэдактар часопіса "Алеся" Тамара БУНТО:**



— Мая першая бібліятэка цалкам сфарміравала мае адносіны да кнігі. Гэта дзіцячая бібліятэка ў горадзе Маладзечна, яна была побач з маёй школай. Кніжніца знаходзілася ў маленькім аднапавярховым памяшканні, але там была своеасаблівая атмасфера. Там стаяў пах кніжак! Я дагэтуль люблю, як пахнуць кнігі. Прычым, вельмі люблю кнігі, надрукаваныя на газетнай паперы. Узнікае асацыяцыя з маім дзяцінствам, з кнігамі, да якіх прывыкла. Помню, заходзілі ў кніжніцу і амаль адразу траплялі ў чытальную залу. На сценах — партрэты пісьменнікаў, сярод іх Агнія Барто, Сяргей Міхалкоў… Глядзела на гэтыя партрэты, запаміналa, ведала гэтых людзей! Яны былі вельмі блізкія! Як і танюсенькія кніжыцы, якія каштавалі 5 капеек і былі цікавыя, вельмі правільныя і на дзіва даступныя, зразумелыя, неверагодна маляўнічыя. Нават малюнкі чорна-белыя, выкананыя чорным алоўкам, успрымаліся як выдатныя карціны! Там былі не абстрактныя героі, не фэнтэзі, а героі, за якіх перажываў, каго шкадаваў.

Мы хадзілі ў бібліятэку калі не кожны тыдзень, то праз тыдзень і мянялі кніжыцы, бралі нешта яшчэ! Дарэчы, тады існавала вельмі добрая традыцыя: у пачатку года прыходзіла да нас бібліятэкар і расказвала пра новыя кніжныя паступленні. Расказвала так, што хацелася адразу пабегчы, узяць кнігі і прачытаць іх ад коркі да коркі. Вадзілі нас у бібліятэку класам, там мы выбіралі што чытаць, — была сістэма, калі дзяцей прывучалі да кніг, уводзілі ў кніжны свет, уводзілі ў кнігу! Па школьнай праграме таксама сачыненні пісалі: "Мая любімая кніга", "Якія кнігі я прачытаў летам". Складвалася нейкая асаблівая культура чытання, так што з гэтым багажом пасля ішоў праз усё жыццё.

З часу свайго дзяцінства запомніла задавальненне ад магчымасці пайсці ў бібліятэку і сустрэцца са сваімі любімымі кнігамі ў чытальнай зале… Бо не ўсе кнігі выдавалі на рукі: дзіцячыя энцыклапедыі не выдавалі, маляўнічыя альбомы таксама, і часопісы не ўсе можна было выпісаць. А пасля ў старэйшых класах мы ў бібліятэках рыхтаваліся да сачыненняў, у студэнцкія гады пісалі рэфераты і курсавыя працы. Я настолькі палюбіла атмасферу чытальнай залы, што нават дома цяпер знаёмлюся з кнігамі толькі седзячы за сталом: не магу чытаць у ложку. І сёння я па-ранейшаму вельмі люблю хадзіць у бібліятэкі. Мая любімая — бібліятэка Цэнтральнага Дома афіцэраў.

Магу згадаць і сваю першую дарослую кнігу, якую прачытала ў дзяцінстве. Гэта быў тоўсты сапраўдны фаліянт — я яго знайшла ў старэйшай сястры. Аказалася, што кніга без вокладкі. Яна была з жоўтымі старонкамі, зачытаная. Адразу адчувалася: кнігу многа-многа разоў бралі ў рукі. І я ўзяла: там быў неверагодна цікавы тэкст! Гэта быў іншы свет, іншае жыццё. Я чытала, і на адной са старонак знайшла ўнізе: Т. Драйзер: "Сястра Кэры". Першая дарослая кніга была настолькі цікавая, што я зрабіла выснову: цікавыя асобнікі — зачытаныя, на жоўтай ад часу паперы! І нават калі яна без вокладкі — усё роўна сапраўдная кніга!

Маёй хатняй бібліятэцы таксама шмат гадоў. Лічу, што "старамоднасць" кнігі гаворыць толькі пра тое, што яна цікавая: калі яе захоўваюць столькі гадоў, яна вартая таго! А калі некранутыя карашкі, ды яшчэ падраныя па колеры з кнігі побач — то гэта кнігі для інтэр'ера.

# Маталяне запрашаюць гасцей!..

**Традыцыяй стала правядзенне ў Іванаўскім раёне на Берасцейшчыне міжнароднага фестывалю “Мотальскія прысмакі”. Вось і ў мінулыя выхадныя сабраліся ў Моталі госці з усёй краіны. Тое, што ўся вёска выйшла на вуліцы, цэнтральную плошчу колішняга мястэчка, не выклікала ніякіх сумненняў. А аўтобусы, машыны імчалі ў старажытнае паселішча з самых розных куткоў Палесся і нават усёй Беларусі.**

**Максім ЖАЛЕЗІНКА,**
**фота Веранікі Лазоўскай**



З самай раніцы ў суботу, 13 жніўня, на вуліцах працавалі гандлёвыя рады. Дзеці радавалі сваімі талентамі на пляцоўцы “Вясёлкавая хатка”. Іванаўская школа бондарства, адзначаная спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прадставіла свае вырабы — бочкі, кадушкі і іншыя побытавыя рэчы. Мясцовая дзіцячая школа мастацтваў знаёміла з работамі сваіх навучэнцаў. “Горад майстроў” сабраў самых розных рамеснікаў, майстроў народнай творчасці. Да ўвагі гасцей, удзельнікаў свята былі кавальскія і ганчарныя вырабы, ручнікі, посцілкі, габелены… Усё можна было разглядзець, а тое, што прыйшлося даспадобы, і набыць. На некалькіх пляцоўках выступалі самадзейныя і прафесійныя артысты. Свае народныя калектывы прывезлі ў Моталь не толькі раёны Берасцейшчыны, але і Любань, Капыль, іншыя не такія ўжо блізкія гарады Беларусі. Асобную праграму гасцям прадстаўляў і дом-музей Хайма Вейцмана — першага прэзідэнта Ізраіля, які нарадзіўся ў Моталі ў 1874 годзе.

Але самыя галоўныя дзействы фестывалю — знаёмства з нацыянальнай беларускай кухняй, пачастунак адмысловымі палескімі стравамі. У мясным радзе праводзіўся конкурс “Усе ласы на мотальскія каўбасы!”. А рыбны рад наладзіў сваю праграму, дзе кульмінацыйным пунктам быў конкурс “Шыкалаеўская Fish — смакам нас усіх здзівіш!”. У пекарным радзе праводзілася спаборніцтва пад назвай: “Мотальскія каравai — на ўсе густы выбіраем!”. І сталыя ўдзельніцы свята не абышліся без конкурснай праграмы, якую наладзіла “Бабуліна кухня”. Гародніна на гандлёвых радах здзіўляла сваімі памерамі, а гасцей ля ўваходу на “тэрыторыю свята” сустракалі гарбузовыя маталяне — Ён і Яна, ды такія ўжо тэатралізаваныя, сімпатычныя, што неўспадзеў падумалася: “Сапраўдную батлейку, тэатр можна ладзіць з гарбузовых фігурак!” На бульбяным радзе праводзілі конкурс “Бульбяны эксклюзіў”, а на сырным — “Янаўскія і Псышчаўскія сыры — якасная работы дары!”. Янавам некалі называўся сённяшні раённы цэнтр Іванава — горад, альбо, як яго яшчэ называлі, лабары, шусто. Так, была ў Іванаве і мова свая — лабарская гаворка. Ёю карысталіся тыя, хто займаўся промыслам па збіранні ахвяраванняў на царкву. А каб ніхто не ведаў, што яны, лабары, робяць, то і гаварылі палабарску. Астатняя — вяскоўцы ці “мэць” не павінны былі ведаць іх таямніцы, іх гісторыю. Хаця і ў Моталі ёсць свае моўныя залацінкі. Праўда, ужо болей зразумелыя, нягледзячы на цікавую дыялектычную афарбоўку.



Мядовы рад свята праводзіў конкурс “Наш мядок — у душы ладок”. А ў тым, што мёд і сапраўды варта паспытаць, пераконвала і рэклама пры продажы. Бо і візітоўку пчаляры прапаноўвалі — з адрасам, тэлефонамі, і сапраўдны рэкламны праспект. Значыць, нясуць людзі адказнасць за выробленую прадукцыю, жадаюць і надалей бачыць у Моталі задаволеных пакупнікоў. Усе сельскія саветы Іванаўскага раёна выставілі пачастунак. Гаспадыні ў строях і напоі гасцям прапаноўвалі, і стравамі рознымі запрашалі да сябе. Гарачыя дранікі, бабка як з печы, бліны, квас — чаго тут толькі не было!

Завяршылася свята ўжо бліжэй да вечара праграмай “Мотальскія пацехі”. Крыху і гасцей з далёкіх краёў на той час раз’ехалася, а вось вяскоўцаў, моладзі на вуліцах не паменела. Не ведаю, мо хто і да раніцы святкаваў!

Сярод арганізатараў свята штогод сваё месца займае аналітычны цэнтр EcooM. Вось я і запытаўся ў яго дырэктара Сяргея Мусіенкі пра ўражанні ад фестывалю:

— Мне імпануе ўдзел у фестывалі, — зазначыў Сяргей Рыгоравіч. — Па-першае, людзі не загружаныя вялікімі праблемамі, па-сапраўднаму адпачываюць. Па-другое, менавіта такія фестывалі здольныя прыцягнуць увагу замежных гасцей да краіны, праз добрыя стравы расказаць нешта новае і не ўсім вядомае пра Беларусь і беларусаў. Фармат мотальскага свята якраз і прадстаўляе такую магчымасць — магчымасць спасціжэння па-добраму правінцыйнай і разам з тым багатай у сацыяльным, духоўным плане краіны. Спадзяюся, што ўслед за чацвёртым па ліку яшчэ ярчэйшым і цікавейшым будзе і пяты міжнародны фестываль “Мотальскія прысмакі”. Так што да наступнага жніўня, да новай сустрэчы ў Моталі!

*“Менавіта такія фестывалі здольныя прыцягнуць увагу замежных гасцей да краіны, праз добрыя стравы расказаць нешта новае і не ўсім вядомае пра Беларусь і беларусаў. Фармат мотальскага свята якраз і прадстаўляе такую магчымасць.*

## Афарызм

*Адбітая у зрэнках, бы ў палонцы,*
*Зямля мая ўстае перада мной,*
*Высокая і чыстая, як сонца.*
*Чысцейшая, бо плям няма на ёй.*

**Уладзімір Караткевіч**

З глыбінкі

## Удалы піяр

**Бібліятэкі Навагрудскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы актыўна падтрымалі рэспубліканскую акцыю “Чытаем па-беларуску” і абласную “Чытаем беларускую кнігу” і ініцыіравалі праект “Адкрый для сябе беларускую кнігу”. Яго мэта — прыцягнуць увагу жыхароў Навагрудчыны да чытання на роднай мове, абудзіць цікавасць да беларускай мастацкай кнігі.**

Навагрудская цэнтральная раённая бібліятэка акцэнтуе ўвагу жыхароў раёна на беларускай кнізе з дапамогай інфармацыйна-краязнаўчых тураў “Праз бібліятэку да дабра і свету”, якія паспяхова крочаць па бібліятэках аграгарадкоў раёна. Адкрывае сустрэчу літаратурны подыум “Брава беларускай кнізе”. На літаратурны Алімп паступова ўзыходзяць 16 кніг беларускіх аўтараў, якія кранулі сэрцы чытачоў. Гэта празаічныя і паэтычныя кнігі, выдадзеныя для дзяцей і падлеткаў, гістарычныя раманы А. Бутэвіча і А. Наварыча, зборнікі вершаў Р. Барадуліна і А. Пісьмянкова, кнігі сапраўднай жыццёвай прозы Г. Марчука і К. Камейшы, У. Ліпскага і А. Брава, казкі Р. Баравіковай і П. Васючэнкі. Жывы інтарэс выклікае электронная гульня “З любоўю да беларускай кнігі”. А яшчэ жыхарам горада і вёсак прапанавалі далучыцца да чытання на роднай мове праз фотааб’екты і аб’явілі фотаконкурс “Навагрудчына чытае беларускую кнігу”.

У межах праекта “Адкрый для сябе беларускую кнігу” Навагрудская цэнтральная раённая бібліятэка праводзіць рэкламную кампанію па папулярызацыі беларускай літаратуры “Чытанне — шлях да поспеху”. Рэкламуюць любімыя творы і дзеячы ўражаннямі кіраўнікі і спецыялісты аддзелаў райвыканкама, прадпрыемстваў і ўстаноў горада.

Навінкі беларускай мастацкай літаратуры бібліятэкары прэзентуюць з дапамогай лістовак-закладак: калі чытач шануе, напрыклад, расійскую ці замежную фантастыку, то ўручаюць яму лістоўку-анонс пра беларускіх аўтараў-фантастаў і іх творы. А пра навінкі беларускай літаратуры, што паступілі ў бібліятэкі раёна, паведамляецца на сайце раённай бібліятэкі.

Маленькім чытачам бібліятэкары прапанавалі прыняць удзел у творчым конкурсе “Малюем Вятрыску” па кнігах Генадзя Аўласенкі “Дзівосныя прыгоды Вятрыскі з вентылятара” і “Новыя дзівосныя прыгоды Вятрыскі з вентылятара”, што праводзіць часопіс “Бярозка”. Гэтыя творы захапілі юных чытачоў бібліятэкі. Вынікам стала выстава малюнкаў, якая на працягу месяца дзейнічала ў чытальнай зале. Цяпер малюнкі адпраўленыя на конкурс у Мінск.

**Ірына ЦАРУК,**
**г. Навагрудак**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:** 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:** галоўны рэдактар — 284-84-61; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:** публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04, аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на “ЛіМ”. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** “Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2840
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 18.08.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3965
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686